

**Граф Юзаф Антоні Салагуб, (26.07.1709- 04.05.1781)**
*уладальнік Вашкевічаў з 1748 г., Мінойтаў з 1750 г., фундатар уніяцкай царквы ў Ганчарах у 1774 г. (стаіць да сёння), ваявода віцебскі, маршалак Трыбуналу ВКЛ, кавалер ордэна Белага Арла. Пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай адмовіўся прысягнуць Кацярыне II са сваіх віцебскіх уладанняў.*

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





**Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс**
**Выходзіць з 1997 года**

**№ 1 ( 73 ) СТУДЗЕНЬ - САКАВІК 2016 г.**

## У НУМАРЫ:



**На першай старонцы выкладкі макет помніка заснавальніку Ліды вялікаму князю Гедзіміну.**
*Аўтар Рычард Груша.*



**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: 231282, Ліда-2, п/с 7, або E-mail: naszaslowa@tut.by**

**Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў**

**Пасведчанне аб рэгістрацыі № 907 ад 18.12.2009 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь**

Заснавальнік
**Валерый Васільевіч Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук.

Рэдактар
**Станіслаў Вацлававіч Суднік**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ:**
**231293, Лідскі р-н, в. Даліна**
**АДРАС САЙТА:**
**http// naszaslowa.by**

**Наклад 300 асобнікаў**
**8 друк. аркушаў**
**Газета надрукавана ў Лідскай друкарні. 231300, г. Ліда, вул. Ленінская, 23.**
**Замова № 2182.**
**Часопіс падпісаны да друку 30.03.2016 г.**
**Часопіс надрукаваны 30.09.2016 г.**

**Падпісны індэкс 00257**
**Кошт падпіскі:**
**індывід. 3 мес. - 12300 руб.**
**індывід. 6 мес. - 24600 руб.**
**Кошт у розніцу: вольны.**

ISSN 2218-1792






# Гістарычна-краязнаўчая канферэнцыя "Гэта мой горад!"

## *(г. Бярозаўка, Лідскі р-н)*

- Добры дзень, паважаныя сябры! Я ўпэўнены, што ў гэтай зале сёння сабраліся сапраўдныя сябры, якіх аб'ядноўвае адно цудоўнае і творчае захапленне - цікавасць да гісторыі роднага горада, такога сціплага і такога вядомага ў шматлікіх краінах свету, таму наша сустрэча - канферэнцыя і мае назву - "Гэта мой горад!", - так звярнуўся 27 лютага да сабраных у актавай зале СШ № 2 г. Бярозаўкі Сяргей Трафімчык, сябар Лідскай арганізацыі ТБМ.



*Сяргей Трафімчык*



*Юрый Жыгамонт*

У зале акрамя вучняў, аматараў краязнаўства з Бярозаўскай гімназіі і дзвюх школ сабраліся таксама:

- Юрый Жыгамонт, вядомы тэлевядовец Беларускага нацыянальнага тэлебачання, аўтар і вядовец папулярнай перадачы "Падарожжа дылетанта", які і распачаў выступы палымянымі словамі на карысць краязнаўства і беларускай мовы;

- Станіслаў Суднік, сябар саюза беларускіх пісьменнікаў, рэдактар часопіса "Лідскі летапісец", старшыня Лідскай гарадской арганізацыі "Таварыства беларускай мовы";

- навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея Алесь Хітрун;

- Мечыслаў Супрон - краязнавец, вядомы даследчык гісторыі Лідчыны;

- Сяргей Дычок і Андрэй Буяк - бярозаўцы, якія захапляюцца мінулым, а мінулае захапляе іх.



*Дзмітрый Сідор*



*Ганна Мажэйка*

На канферэнцыю было падрыхтавана 11 дакладаў. Першымі да трыбуны пайшлі дзеці:



- Сідор Дзмітрый, вучань 11 класа, гімназіі № 1 г. Бярозаўкі, тэма "Шляхамі вайны", кіраўнік Казлова Т.З.

- вучаніца 6 класа, гімназіі № 1 г. Бярозаўкі Мажэйка Ганна, з тэмай "Малочная прамысловасць на прылаўках крам горада Бярозаўкі", кіраўнік Мажэйка Н.В.

- вучань сярэдняй школы № 2 г. Бярозаўкі - Несцер Дзмітрый з дакладам "Дыялектны слоўнік жыхароў горада Бярозаўкі", кіраўнік Несцер С.В.

- Кротава Марыя, 9 "Б" клас ДУА "Бярозаўская сярэдняя школа № 3" з тэмай "Зараджэнне і росквіт горада над Нёманам", кіраўнік Матусевіч Т.У.

- Савельева Кацярына вучаніца ДУА "Бярозаўская сярэдняя школа № 3", 9 "Б" клас з тэмай: "Радавод сям'і Столе", кіраўнік - Матусевіч Т.У.

- Рабкоўская Анастасія, 11 класс, ДУА "Бярозаўская сярэдняя школа № 3", тэма "Гісторыя касцёла Спаслання Святога Духа", кіраўнік Матусевіч Т.У.

Station Станіслаў Суднік выступіў з тэмай: "Адміністрацыйная прыналежнасць тэрыторый на мяжы Лідскага, Навагрудскага і Слонімскага паветаў (Лідскага, Навагрудскага і Дзятлаўскага раёнаў) або *Чаму Бярозаўка адносіцца да Лідскага раёна?*

Алесь Хітрун распавёў пра методыкі краязнаўства.

Мечыслаў Супрон раскрыў тэму: "Археалагічныя знаходкі ў ваколіцах Бярозаўкі".



***Дзмітрый Несцер***



***Марыя Кротава***



***Кацярына Савельева***



***Анастасія Рабкоўская***

Сяргей Дычок дакапаў такі тэму: "Зянон Ленскі - заснавальнік Гуты: факты раней вядомыя і наноў адкрытыя" і пацвердзіў, што заснавальнікам Бярозаўкі з'яўляецца паўстанец 1863 года.

Андрэй Буяк прадтавіў фоташэраг "Горад і людзі: гісторыя Бярозаўкі ў фотаздымках".

Напрыканцы прадстаўніца аддзела адукацыі Федаровіч І.І. павіншавала ўдзельнікаў, выказала ўдзячнасць кіраўнікам тэмаў.

Вучням-дакладчыкам былі ўручаны падарункі ад ТБМ, а гаспадар - дырэктар СШ № 2 атрымаў аркуш карты польскага Генштаба за 1922 год з тэрыторыяй вакол Бярозаўкі.

Была раздадзена вялікая колькасць часопіса "Лідскі летапісец" і паштовак серыі "Не забывайма беларускія словы",

Канферэнцыя крыху зацягнулася, але гэта таму, што праходзяць падобныя імпрэзы рэдка. Калі праводзіць іх часцей, то даклады будуць больш кароткія і вузка скіраваныя, але пачатак неблагі.

***Яраслаў Грынкевіч.***



***Алесь Хітрун***



***Мечыслаў Супрон***



***Сяргей Дычок***



***Андрэй Буяк***

# КРОНІКА ЛІДЫ



Праз 13 гадоў Ліда вярнула сабе статус горада-"статысячніка". Колькасць насельніцтва горада вярнулася да ўзроўня пачатку тысячагоддзя.

Гучны статус "статысячніка" горад страціў у 2003 годзе. У параўнанні з 2002-м колькасць насельніцтва тады скарацілася адразу на 735 чалавек і стала 99 810. І толькі праз 13 гадоў Ліда зноў змагла перасягнуць 100-тысячную мяжу. Як паведамілі ў аддзеле статыстыкі Лідскага раёна, на 1 студзеня цяперашняга года ў раённым цэнтры зарэгістравана 100 443 жыхары Ліды. Для параўнання: у 2015-м жыхароў было 99976, у 2014-м - 99928, у 2013-м - 99430, у 2012-м - 98744…



У пачатку студзеня 2016 г. намеснік начальніка інспекцыі Міністэрства па падатках і зборах Рэспублікі Беларусь па Лідкім раёне **Вера Белавокая** ўзнагароджана медалём “За працоўныя заслугі”.






У студзені 2016 года ўзнагароджаны орэнам Маці:
**Самакар Марыя Генрыхаўна;**
**Вянско Алена Міхайлаўна.**






У канцы студзеня 2016 года ў Лідскім гістарычна-мастацкім музеі прайшла прэзентацыя фільма пра Лідскі замак студыі "Летапіс" кінастудыі "Беларусьфільм".

Аўтарам ідэі і сцэнарыяў з'яўляецца дырэктар студыі Уладзімір Мароз. Над кожным з дзевяці фільмаў працаваў свой рэжысёр. Рэжысёр фільма пра наш Лідскі замак - Ірына Волах. Здымачная група на чале з ёй працавала ў нашым горадзе ў кастрычніку 2015 г.

Кансультант - кандыдат гістарычных навук Алег Трусаў.



У пачатку лютага 2016 года ў Лідзе і Воранаве ішлі здымкі дакументальнага фільма пра генерала **Кіпрыяна Кандратовіча** з цыклу перадач "Загадкі беларускай гісторыі". Аўтар і вядовец - доктар гістарычных навук Алесь Краўцэвіч.




У пачатку лютага 2016 года Лідскі мясакамбінат стаў пераможцам рэспубліканскага конкурсу "Прадукт года - 2015".



Напярэдадні Міжнароднага дня роднай мовы 21 лютага 2016 года ў Лідзе ўстаноўлены тры білборды ў падтрымку беларускай мовы. Два пано ўстаноўлены па праспекце Перамогі - каля кнігарні і "архітэктуры". Трэцяе пано ўстаноўлена ў пачатку вуліцы Камуністычнай адразу за мостам на Слабаду.

Пано ўстаноўлены пры ўзаемадзеянні Лідскай гарадской арганізацыі ТБМ імя Ф. Скарыны з ідэалагічным аддзелам Лідскага райвыканкама і воляй лёсу выдатна ўпісаліся ў плынь мерапрыемстваў абвешчанага месяц таму Года культуры.








Да Міжнароднага дня роднай мовы 21 лютага 2016 года Лідская гарадская арганізацыя ТБМ выпусціла камплект паштовак пад адзіным заклікам: "Не забывайма беларускія словы". Агульны наклад - чатыры тысячы асобнікаў.

У акрэсе 21 лютага 2016 г. Лідчына пісала 9-ю Агульнанацыянальную дыктоўку.

Сёлета на 45 пляцоўках Лідскага раёна дыктоўку пісалі 5500 чалавек, што больш, чым ва ўсёй астатняй Беларусі разам узятай.



















У пачатку сакавіка 2016 г. ААТ "Лідскія харчканцэнтраты" атрымала на міжнароднай выставе харчовай прамысловасці ў Маскве "Прадэкспа - 2016" тры дыпломы, залаты і срэбны медалі конкурсу "Лепшы прадукт".





***Польскі візавы цэнтр у Лідзе***

У сакавіку 2016 г. у Лідзе адкрыўся польскі візавы цэнтр. З 18-га сакавіка, падаць дакументы на візу можна ў Лідзе па вуліцы Радзюка, 2а. Жыхарам вобласці зараз не трэба ехаць у Гародню. Увесь комплекс паслуг: запаўненне анкет, зняцце біяметрычных дадзеных, паслугі фатаграфіі і страхавання будуць даступныя ў Лідзе. Працуе цэнтр з 9 да 17 гадзін па буднях. Гэты візавы цэнтр стаў другім у вобласці і восьмым у краіне. Такія ўстановы адкрытыя ў Менску, Пінску, Баранавічах, Берасці, Гомелі і Магілёве.

У сакавіку 2016 г. на базе Лідскага дзяржаўнага музычнага каледжа прайшоў 22-гі адкрыты абласны конкурс імя Канстанціна Горскага.

Годна выступілі ў конкурсе імя Горскага і прадстаўнікі Ліды. Асабліва шмат дыпламантаў сярод лідзян аказалася ў намінацыі "Гітара". Так, дыпломам I ступені ў дадзенай намінацыі ганараваны Фёдар Шчэлін (Лідская дзіцячая музычная школа мастацтваў) і Анастасія Рак (Лідская ДМШМ). Настаўнікам абодвух дыпламантаў з'яўляецца Ірына Рыбак. Дыпломы II ступені - у Віталя Аніскевіча (Лідская ДМШМ, настаўнік - Ірына Рыбак) і Георгія Рыбака (Лідская ДШМ, настаўнік - Васіль Сечка). Дыпламантамі III ступені сталі вучні Васіля Сечкі Арцём Качалка, Піліп Віхатэнка (Лідская ДШМ), Вера Кадлубай (школа педпрактыкі пры Лідскім дзяржаўным музычным каледжы).

У намінацыі "Балалайка" дыпломам I ступені ўзнагароджана Аляксандра Бялова, дыпломам II ступені - Аляксей Бортнік (абодва займаюцца ў Лідскай дзіцячай музычнай школе мастацтваў, настаўнік - Святлана Марозава, канцэртмайстар - Наталля Бяльчыцкая).

Два дыпламанты сярод лідзян ёсць і ў намінацыі "Домра". Гэта навучэнцы Лідскай ДМШМ Паліна Абрамава (дыплом II ступені, настаўнік - Галіна Недагарак, канцэртмайстар - Алена Каршун) і Ксенія Швец (дыплом III ступені, настаўнік - Ірына Лайкоўская, канцэртмайстар - Людміла Булыга).



***Лідскі музкаледж***

# Лідскія юбіляры 2016 года

## Юбілей Крыстыны Лялько - маці "Ave Maria" і руплівай апякункі хрысціянскай Беларусі

### *Гутарка Аксаны Ючкавіч з Крыстынаю Лялько*

30 сакавіка, у час, калі абуджаецца і адраджаецца ўсё навокал у прыродзе, у 1956 годзе на хутары Хадзюкі пад Лідай нарадзілася яна - **Крыстына Лялько**, каб сваім жыццём і працаю таксама абуджаць і адраджаць сваю Радзіму, беларусаў, захоўваць скарбы мінулага і несці надзею для новых пакаленняў.

У 2016 годзе пісьменніцы, паэтцы і перакладчыцы, даме папскага медаля "Benemerenti" - "Асабліва заслужаным" споўнілася 60 гадоў, з якіх 22 гады яна прысвяціла і працягвае прысвячаць часопісу "Ave Maria". 21 год Крыстына Лялько з'яўляецца галоўным рэдактарам часопіса "Наша вера", гуртуючы вакол яго лепшых журналістаў і навукоўцаў, якіх хвалюе захаванне духоўных спажыткаў беларускага народа.

Яе рэдактарскае жыццё дапаўняецца творчым, у тым ліку актыўнай перакладчыцкай дзейнасцю. Ёй належаць пераклады многіх кніг, энцыклік і апостальскіх лістоў святога Яна Паўла II на беларускую мову ("Пераступіць парог надзеі", "Дар і таямніца", "Fides et ratio", "Устаньце, хадзем", "Памяць і самасвядомасць" і інш.), вершаў кс. Яна Твардоўскага, кс. Вацлава Бурылы, кс. Яна Соханя і іншых хрысціянскіх паэтаў.

Крыстына Лялько дала магчымасць усім беларусам знаёміцца на роднай мове з помнікам містычнай літаратуры мінулага стагоддзя - "Дзённікам" св. Фаўстыны Кавальскай, які якраз у год яе юбілею чытае ўся Беларусь, перажываючы Юбілейны Год Божай Міласэрнасці. Ці не праяўляецца ў гэтым новая містыка і таямніца Божага Провіду?

Каб для нас адкрылася яшчэ больш постаць Крыстыны Лялько, Аксана Ючкавіч задала некалькі пытанняў юбілярцы, якую шчыра віншуе і якой складае шчырую падзяку за талент, які яна выкарыстоўвае на хвалу Божую і служэнне свайму народу.

***- Спадарыня Крыстына, маё першае пытанне пра найпершае ў вашым жыцці: пра першыя крокі і першыя словы...***

- Найпершае - гэта радзіма, маці, парог роднае хаты і падворак каля яе, зарослы пругкім румянкам, на які ўпершыню ступілі твае босыя ногі; малады садок у ружовай кіпені цвету, з гудам пчолаў у кронах і жоўтымі цёплымі сонейкамі малачаю ўнізе, каля самага твару.

Найпершае - гэта адкрыццё роднага свету, калі,



па словах Гуардзіні, "усё яшчэ жыло ў невымоўнай чысціні пачатку". Гэта высокая і непаўторная паэзія пачатку, якая застаецца з чалавекам на ўсё жыццё і прыходзіць як паратунак у самыя безнадзейныя хвіліны дарослага жыцця. Увогуле, як слушна заўважыў Поль Рыкёр: "Чалавек - гэта істота з доўгім дзяцінствам". І дзякуй Богу!.. А першае слова, зразумела, было: "Мама".

***- Вы з пяшчотаю і любоўю пішаце пра сваю матулю ў вершах і прозе, часта згадваеце яе ў інтэрвію і размовах. Што з яе жыццёвага вопыту вы змаглі перанесці ў сваё жыццё і чаму ўдалося ад яе навучыцца? Які ўплыў на вашае духоўнае жыццё яна мела?***

- Вельмі вялікі. Мама заўсёды была і застаецца для мяне цэнтрам сусвету, маім маральным аўтарытэтам. Усё сваё жыццё яна кіравалася хрысціянскім,



***Крыстына Лялько ў 3-гадовым узросце, у сукеначцы, пашытай мамінымі рукамі***

бенедыктынскім правілам: *Ora et labora* - малітва і праца. Гэтаму з маленства вучыла і мяне. Мама была вельмі працавітая і гультайства лічыла найгоршым калецтвам для чалавека. Я не бачыла, калі яна клалася спаць і калі ўставала. Яшчэ ў маім раннім маленстве доўгімі зімовымі вечарамі мама прала кудзелю, а раннюю вясною ткала кросны - ручнікі, дзяругі, дываны з непаўторнымі ўзорамі, якія сама прыдумвала-малявала; у нас і сёння ў хаце на хутары стаіць яе нажная машынка - мае самыя прыгожыя сукеначкі ў маленстве з фальбонкамі-пелярынкамі, самыя мяккія і зручныя піжамкі, каптанікі і камізэлькі (нават ужо ў дарослым жыцці) былі пашыты яе ўдалымі рукамі. А як яна шчыравала на зямлі! Наш агародчык каля хаты з ранняй вясны да позняй восені ярчэў самымі рознымі кветкамі. У мамы было тонкае адчуванне прыгажосці. Букеты з палявых і лясных кветак, якія яна збірала і якія заўсёды стаялі ў нашай хаце, былі непаўторныя. Працуючы, мама часта спявала: у яе быў прыемны голас і добры слых. І, бадай, самае важнае, чаму мама мяне ўсё жыццё вучыла - павазе і любові да ўсяго жывога на зямлі. Я найбольш удзячная ёй за гэтую навуку любові і за жывую веру, якую яна мне перадала - за тое, без чаго немагчыма заставацца чалавекам і, напэўна, увогуле немагчыма выжыць у гэтым свеце.

***- Прыйшоў час і вам давялося пакінуць родную хату і выправіцца ў сталіцу: пасля заканчэння школы вы паступілі на філфак БДУ. Якою была ваша першая сустрэча з Менскам?***

-Чамусьці найбольш памятаецца мая вандроўка ў Купалаўскі сквер. Там мяне заспела нечаканая восеньская навальніца. Па небе гойсалі маланкі, пагрукваў гром, а я, як зачараваная, стаяла перад помнікам Янку Купалу і ў нябесных гуках мне чуўся голас паэта. Тады склаўся мой першы "сталічны" верш, а тая сустрэча з Купалам у бронзе ў нечым была сімвалічная, бо адразу пасля заканчэння ўніверсітэта я прыйшла працаваць у ягоны Дом - уЛітаратурны музей паэта...

***- Сапраўды, цікава. Распавядзіце, калі ласка, пра першыя ўражанні свайго студэнцтва - пра першыя знаёмствы са сваімі будучымі сябрамі...***

- Самае першае блізкае знаёмства было з дзяўчатамі-аднакурсніцамі, з якімі мы пасяліліся ў 411-м пакоі ў студэнцкім інтэрнаце на былой Паркавай магістралі (цяпер - праспект Пераможцаў). Гэты інтэрнат узгадваў не адно пакаленне айчынных філолагаў. Пра яго ў свой час напісаў таленавіты паэт з трагічным лёсам Анатоль Сербантовіч:

*"На Паркавай прыгорбленыя хаты,*
*На Паркавай высокі інтэрнат,*
*Выходзіш ты на голас глухаваты,*
*Захутваешся ў тоненькі халат".*

У тыя, 1970-я гады наш студэнцкі пяціпавярховік сапраўды быў самым высокім будынкам на Паркавай. Цяпер, гледзячы на шклобетонныя хмарачосы



***З сяброўкаю Чаславаю на родным хутары. 1964 г.***

на месцы "прыгорбленых хатаў" і нашага інтэрната, ужо цяжка ў тое паверыць... Што ж да сяброў - іх у студэнцтве было шмат і найбольш сярод тых, з кім давялося пазнаёміцца ў літаб'яднанні "Узлёт", якім кіраваў вядомы паэт і літаратуразнавец, прафесар Алег Антонавіч Лойка. Гэта былі маладыя паэты Мікола Мятліцкі, Анатоль Шушко, Іван Рубін, Васіль Сахарчук, Віктар Стрыжак, Алесь Пісьмянкоў, Уладзімір Марук і паэткі Тамара Купрэвіч і Яўгенія Мальчэўская... На жаль, многія з іх ужо адышлі ў вечнасць. А тады мы часта збіраліся ў тым нашым 411-м пакоі або ў якім-небудзь іншым і чыталі вершы, размаўлялі пра літаратуру, спрачаліся.

***- А якія ў той час былі прыярытэты - у вас, у вашых сяброў? Пра што марылі, што хацелася спраўдзіць у сваім жыцці?***

- Напэўна, не памылюся, калі скажу, што аднымі з самых важных прыярытэтаў былі для ўсіх нас літаратура і творчасць. Мы марылі друкавацца. Памятаю, якая я была шчаслівая, калі на трэцім курсе мае вершы былі апублікаваны ў часопісе "Полымя". Аддзелам паэзіі там загадваў паэт-франтавік Анатоль Вялюгін. Прайсці праз яго патрабавальны адбор лічылася вельмі ганаровым...

У той час у рэспубліцы выходзіў штогадовы альманах "Дзень паэзіі", калектыўныя зборнікі маладых паэтаў, у якіх кожны з нас марыў надрукавацца. Мы жылі родным словам. Паглыбляць гэтае жыццё нам дапамагалі нашы выкладчыкі: народны паэт Беларусі, вядомы фальклярыст, прафесар Ніл Сымонавіч Гілевіч, які чытаў у нас курс народнай творчасці; тэарэтычныя веды па паэтыцы пашыраў вядомы літаратуразнавец і пісьменнік Вячаслаў Пятровіч Рагойша; хараство літаратурнай мовы раскрывала перад намі Ніна Іванаўна Гілевіч... А яшчэ ж былі сустрэчы з вядомымі пісьменнікамі і паэтамі ў літаб'яднанні "Узлёт", былі літаратурныя вечарыны, на якія мы заўсёды імкнуліся трапіць. У той час жылі і пісалі такія выдатныя майстры слова як Іван Мележ, Янка Брыль, Уладзімір Караткевіч, Васіль Быкаў, Максім Танк, Пімен Панчанка і многія іншыя, якіх мы мелі шчасце не толькі чытаць і вывучаць на філфаку, але і бачыць, і чуць. Усё гэта паглыбляла любоў не толькі да роднай мовы і літаратуры, але і да беларушчыны ўвогуле, выхоўвала нас патрыётамі.

***- А хто для вас быў першым настаўнікам у літаратуры? Якія былі ягоныя парады ці, можа, урокі?***

- Мне ў гэтым вельмі пашанцавала: маё першае апавяданне, апублікаванае ў 1979 годзе ў тыднёвіку "Літаратура і мастацтва" (я тады была студэнткаю пятага курса), заўважыў выдатны пісьменнік, тонкі стыліст, цудоўны знаўца роднай мовы і светлы, высакародны чалавек Ян Скрыган. З таго часу пачалося наша творчае сяброўства: Ян Аляксеевіч чытаў амаль усё, што я пісала, часам рабіў заўвагі - пісаў на палях маіх тэкстаў свае думкі дробным, акуратным почыркам. Ён быў аўтарам прадмовы і рэдактарам маёй першай кнігі прозы "Дарога пад гару". Я і сёння памятаю, як ён мне раіў: "Калі сумняваешся ў якой-небудзь



***Аўтарка першага апавядання "Груган", надрукаванага ў "ЛіМе". 1979 г. Фота Ул. Крука.***

фразе, уяві, пачуй, як бы яе сказала твая мама ці хтосьці з блізкіх; увогуле, слухай і запамінай, як гавораць дома, у вёсцы. Мова павінна быць натуральнаю, а не штучнаю, выдуманаю. Часам мы пішам так, як усё роўна выкручваем рукі, думаючы, што мове не баліць". Ён не стамляўся паўтараць, што "мова - гэта галоўны знак радзімы" і яе трэба берагчы і любіць. Калі, бывала, я наракала, што вось, маўляў, пішуцца толькі кароткія апавяданні, а за аповесць засесці няма часу, Ян Аляксеевіч далікатна перапыняў мяне: "Запомні, апавяданне - гэта высокі клас літаратуры. На 5-7 старонках можна сказаць вельмі шмат, калі ў цябе ёсць талент". Ён вельмі хацеў, каб я пісала, і ў той, згаданай тут прадмове да маёй "Дарогі пад гару", заўважыў: "... З такою моваю маўчаць проста грэшна", але, на жаль, абставіны склаліся так, што на ўласную творчасць у мяне амаль не заставалася часу. Быў якраз пачатак 1990-х, у краіне пачыналася духоўнае і рэлігійнае адраджэнне, і мы, невялікая група свецкіх католікаў, заснавалі два часопісы: "Ave Maria" і "Наша вера".

***- Так, і вы ад пачатку былі прызначаны іх галоўным рэдактарам і вось ужо больш за дваццаць гадоў рэдагуеце гэтыя вельмі важныя для нашай духоўнай і нацыянальнай прасторы выданні. Скажыце, калі ласка, якія тэмы і праблемы ў іх закранаеце? Хто з вядомых аўтараў друкуецца ў гэтых часопісах?***

- Тэматыка ў нас вельмі шырокая. Зразумела, аддаём перавагу духоўнай, тэалагічнай, філасофскай, але таксама і гістарычнай, і культуралагічнай. Друкуем

і літаратурныя творы прозу, паэзію, хрысціянскую эсэістыку і публіцыстыку. Назваць усіх аўтараў, на жаль, не магчыма, але хацелася б удзячна згадаць найперш тых, хто быў з намі ад самага пачатку, але ўжо адышоў у вечнасць. Гэта народны пісьменнік Янка Брыль, вядомы філосаф і літаратуразнавец, хрысціянін з вялікай літары Уладзімір Конан, цудоўная паэтка, наша незабыўная Ніна Мацяш, вядомая паэтка, празаік і фалькларыст Валянціна Коўтун...

Удзячна вельмі за супрацоўніцтва з нашымі выданнямі літаратуразнаўцы Еве Лявонавай, мастацтвазнаўцам Тамары Габрусь, Аляксандру Ярашэвічу, Валерыю Буйвалу і Надзеі Усавай, вядомаму рэстаўратару і эсэісту Аркадзю Шпунту, лаціністу і гісторыку Алесю Жлутку, маладому архівісту Андрэю Шпунту... Асаблівая ўдзячнасць нашым таленавітым святарам, якія вядуць рубрыкі ў часопісе "Ave Maria", уваходзяць у склад рэдкалегіі квартальніка "Наша вера", кансультуюць нас...

***- Вашае імя прадстаўляе духоўную паэзію нашай краіны, а якая была ваша першая сустрэча з Богам, з вераю?***

- Першай сустрэчы не памятаю, бо была яна праз сем тыдняў пасля майго нараджэння падчас хросту ў белагрудскім касцёле на роднай Лідчыне, якраз у дзень Спаслання Духа Святога, на Сёмуху. А пасля, калі я крыху падрасла, мама штонядзелі вазіла мяне на ровары, прывязаўшы ясік да рамы, за сем кіламетраў у наш касцёл. Маліліся таксама штодня дома - рана і ўвечары. Сваёю вераю я абавязана маме, яе жывому прыкладу і яе малітвам...

***- Ведаю, што вы сустракаліся з ужо святым Папам Янам Паўлам II. Якой вы тады былі, чым жылі?***

- Гэта быў 1994 год. Мы толькі-толькі заснавалі і зарэгістравалі часопіс "Ave Maria". Я яшчэ працягвала працаваць у часопісе "Беларусь", дзе вяла аддзел літаратуры. Быў вельмі напружаны час. Восенню мне ўдалося выехаць на два месяцы ў Італію, у Перуджу, у знакаміты на ўвесь свет Universita per Stranieri, каб падвучыць італьянскую мову. Вось падчас таго побыту ў Італіі мне і пашчасціла трапіць на аўдыенцыю да Папы Яна Паўла II. Гэта сустрэча - на ўсё жыццё. Яна адбылася ў летняй рэзідэнцыі Папы ў Кастэль Гандольфа, за сорак кіламетраў ад Рыма. Падчас сустрэчы я папрасіла ў Яго Святасці дабраслаўленне на нашу выдавецка-рэдакцыйную працу, якую мы тады распачыналі. Папа ахвотна ўдзяліў сваё апостальскае дабраслаўленне, якое дапамагае нам у працы вось ужо больш за два дзесяцігоддзі.

***- Крыстына Аляксееўна, з чаго пачынаўся Ваш перакладчыцкі досвед? Гэта была рэлігійная тэматыка?***

- Мой перакладчыцкі досвед пачынаўся з гістарычнага нарыса "Мінск" Уладзіслава Сыракомлі. Да яго перакладу мяне падахвоціў вядомы пісьменнік і перакладчык, галоўны рэдактар выдавецтва "Кнігазбор" Кастусь Аляксеевіч Цвірка, за што я яму да



***Крыстына Аляксеўна з Папам Янам Паўлам II у 1995 годзе***

гэтага часу ўдзячна. Калі ўлічыць, што Уладзіслаў Сыракомля ў сваім нарысе падрабязна апісвае не толькі гісторыю і геаграфію старажытнага Менска, але і ўсе тагачасныя святыні - касцёлы, кляштары, капліцы, зборы і цэрквы ўключна з іх інтэр'ерамі, абразамі, фрэскамі і роспісамі, то можна сказаць, што ў пэўнай ступені гэтая мая першая перакладчыцкая праца мела дачыненне да рэлігійнай тэматыкі.

Асабіста для мяне яна была вельмі важная, бо дала ўяўленне пра Менск як пра каталіцкі, еўрапейскі горад, якім ён быў амаль да паловы XIX стагоддзя, пакуль не былі пазачыняны або адабраны, а пазней проста знішчаны многія нашы святыні. Дзякуючы Уладзіславу Сыракомлю мы, прынамсі, ведаем, дзе яны знаходзіліся і як выглядалі… Ведаць гістарычную праўду вельмі важна, бо гэта дапамагае не толькі ганарыцца сваёю мінуўшчынаю, але і правільна ўспрымаць сённяшнія падзеі і мець надзею на будучыню…

***- Вас можна назваць "перакладчыцай сучаснага святога", бо на Вашым "перакладчыцкім рахунку" і адгартацыі, і кнігі, і энцыклікі св. Яна Паўла II. Што асабіста для Вас даў вопыт перакладу яго працаў?***

- Магчыма, даў самае галоўнае, бо дапамог больш палюбіць Хрыста і Ягоны Касцёл.

Я мела шчаслівую магчымасць вучыцца гэтай любові і паглыбляць яе на старонках працаў св. Яна Паўла II - вялікага хрысціяніна і пастыра, выдатнага тэолага і чалавека, які валодаў прарочым дарам…

З першае кнігі "Пераступіць парог надзеі", якая адразу пасля выхаду ў 1994 годзе стала бестселерам і была перакладзена на многія мовы свету, і да апошняй прыжыццёвай кнігі "Памяць і самасвядомасць" - своеасаблівага тастаманту Вялікага Папы - гэтая перакладчыцкая праца была для мяне сапраўднаю хрысціянскаю школаю любові, надзеі і веры. Таму ўспрымаю яе, як асаблівую Божую ласку і не перастаю за ўсё дзякаваць Богу.

***- Ці былі вы знаёмыя з аўтарамі, чые творы перакладалі і перакладаеце?***

- Пра сустрэчу з Янам Паўлам II я ўжо казала. Дарэчы, іх было дзве. І гэта можна назваць знаёмствам, бо праз год, пры другой сустрэчы, Папа мяне адразу пазнаў і сказаў, што памятае. Я была шчаслівая... Знаёмая я таксама з ксендзам Вацлавам Бурылам, кніжачку вершаў якога "Павінен быць хтосьці" пераклала. Аўтар прыязджаў у Менск на яе прэзентацыю. Давялося сустракацца на кніжных кірмашах у Варшаве з паэтамі-святарамі Янам Соханем і Ежы Шымікам. З ксяндзом Янам Твардоўскім, на жаль, пабачыцца не пашчасціла, была толькі аднойчы ў тым варшаўскім касцёле, дзе ён служыў усё сваё доўгае і ахвярнае жыццё.

***- З'яўляючыся пісьменніцай і паэткай, Вы робіце і паэтычныя пераклады. А хто ўлюбёны аўтар, якім чынам выбіраеце творы і асобаў для перакладу?***

- Такое ўражанне, што гэта яны мяне "выбіраюць", бо ніводнага аўтара і ніводнага твору не было выпадковага. Люблю ўсіх, з кім звёў творчы лёс, бо ў кожнага знаходжу штосьці вельмі блізкае, сугучнае сваёй душы і сваім перакананням, і таму кожны аўтар на час працы з ягоным тэкстам станавіўся настаўнікам, дарадцам і сябрам. Дарэчы, цеплыня творчага сумоўя застаецца ў душы назаўсёды…

***- Апошнім Вашым перакладам, які ўжо пабачыла і "паспытала" хрысціянская грамадскасць, стаў "Дзённік" св. Фаўстыны. Яшчэ адна святая ў Вашай перакладчыцкай біяграфіі, да таго ж містычка. Які фрагмент з "Дзённіка" Вас найбольш закрануў?***

- Такіх фрагментаў у "Дзённіку" святой Фаў-




*"Дзённікі" святой Фаўстыны*

стыны шмат. Увесь гэты натхнёны Богам тэкст, які адкрывае нам глыбіні бязмежнай Божай міласэрнасці, кранае неймаверна. Але, сапраўды, ёсць і такія фрагменты, якія ўразілі асабліва і да якіх найчасцей вяртаюся, каб зноў і зноў іх перачытваць. Гэта найперш "Размовы Бога з душою", якая знаходзіцца на розных этапах свайго дасканалення: і "пагружаная ў цемру" роспачы, і акунутая ў такое моцнае цярпенне, што нават не мае сілы на размову з Богам, і ў час свайго асаблівага імкнення да дасканаласці…

Вельмі крануў мяне фрагмент "Дзённіка", у якім с. Фаўстына апісвае эпізод, які здарыўся з ёю, калі яна служыла ў кляштары брамніцаю. Аднаго разу да кляштарнай брамы прыйшоў Езус у вобразе галоднага, абарванага жабрака і папрасіў у яе есці. Калі яна Яго накарміла, з'явіўся падчас візіі і падзякаваў ёй за гэты ўчынак міласэрнасці… Міласэрнасць, гэтак як і любоў, жывая ўчынкамі. Езус казаў с. Фаўстыне: "Я патрабую ад цябе ўчынкаў міласэрнасці, якія павінны сыходзіць з любові да Мяне. Ты павінна заўсёды і ўсюды праяўляць міласэрнасць да бліжніх, ты не можаш ад гэтага ані ўхіліцца, ані адмовіцца, ані адрачыся…" (Дз. 742).

***- Магчыма, цяпер таксама штосьці перакладаеце ці ўжо рыхтуеце да друку? Чым і кім здзівіце чытача ў чарговы раз?***

- У сувязі з Вашым пытаннем прыгадалася выказванне выдатнага хрысціянскага пісьменніка Дзмітрыя Мераждкоўскага ў дачыненні Святога Пісання: "Пасля гэтай солі ўсё здаецца прэсным". Прыкладна такое адчуванне ёсць у мяне пасля перакладу "Дзённіка" св. Фаўстыны, і таму пакуль што няма жадання брацца за нешта іншае. Зразумела, перакладаю асобныя тэксты для часопісаў "Ave Maria" і "Наша вера".

Скажам, адным з такіх перакладзеных нядаўна тэкстаў былі невялікія фрагменты "Асабістых нататак" св. Яна Паўла ІІ, надрукаваныя ў першым мінулагоднім нумары квартальніка "Наша вера". Гэтыя "нататкі", якія пасля адыходу ў вечнасць Вялікага Папы выдаў былы ягоны сакратар, а цяперашні Кракаўскі Мітрапаліт кардынал Станіслаў Дзівіш, мяне вельмі ўразілі, бо яны - яшчэ адно моцнае і яскравае сведчанне "духоўнага жыцця ў Богу і з Богам" святога Папы… Толькі што выйшла з друку кніга маіх уласных вершаў і перакладаў духоўнай паэзіі…

***- Спадарыня Крыстына ці Хрысціна? У чым усё ж сакрэт вашага імя, якое можна сустрэць у дзвюх формах?***

- Імя Крыстына я атрымала падчас хросту. Імя Хрысціна - літаратурнае, дадзенае мне пры першай публікацыі маіх вершаў у лідскай раённай газеце ў 1971 годзе, калі я вучылася ў восьмым класе. Лідскаю раёнкаю тады кіраваў мудры рэдактар, цікавы чалавек Аляксандр Васілевіч Жалкоўскі. Думаю, што яму я абавязана гэтаю формаю свайго імя... Зрэшты, літаратурнае імя я люблю гэтаксама, як і атрыманае на хросце.

***- Вы і паэтка, і пісьменніца, і пераклад чыца, і рэдактар... Магчыма, маеце яшчэ нейкую грань свайго творчага жыцця, пра якую я не згадала?***




***Юбілейная кніга Крыстыны Лялько "Адвячорак". Менск. Про Хрысто. 2016.***

- Ды ўжо і гэтага больш, чым дастаткова...

***- А каго ў вас больш? Паэткі, якая, па словах Данусы Бічэль, перадае сваё найменш здзейсненае пачуццё глыбінёю верша, ці пісьменніцы, публіцысткі, якая вядзе чытача пройдзенымі і пeражытымі сцежкамі свайго жыцця і свайго народа? А, можа, строгай рэдактаркі ці засяроджанай перакладчыцы, якая імкнецца як мага дакладней разгадаць чужую душу, каб перадаць яе перажыванні на роднай мове?***

- Цяжка сказаць. Якраз нядаўна ў тэлефоннай размове мы разважалі з Данутаю Бічэль, чаму ўсё ж пішуцца вершы, у тым ліку і празаікамі, перакладчыкамі ды рэдактарамі... І Данута Янаўна слушна заўважыла, што вершам можна ахапіць увесь свет і ўвесь сусвет, бо верш не абмежаваны ні часам ні прасторыю, ён неабдымны, як пачуццё, бо ён і ёсць найперш - само пачуццё. Сапраўды, гэтак як Дух дыхае, дзе хоча, гэтак і нашае пачуццё здольнае ўздымацца да горняга, вышняга і ўзварушыць самыя патаемныя глыбіні чалавечай існасці. Проза ж, як правіла, засяроджаная на дэталі, абмежаваная прасторыю і часам... І ўсё ж, перакладаючы чужыя вершы і пішучы свае і бясконца рэдагуючы тэксты для часопісаў, я вельмі сумую па сваёй ненапісанай прозе...

***Гутарыла Аксана Ючкавіч.***

Фота з асабістага архіву Крыстыны Лялько і Міколы Новікава.

*Леанід Лаўрэш*

# Прыход у Дзікушках

Лічыцца, што ў 1442 г. прыход у Дзікушках ужо існаваў.

Газета "Литовские епархиальные ведомости" пісала, што Скуміны пабудавалі тут царкву ў 1598 г.[1]. Аднак паводле адных дакументаў Дзікушская царква фундацыі Скумінаў-Тышкевічаў[2], паводле іншых - фундацыя Мялешкаў[3]. Магчыма справа ў тым, што гэта была ўжо другая драўляная царква на гэтым месцы - першую фундавалі Скуміны-Тышкевічы, а другую - Мялешкі.

Ад Скуміных-Тышкевічаў у прытворы царквы яшчэ ў XIX ст., у раме, знаходзілася перанесеная са старой драўлянай царквы, пабітая мармуровая пліта памерам 3х1,5 аршыны (1 аршын = 0,711 м) і таўшчынёй у 0,5 аршына. На гэтай пліце маецца старaславянскі надпіс, тэст якога занатаваў мясцовы настаўнік: *"Тутъ лежитъ в томъ гробе положена Марина Мартиновна М…сковича Скуминовня Тышкевичая невеста побожностью и учтивостью вшелякую часу житія своего на свете всем людям в том панстве въ 20 летъ знаемая цнот вшелякихъ христіанскихъ взоръ и образъ видомыхъ дней добрыхъ благославенства божего пана пошедши за мужъ зъ дому родичевъ своих у году 14 лет отъ нароженія своего жила у малженском стани ... 42 годы по смерти мужа своего удовою годовъ 32 учтиво своего провиденя до конаня своего о другомъ малженствіе не мыслечи оставивши ... всего потомства своего душъ больше 838 ... въ старости ... не только матка маткомъ але бабкомъ и прабабкамъ маткою была дождавши пращурят т.е. четвертага поколеня своего оглядавши в року 88 отъ нароженія своего душу свою въ руки Творцы Своему отдала и до фалы его святое зъ сего света представилася у вымению отчинномъ малжонка ... на которомъ отъ него оставлена была в Дикушкахъ Року божага нар. 1598 мца іюля 28 дня у воторокъ годину 4 и въ томъ же року 98 мца сентября 3 дня похована при церкве преображенія Христова отъ своихъ старшего Дмитра Скумина старосты менскаго маршалка его к. мсти у в. кн. лит. писаря замковъ волостеи украины а молодшаго Теодора Скумина воеводы Новгородскага старосты Городенскага, Олитскаго, Юрборскага и Нововольскаго"*[4]. Уверсе



**Прамалёўка надмагілля Марыны Тышкевіч з кнігі Яўстаха Тышкевіча**



**Фрагмент надмагілля Марыны Тышкевіч 1598 г. з Дзікушскай царквы ў Музеі старабеларускай культуры (фота Д. Лісейчыкава)**

---

[1] Литовские Епархиальные Ведомости № 6-1873. С. 67.

[2] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Арк. 15.

[3] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. Арк. 109.

[4] Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Отдел II. Вильна, 1893. С. 101.

„Тутъ лежитъ в томъ гробѣ положена Марина Мартиновна М...сковича Скуминовна Тышкевичая невѣста побожностью и учтивостью великою часу житія своего на свѣтѣ всѣмъ людемъ въ томъ панствѣ въ 20 лѣтъ знаемая цнотъ великихъ христіанскихъ взоръ и образъ видомыхъ дней добрыхъ благословенства божего пана пошедши за мужъ зъ дому родичевъ своихъ у году 14 отъ нароженія своего жила у малженскомъ стани... 42 годы по смерти мужа своего удовою годовъ 32 учтиво своего провидения до конания своего о другомъ малженствіе не мыслечи оставивши... всего потомства своего душъ больше 838... въ старости... не только матка маткомъ але бабкомъ и прабабкамъ маткою была дождавши пращуратъ т. е. четвертаго поколѣния своего оглядавши въ року 88 отъ нароженія своего душу свою въ руки Творцы Своему отдала и до фалы его святое зъ сего свѣта представилася у вымению отчиномъ малженка... на которомъ отъ него оставлена была въ Дикушкахъ Року... боже нар. 1598 мца юля 28 дня у второвъ годину 4 и въ томъ же року 98 мца сентября 3 дня поховано при церквѣ преображенія Хрва отъ своихъ старшего Дмитра Скумина старосты мѣнскаго маршалка его к. мти у в. кн. лит. писаря замковъ волостенъ украины а молодшаго Теодора Скумина воеводы Новгородскаго старосты Городенскаго, Олитскаго, Юрборскаго и Нововольскаго

***Тэкст з надмагілля Марыны Тышкевіч***

ў цэнтры пліты, вырабленай з чорнага мармуру, мелася выява чэрапа і перакрыжаваных касцей, па кутах пліты выявы гербаў "Корчак" і "Корсак". Надмагілле багата аздобленае раслінным арнаментам і ў цэлым выканана на вельмі высокім мастацкім узроўні. На сённяшні дзень фрагмент названага надмагілля захоўваецца ў Музеі старажытнабеларускай культуры[5]. Менавіта пра гэтае надмагіле пісаў Яўстах Тышкевіч у кнізе "Надмагіллі сям'і Тышкевічаў" [6].

Скуміны-Тышкевічы - старажытны шляхецкі род (гербу Ляліва), які прыняў прозвішча ад трэцяга сына Каленіка Мішковіча Цішкі (Цімафея), што жыў у першай палове XV ст. Унук другога сына Цішкі - Льва - Ян Тышкевіч, стараста Чарнобыльскі, меў сем дачок і двух сыноў. Яго сын Зміцер Скумін-Тышкевіч (маршалак ВКЛ, менскі стараста) быў бацькам чатырох сыноў. Разам са сваім другім сынам Тэадорам (Фёдарам) Скуміным-Тышкевічам ён фундаваў мармуровую дошку ў Дзікушскай царкве. Тэадор Скумін-Тышкевіч быў у 1577 г. паслом ад караля Стэфана Баторыя ў Маскве. Потым прыняў удзел у вызваленні Полацка ад войскаў Івана Жахлівага.

Першапачаткова Тэадор Скумін-Тышкевіч выступаў супраць аб'яднання цэркваў. Але потым стаў прыхільнікам уніі[7]. Мітрапаліт Макары ў сваёй "Гісторыі Рускай царквы" пісаў: *"...і навагродскі ваявода Скумін-Тышкевіч, які настолькі раней быў супраць уніі, зараз прыняў яе і зрабіўся яе заступнікам"* [8]. Дарэчы, апошнім з роду Скумінаў-Тышкевічаў быў Людвік Скумін-Тышкевіч († 1808), польны гетман ВКЛ,

[5] Лісейчыкаў Дзяніс. Надмагільныя камяні з "рускімі" надпісамі XVI-XVII стст. каля в. Малькавічы Ганцавіцкага раёна // Архіварыус: зб. навук. паведамл. і арт.; вып. 13. Мінск, 2015. С. 104.

[6] Groby rodziny Tyszkiewiczow. Opisal Eustachy Tyszkiewicz, b. Prezes Komissyi Archeologicznej i kurator Muzeum starozytnosci w Wilnie, czlonek honorowy cesarskiej Akademii Nauk w Petersburgu, Krolewskiej Akademii Historyi i Starozytnosci w Sztokholmie, Instytutu Archeologicznego w Londynie, Cesarskiej Publicznej biblioteki w Petersburgu, Serbskiej Maticy w Budystynie, towarzystw naukowych: w Moskwie, Kopenhadze, Odessie, Rydze, Moguncyi, Krakowie, Poznaniu, Mitawie, etc. Warszawa, 1873. S. 14a.

[7] Niesiecki K. Herbarz Polski. Wyd. J. N. Bobrowicz. Lipsk, 1842. T. 9. S. 17-184.

[8] Макарий. История Русской церкви. Том 5. Отдел 1. [Электронный ресурс] - Рэжым доступу: zhurnal.ru/magister/library/history/makary/mak5102.htm - Дата доступу: 07.02.2010.

жанаты з сястрой апошняга караля Рэчы Паспалітай Канстанцыі Панятоўскай. Людвік валодаў маёнткам Гародна на Лідчыне[9]. З яго смерцю галіна Скумінаў-Тышкевічаў спынілася.

Інфармацыя аб старой драўлянай царкве ёсць ў "поданьи" (перадачы) 31 ліпеня 1732 г. Дзікушскай царквы і прыходу лідскаму протапрасвітару Яну Скарымскаму. Дакумент змяшчае вопіс царкоўнай маёмасці: *"Царква драўляная, з адным купалам, на ім жалезны крыж, дах нанова пакрыты гонтаю ... Срэбная чаша старадаўняй работы, пазалочаная, паламаная ... Евангелле рукапіснае старадаўняе ... Цудатворны абраз Найсвяцейшай Панны Чанстахоўскай. Царкоўная адзежа, кнігі, пабудовы (плебанія), зямля і сяляне (12 мужчын з 2 канямі і 6 валамі). Прыпісная царква - Лябёдская"* [10]. 15 лістапада 1781 г. слухалася справа аб абвінавачванні дзікушскага параха Антонія Свідэрскага *"в неблагоповедении"* [11]. Вядома, што на пачатку XVIII ст. Дзікушскай уніяцкай царкве належыў адзін "дым" (сялянская гаспадарка).

Яшчэ ў канцы XIX ст. у царкоўнай рызніцы захоўвалася рукапіснае з кінаварру Евангелле (верагодна тое, што згадваецца ў вопісе 1732 г.). Дата напісання ў самім рукапісе не ўказана, але на срэбнай дошчачцы вокладкі пастаўлены 1587 г.[12].

Пра стан Дзікушскай царквы мы можам даведацца з актаў візітацый цырынскага дэкана Васіля-Нупрэя Марцінеўскага ў 1784 г.[13] і полацкага суфрагана Адрыяна Тапор-Бутрымовіча ў 1792 г.[14]. Акрамя актаў гэтых візітаў, у 1792 г. у царкоўным архіве захоўваліся візіты гарадзенскага сурагатара Антона Бялькевіча 1754 г. і 1763 г. Акрамя таго ў акце візіту 1784 г. згадваецца наяўнасць у архіве "старога рускага дакумента", пры праверцы ў 1792 г. высветлілася, што ён належыць царкве ў Малым Мажэйкаве, і было вырашана туды яго і перадаць[15].

З актаў візітаў бачна, што пры канцы XVIII ст. царква была *"драўляная, на падмурку, добра пабудаваная, з склепам, гонтай крытая, з па-мастацку зробленымі крыжамі, з дзвюма вежамі на якіх жалезныя пазалочаныя крыжы, пасярэдзіне фацыята з жалезным пазалочаным крыжам, па баках два бляшаныя вазоны, па сярэдзіне купал з жалезным пазалочаным крыжам, на гэтым крыжы чатыры меншыя пазалочаныя крыжы. Усе гэтыя крыжы з бляшанымі piklami*[16]. *Могілкі агароджаны плотам з старой парушанай званіцай на слупах, саломай крытай, з трыма званамі і сыгнатуркай .... Хоры* (царквы - *Л.Л.*) *упрыгожаны балясамі і гзымсамі. Столь з дошкі, падлога з цэглы. Лаўкі з абодвух бакоў сталярнай работы, з правага боку сакрысціі, дзверы на жалезных завесах з унутраным замком. Два вялікія акны з белага шкла, апраўленага ў дрэва. Mensa*[17] *з шуфлядамі, дзе знаходзяцца царкоўныя рэчы. Амбон пафарбаваны, сніцарскай работы, пры амбоне, перад вялікім алтаром, пафарбаваныя балясіны стрыжнямі жалезнымі падпёртыя, з дзверцамі на падвойных жалезных завесах з пакрывалам гарусавым чырвоным, пры якіх спавядальня сталярнай работы. ... Царква мае восем калон ..."* [18].

Мелася капліца *"пры плябаніі старая, гонтай крытая, з малым купалам і крыжам жалезным. Уваход у яе праз бабінец, падвойныя дзверы на завесах жалезных з зашчапкамі, прабоямі і замком унутраным ..."* [19]. Ранейшая капліца была ў вёсцы Макары[20].

Па класіфікацыі беларускага гісторыка Д. Лісейчыкава, Дзікушская плябань, безумоўна, адносілася да багатых[21], бо акрамя вялікай колькасці пабудоў (нават свой бровар і лазня) мела ажно 7 прыгонных сямей, якія адпрацоўвалі паншчыну: мужчыны 3 дні ў тыдзень, а жанчыны - 2 дні ўзімку і 4 падчас уборкі ўраджаю[22].

Падрабязнае апісанне царквы таго часу гл. у дадатку.

У першай палове XIX ст. драўляная царква прыйшла ў заняпад. Маецца дакумент Берасцейскай Кансісторыі ад 1825 г. (гл. дадаткі), у якім гаворыцца, што вялебны святар Бабpоўскі, Берасцейскі кафедральны канонік паведаміў: *"Дзікушская царква з-за сваёй старасці пагражае разваліцца, а таму лепей было б яе апячатаць"*, і таму было вырашана *"звярнуцца да яснавяльможнага пана калятара ці да ўладальніка маёнтка, на зямлі якога знаходзіцца царква, каб замест старой ... пачаў мураваць у Дзікушках новую*

[9] Aftanazy, R. Dzieje rezydencji T. 4. Wroclaw, 1993. S. 122-139.

[10] Описание документов архива западнорусских униатских митрополитов. Т. 2. СПб., 1907. С. 68.

[11] Там жа. С. 396.

[12] Труды Виленского отделения Московского предварительного комитета по устройству в Вильне IX Археологического съезда. Отдел II. Вильна, 1893. С. 101.

[13] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. С. 109-113 адв.

[14] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. С. 15-18 адв.

[15] ДГАЛ. Ф. 634. Воп. 1. Спр. 53. Арк. 118; НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. Арк. 18.

[16] Падстаўка-ножка

[17] Прастол.

[18] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. С. 15-15 адв.

[19] Тамсама. С. 16 адв.

[20] Литовские Епархиальные Ведомости № 8-1873. С. 84.

[21] Лісейчыкаў Дзяніс. Штодзённае жыццё ўніяцкага парафіяльнага святара беларуска-літоўскіх зямель 1720-1839. Мінск, 2011. С. 66.

[22] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. С. 17адв-18.

*царкву"* [23]. Тое, што знакаміты навуковец, прафесар Віленскага ўніверсітэта Міхаіл Кірылавіч Баброўскі - адзін з першых творцаў *"беларускага нацыянальнага адраджэння"* ці *"беларускай нацыянальнай ідэі"* [24] бываў у Дзікушках, каб ацаніць стан царквы, мае несумнеўную цікавасць для гісторыі Лідчыны.

Пасля скасавання уніі ў Дзікушскі прыход Літоўскай епархіі, на месца, дзе раней працаваў святар Канеўскі, будучы мітрапаліт Іосіф Сямашка ўладкаваў свайго бацьку, таксама Іосіфа Сямашку, які страціў месца святара ў Кіеўскай губерні. Пасля таго, як Іосіф Сямашка-бацька прыняў праваслаўе, ён быў высвечаны ў 1840 г. у Жыровічах на званне саборнага протаіерэя і ўзнагароджаны залатым наперсным крыжам. Сямашка-бацька разам з жонкай пераехаў на Лідчыну. Дзікушкі спадабаліся старым Сямашкам, і яны пражылі тут 15 гадоў, адсвяткавалі залатое вяселле і дажылі да 80-гадовага веку. Сын-мітрапаліт наведваў іх адзін-два разы ў год[25]. Усяго ў сям'і Сямашкаў было 5 сыноў і некалькі дачок, мітрапаліт Іосіф - малодшы сын.

Новая Прэабражэнская мураваная царква, пра неабходнасць якой пісалася яшчэ ў 1825 г., была пабудавана мясцовым абшарнікам Рафаілам Грабоўскім як уніяцкая і асвечана ў 1840 г.[26]. Гэтая царква, адразу пасля заканчэння будаўнічых работ, часова была пакрытая саломай. 26 красавіка 1842 г. загарэлася карчма, размешчаная каля царквы. Пажар хутка перакінуўся на саламяны дах храма, у якім якраз ішло набажэнства. Усе драўляныя часткі царквы згарэлі, выратавалі толькі царкоўнае начынне. На ўзнаўленне і ўпрыгожанне Дзікушскай царквы настаяцель зрабіў значныя ахвяраванні. Ён набыў 130 пудоў ліставога жалеза і пабудаваў новы бляшаны дах, збудаваў мураваную званіцу і мураваную агароджу вакол царквы. Акрамя таго, быў уладкаваны іканастас, на двух ярусах якога стаялі абразы апосталаў, прарокаў, Спаса, Тайнай вячэры, а абраз Бога Айца быў прымацаваны да столі над прастолам. Стары Сямашка быў старанным і вельмі сумленным святаром. Ён шмат зрабіў для сваёй царквы і прыхаджан, быў добрым бацькам сваім дзецям[27].

Сямашка-бацька адмоўна ставіўся да ліквідацыі уніі, а адзін з братоў мітрапаліта - гранічна адмоўна. Дарэчы, яшчэ дзед будучага мітрапаліта, таксама ўніяцкі святар Цімафей Сямашка, цвёрда адмовіўся пераходзіць у праваслаўе[28], калі ўвесь ягоны прыход быў сілай прыведзены, як пісалася ў афіцыйных паперах таго часу, *"в первобытное состояние"*.

Паспрабуем разабрацца з гэтым пытаннем.

Хутка пасля смерці мітрапаліта Іосіфа Сямашкі протаіерэй А. Мацкевіч, у "благочинии" [29] якога знаходзіўся прыход Паўлаўка, радзіма Сямашак (пад Кіевам), сабраў пісьмовыя і вусныя ўспаміны пра гэты род. З нагоды заўвагі архімандрыта Мадэста (потым архіепіскапа Валынскага) аб тым, што *"бацька Іосіфа ахвотна прыняў праваслаўе"*, протаіерэй Мацкевіч пярэчыць: *"Ведаўшы яго асабіста, і пры тым блізка, магу сцвярджаць толькі адваротнае: толькі пераехаўшы ў Літву ... ён стаў праваслаўным і то больш па назве"*. Далей Мацкевіч кажа, што *"фанатызм і нянавісць да праваслаўя асабліва выказваў сын протаіерэя Сямашкі, святар Ян (Иоанн) Сямашка"* (родны брат мітрапаліта)[30]. Але пра брата мітрапаліта трохі ніжэй.

У 1827-1829 гг. стары святар, бацька будучага мітрапаліта, *"атрымаў шмат засмучэнняў"*. *"Раўніцелі уніі"* абражалі яго з-за сына і пагражалі пазбавіць права на богаслужэнне (ён служыў у асобным уніяцкім алтары ў Ілінецкім каталіцкім касцёле). Кіпрыяновіч піша, што бацька таксама падазраваў свайго сына ў схільнасці да "схізмы" [31]. І таму стары быў у захапленні, прачытаўшы ў 1828 г. у "Віленскім весніку", што адкрытая ў Жыровіцах Літоўская семінарыя засталася ў *"злучэнні з рымскай царквой"*, а не звернутая ў "схізму", як баяліся дбайныя ўніяты. Не зразумела і прычына, па якой стары Сямашка пакінуў месца службы пры сваім алтары ў касцёле: *"з-за непрыязнасці ксяндзоў, а можа быць і ў сілу новых, выдадзеных урадавых распараджэнняў"*. З гэтага факту, прыведзенага Г. Я. Кіпрыяновічам, можна дапусціць, што бацька галоўнага ліквідатара уніі мог быць пазбаўлены сваёй пасады з-за таго, што не адразу прыняў палітыку сына. Стары не прыняў праваслаўнай абраднасці, якая ўводзілася ў той час у ўніяцкай царкве. Пасля страты месца, ён падарыў сваю хату каля касцёла сыну-лекару Мікалаю і купіў іншы дом, насупраць старога, дзе зрабіў з кухні малельню, упрыгожыўшы яе абразамі. У гэтай малельні стары Сямашка даў па ўніяцкім абрадзе шлюб сваёй дачцы Алене. Па ўспа-

[23] Архив Лидского благочиния. Ф. 1., Оп. 1., Д. 6.

[24] Гл: Латышонак Алег. Народзіны беларускай нацыянальнай ідэі // Спадчына. 1992. №1. С. 9-14.

[25] Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского, и воссоединение западно-русских униатов с православной церковью в 1839 году. Вильна, 1893. С. 419.

[26] Материалы для географии и статистики России, собранные офицерами генерального штаба. Виленская губерния. СПб., 1861. С. 550.

[27] Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского, и воссоединение западно-русских униатов с православной церковью в 1839 году. Вильна, 1893. С. 419-420.

[28] Шабатин И. Из истории воссоединения Белорусских униатов (Очерк второй) // Журнал Московской Патриархии. №2-1951. С. 35.

[29] Царкоўная акруга на чале якой стаіць "благочинный", які назірае за дзейнасцю і маральнасцю "белага" святарства на сваёй тэрыторыі.

[30] Киевская старина. Киев, 1884. Т. VIII. С. 332-340.

[31] Раскол - у дадзеным выпадку маецца на ўвазе не з'яднаная з Рымам усходняя царква.

мінах відавочцаў, маладыя падчас вянчання стаялі на каленях.

Ліквідацыя уніі была нечаканасцю для Сямашкі-бацькі. Па словах мітрапаліта Іосіфа, стары Сямашка *"нічога не ведаў папярэдне"* аб кіраўнічай ролі свайго сына ў гэтай справе і не спагадаў яму ў гэтым. Мітрапаліт у сваіх лістах да бацькі пераконваў яго ісці за сабой і прыняць праваслаўе. Ён даслаў свайму бацьку багатую рызу і падрызнік узамен лацінскага "габіта" (габіт - манаская рыза), які святар насіў да гэтага часу.

У пачатку 1840 г. стары святар, не маючы месца працы, даў падпіску аб далучэнні да праваслаўя. Далей Сямашка-бацька старанна і добрасумленна служыў праваслаўным святаром на Лідчыне. Па нядзелях, а таксама ў храмавыя святы, стары Сямашка вёў з народам у царкве духоўныя гутаркі і тлумачыў Евангелле. Ён клапатліва рыхтаваў сваіх вернікаў да споведзі, навучаў дзяцей малітвам і катэхізісу[32].

Ён памёр 17 ліпеня 1856 г. (па старым стылі). Высокапастаўлены сын у гэты час быў у Маскве на каранаванні Аляксандра II і ў пахаванні бацькі ўдзелу не прыняў. Святар Іосіф Сямашка быў пахаваны ў каменнай пячоры пад левым клірасам Дзікушскай царквы. Над магілай была прымацавана мармуровая пліта з надпісам: *"Здесь покоится тело раба Божия протоиерея Иосифа Семашко. Родился 1776 г. 20 августа. Скончался 17 июля 1856 г."* [33]. У 80-х гг. XX ст., калі царква стаяла зачыненай, зладзеі разрабавалі пахаванне. Парэшткі засталіся на месцы, але каштоўныя, па меркаванні злачынцаў, рэчы былі выкрадзеныя.

Інакшай была справа з родным братам мітрапаліта Іосіфа, святаром Янам Сямашкам. Пра свайго брата Ян Сямашка гаварыў так: *"Пракляты: ён і сябе ўтапіў, і народ загубіў"*. Калі, аднойчы, праваслаўны святар паказаў Яну партрэт яго знакамітага брата, *"ён з шаленствам кінуў партрэт на падлогу і пры гуках пабітага шкла ўцёк"*. Паміраючы, Ян запавядаў пахаваць сябе пры Ілінецкім касцёле, і ксяндзы былі гатовы выканаць яго волю. Але праваслаўныя святары забралі цела нябожчыка і пахавалі пры праваслаўнай царкве, чаму мітрапаліт быў рады і даслаў ім за гэта грашовую ўзнагароду. Жонка Яна Сямашкі, дачка ўніяцкага святара, каб пазбегнуць пераводу ў пануючую веру, перайшла ў рыма-каталіцтва[34].

…Маркотная гісторыя падзелу сям'і верай…

Але і для вышэйшых бюракратычных колаў імперыі Іосіф Сямашка заставаўся чужым. У 1843 г. дзяржаўны сакратар М.А. Корф, прымеціўшы, што Мікалай I не дае Сямашку асабістых аўдыенцый, выказаў здагадку, што імператар дзейнічае згодна з прынцыпам *"любяць здраду, але здраднікам пагарджаюць"* [35]. А віленскі генерал-губернатар пры канцы 1840 - на пачатку 1850-х гг. І. Бібікаў публічна называў Іосіфа Сямашку *"простым, але хітрым папом, які ва ўсіх сваіх учынках мае асабістыя інтарэсы"* [36].

Аднак вернемся да гісторыі Дзікушскай царквы.

Падчас свайго святарства, Сямашка-бацька лічыўся чыноўнікам 6-га класу і акрамя пенсіі, атрымліваў заробак у 96 руб. у год. Разам з ім у царкве працавалі, спачатку святары Мірановічы (два - адзін за другім), а з 1852 г. - святар Грудзінскі, які ў свой час скончыў вучэльню падрыхтоўкі дыяканаў пры кафедральным саборы ў Жыровічах[37].

Эдвард Хлапіцкі ў рэдкай зараз кнізе "Нататкі падарожжаў па краі ў розныя часы" пісаў пра сваё падарожжа ў красавіку 1862 г. дарогай з Наваградка ў Гародню, дзе ўзгадаў Дзікушскую царкву: *"...За Нёманам вёска і мястэчка князя Вітгенштэйна Беліца. Дарога ў тры мілі з Беліцы да Жалудка бяжыць сярод шырокіх раўнін, якія ўпрыгожваюцца гаямі і маляўнічымі вёскамі. Вялікія абшары, а пасярод іх купкі з бярозак, ліп і каліны. Часам па квяцістых лугах уюцца раўчукі, нагадваючы нам добра знаёмую Францыю і яе прыгожыя раўніны пад Саонам у Бургундыі. Тая ж дрымотнасць і пяшчотнасць пейзажу, тая ж самая неахопная вокам, у імжы вясковых дымоў і надводнай пары, знікаючая перспектыва. Толькі сялянскія хаты і сам быт сялян іншыя. Толькі згода і еднасць паміж рознымі сацыяльнымі пластамі іншая! На дзесятай вярсце за Беліцай краявіды мяняюцца. Прыгожы пас сасновых бароў, а сярод іх высокі надмагільны абеліск з напісаным на бронзе імем харунжага Філіповіча; скрыжаванне дарог, за лесам зноў палі, вёскі і абсаджаныя ляшчынай крыжы. Далей млын (Ходараўцы), белая і прыбраная як маладая дзяўчына цэркаўка паноў Грабоўскіх (Дзікушкі) і потым Жалудок"* [38]. Высокая прыгожая стэла ля дарогі - надмагілле абшарніка Філіповіча, які памёр да 1862 г., стаіць да нашага часу, але, на жаль, бронзавай дошкі на помніку з інфармацыяй пра пахаванага ўжо няма.

З 23 чэрвеня 1876 г. святаром Дзікушскай царквы стаў а. Віктар Плаўскі (1824-1898). Плаўскі - сын уніяцкага святара, у 1847 г. па 2-му разраду скончыў Літоўскую духоўную семінарыю, і 20 кастрычніка 1848 г. рукапакладзены ў святары, службу пачаў у Са-

[32] Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского, и воссоединение западно-русских униатов с православной церковью в 1839 году. Вильна, 1893. С. 417-418, 420.

[33] Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского, и воссоединение западно-русских униатов с православной церковью в 1839 году. Вильна, 1893. С. 422-423.

[34] Киевская старина. Киев, 1884. Т. VIII. С. 332-340.

[35] Долбилов М., Миллер А. Западные окраины Российской империи. Москва, 2006. С.110.

[36] Литовский митрополит Иосиф Семашко в 1839-1844 г. // Русская старина. 1889. май. С. 319, 322.

[37] Киприанович Г. Я. Жизнь Иосифа Семашки, митрополита литовского и виленского, и воссоединение западно-русских униатов с православной церковью в 1839 году. Вильна, 1893. С. 424.

[38] Chlopicki Edward. Notatki z roznoczasowych podrozy po kraju. Warszawa,1863. S. 81 - 82.




*Мікалай Віктаравіч Плаўскі*




*Ганна Іванаўна Плаўская (Лебедзева)*

бакінскай царкве. 25 красавіка 1851 г. пераведзены ў Лябёдскую царкву. З 1863 па 1874 гг. працаваў настаўнікам і выкладаў Закон Божы ў Лябёдскай народнай вучэльні. Пасля пераводу ў Дзікушкі, з 1876 г. выкладаў Закон Божы ў Жалудоцкай народнай вучэльні. З 1863 па 1869 г. быў сябрам рады Лідскага дабрачыння, з 1873 па 1876 г. працаваў памочнікам Лідскага дабрачыннага. Пасля выдзялення асобнага Шчучынскага дабрачыння, з 1878 па 1882 г. лічыўся дэпутатам у сваім дабрачынні, а з 1882 па 1894 г. быў памочнікам Шчучынскага дабрачыннага. З 1894 па 1897 г. выконваў абавязкі Шчучынскага дабрачыннага. Узнагароджаны рознымі царкоўнымі і дзяржаўнымі ўзнагародамі. Жонка - Касінія Міхайлаўна (1829 г.н.), сын Мікалай (1870 г.н.) і дачка Людміла (1868 г.н.). Дзікушскі святар памёр 2 лютага 1898 г., 4 лютага пахаваны пры ўдзеле 9 святароў[39].

Пры канцы XIX ст. царква належала да Шчучынскага дабрачыння, мела 63 дзесяціны зямлі, частка якой здавалася ў арэнду за 200 руб. Святар атрымліваў 446 рублёў, з якіх 52 рублі за перададзеныя ў казну маёнткі, псаломшчык атрымліваў 126 рублёў, з якіх 17 рублёў за перададзеныя ў казну маёнткі і 23 рублі 52 кап. дадатковага жалавання. Акрамя таго атрымліваліся адсоткі з капіталу ў 800 рублёў, які мітрапаліт Іосіф Сямашка пакінуў для памінання ягоных бацькоў. Прыхаджан мужчынскага полу было 1259, жаночага 1209, гэтыя прыхаджане жылі ў 350 дварах[40].

У 1885 г. пры Дзікушскай царкве Шчучынскага дабрачыння меліся наступныя царкоўна-прыходскія школы і школы пісьменнасці: у вёсцы Дзірванцы вучылася 19 вучняў, у вёсцы Ашмянцы - 23 вучні, у вёсцы Мацевічы - 9 вучняў[41].

Пасля смерці а. Віктара, месца святара Дзікушскай царквы заняў яго сын - Мікалай Плаўскі (1870 - 1916). У 1893 г. ён скончыў Літоўскую духоўную семінарыю, 6 снежня 1895 г. прызначаны псаломшчыкам царквы ў Бабрах, 15 красавіка 1898 г. пераведзены ў Дзікушскую царкву, дзе 6 верасня таго ж года быў высвечаны ў святары. Дзікушскі святар меў жонку Ганну

[39] Литовские Епархиальные Ведомости № 52-1898. С. 520.

[40] Извеков Н. Статистическое описание православных приходов Литовской епархии. Вильна, 1893. С. 25.

[41] Памятная книжка Виленской губернии на 1886 год. Отдел III-й. Вильна. 1885. С. 81.



***Дзікушская царква. Пачатак XX ст. Здымак Яна Балзукевіча. Над царквой уніяцкі крыж.***

Іванаўну і 7 дзяцей.

У 1915 г. а. Мікалай жонку з дзецьмі адправіў у Арол. Жонка, пакінуўшы дзяцей сваім сваякам у Арле, вярнулася ў Дзікушкі, але ў верасні 1915 г. а. Мікалай і Ганна Іванаўна Плаўскія разам са шматлікім праваслаўным беларускім насельніцтвам выправіліся на ўсход - сталі бежанцамі. У Арол на возе ехалі больш за месяц, у Бранскіх лясах былі абрабаваны бандытамі. У Арле ў святара пачаліся праблемы з сэрцам, але памёр ён ад тыфу 8 траўня 1916 г.[42]. 10 верасня 1916 г. указам Сіноду ўдаве святара Дзікушскай царквы Ганне Плаўскай з непаўнагадовымі дзецьмі была прызначана пенсія ў памеры 100 рублёў у год[43].

У 1921 г. газета "Беларускі звон" пісала: *"Цікавае зьявішча, арыгінальнае! Бацюшка ў сваім уласным будынку адчыніў проці волі насялення польскую школу. Дачка скончыла беларускія вучыцельскія курсы ў Вільні ў 1921 г., цяпер яна здраджвае беларускіх дзетак, калечыць памаленьку іх. А бацюшка стараецца не адставаць ад дачкі. Ён лае грамадзян за тое, што яны ня хочуць слаць дзетак да школы. Будзем цешыць сябе думкай, што гэта зьявішча рэдкае"* [44].

Незадаволенне святаром-паланафілам, вылілася ў незвычайны бок.

Па адной з версій, восенню 1924 г. на пасаду псаломшчыка ў прыход Дзікушкі быў прысланы забаронены за нейкія правіны протаіерэй Марк Ячыноўскі[45]. У прыходзе вакол яго ўтварылася група вернікаў, незадаволеных настаяцелем.

Па другой версіі Ячыноўскі і быў у той час настаяцелям храма[46], верагодна, ён замяніў святара-паланафіла і пачаў збіраць подпісы вернікаў за пераход у унію[47].

Пра гэтыя падзеі дастаткова шмат пісала прэса таго часу. Напрыклад газета "Беларуская доля" паведаміла: *"Уніяты ў Заходняй Беларусі. У сувязі з развалам праваслаўнае царквы і палянізацыі каталіцтва, у*

[42] Вестник Виленского православного Св.-Духовского братства. № 6-7 - 1916. С. 67-68.

[43] Литовские епархиальные ведомости № 12 - 1916. С. 46.

[44] Беларускі звон № 24-1921.

[45] Николаев К.Н. Восточный обряд. Дорога Рима в Россию (Рим - Польша - Россия). Париж: YMCA-PRESS, 1950. С. 138.

[46] Katolik № 47-1925.

[47] Свирид А.Н. Распространение католичества византийско-славянского обряда на Гродненщине в 20-30-е гг. XX в. // Этносоциальные и конфессиональные процессы в современном обществе: сб. науч. ст. / ГрГУ им. Я. Купалы ; редкол.: М.А. Можейко (гл. ред.) [и др.]. - Гродно: ГрГУ, 2012. С. 220-221.

*заходняй Беларусі з'яўляюцца новыя рэлігійныя кірункі. З аднаго боку тут пачалі сваю працу амерыканскія метадысты, з другога - уніяты. ... калькі дзён назад у Вільню прыехаў з Лідзскага павету сьвяшч. Лаўроў, які зрабіў вышэйшай духоўнай уладзе даклад аб пераходзе на унію цэлага прыходу Дзікушкі з пратаіерэем Ячыноўскім. Кабя вярнуць на ложа праваславія адпаўшую парафію, архіяпіскап Хвядом паслаў туды сьвяшч. Дзічкоўскага"* [48].



***Царква ў Дзікушках. Сучасны выгляд***

Польскія газеты паведамлялі: *"Праваслаўны прыход на чале з сваім настаяцелям Ячыноўскім перайшоў з праваслаўя ў унію"* [49]. Ці *"З Вільні даносяць, што цэлы Дзікушскі прыход разам з сваім настаяцелем Ячыноўскім, перайшоў з праваслаўя ў унію"* [50]. А віленская газета "Слова" пісала: *"Унія. Віленская праваслаўная кансісторыя атрымала паведамленне, што ў вёсцы Дзікушкі Лідскага павета, цэлая парафія на чале з святаром ... Ячыноўскім перайшла з праваслаўя ў унію"* [51].

Андрэй Растнароўскі, уладальнік маёнтка Скабейкі, адукаваны чалавек і чалец Лідскага павятовага сойміка, пісаў з гэтай нагоды: *"Цікавым выпадкам была гісторыя з царквой у Дзікушках. Гэта царква пабудавана ў раманскім стылі без аніякіх цыбулінаў і купалоў у 1835-1840 гг. і была з уніі пераведзена ў праваслаўе. Пры царкве мелася добрая плябань і ладны кавалак поля, а таксама пладовы сад. Праваслаўным пробашчам быў тут вельмі цікавы тып - аматар гарэлкі. Не ведаю, па чыёй ініцыятыве, падазраю ў гэтым Лідскае староства, раптам у нейкі дзень пробашч і ўся парафія перайшлі ў "уніяты". Былі нейкія святы і набажэнства, ніхто не пратэставаў. ... Змены ў Дзікушках нават людзям падабаліся, яны казалі, што зараз разам будзем святкаваць святы - праваслаўныя святы спазняліся на 13 дзён. Але гульня ва "ўніятаў" цягнулася не болей 6 тыдняў. У пэўны дзень з'явіліся 4 ці 5 папоў і выгналі нефартуннага "апастату", а на яго месца пасадзілі новага папа - Жаброўскага, і парафія зноў стала праваслаўнай. Тым не менш, у выніку гэтых падзей больш дзесяці сямействаў перайшло ў каталіцтва, а наведванне царквы, якое і раней было мінімальным, зараз упала амаль што да нуля. Толькі некалькі гадоў сталай працы Жаброўскага, які быў салідным, маральным і прыстойным чалавекам, паправіла хісткую раўнавагу"* [52].

Пераход прыходу ў унію не рабіўся па ініцыятыве павятовай улады, без ведама належных уладаў грэка-каталіцкай царквы.

Як бы там ні было, але ўжо праваслаўны настаяцель гэтай царквы Барыс Жаброўскі за сакавік і красавік 1926 г., атрымлівае ад польскага ўраду сталую матэрыяльную дапамогу ў памеры 65 злотых[53].

Шмат цяжкасцяў перажыў прыход у Дзікушках у XX ст., аднак у 1936 і 1956 гг. у храме рабіўся капітальны рамонт.

Прэабражэнскую царкву ў Дзікушках зачынілі ў атэістычным 1961 г., і аж да 1998 г. яна паступова прыходзіла ў запусценне.

Са зменай дзяржаўнай палітыкі адносна рэлігіі і царквы ў Беларусі, храм у Дзікушках аднавіў сваю дзейнасць. У 1999 г. на ім усталявалі новы купал з крыжам. Пасля доўгіх рамонтных работ, якія праводзіў настаяцель царквы а. Георгій Сяўрук, 10 кастрычніка 2009 г. храм быў асвечаны архіепіскапам Навагрудскім і Лідскім Гурыем.

---

[48] Беларуская доля № 23-1925.

[49] Katolik № 47-1925.

[50] Oredownik Wrzesinski №43-1925.

[51] Slowo №72 (786)/ 29 marca 1925.

[52] Rostworowski Andrzej. Moje zycie na Nowogrodczyznie lata 1924-1928 // Goniec Kresowy Nr 41. Rok 2003. S.13.

[53] Загідулін А.М. Беларускае пытанне ў польскай нацыянальнай і канфесійнай палітыцы ў Заходняй Беларусі (1921-1939 гг.). Гродна, 2010. С. 162.

# Дадаткі

**Вёска Дзікушкі**[54]

***З акту візітацыі 1792 г. якую рабіў Адрыян Тапор-Бутрымовіч, суфраган полацкі.***

**А. 15.**

Царква пад тытулам Апекі Найсвяцешай Панны, у даўнейшай фундацыі яснавяльможных паноў Скуміных-Тышкевічаў, знаходзіцца ў каляцыі яснавяльможных паноў Хадкеічаў, старастаў Жмудскіх, у павеце і дэканаце Лідскім. Драўляная, на падмурку, добра пабудаваная, з склепам, гонтай крытая, з па-мастацку зробленымі крыжамі, з дзвюмя вежамі, на якіх жалезныя пазалочаныя крыжы, пасярэдзіне фацыята з жалезным пазалочаным крыжам, па баках два бляшаныя вазоны, пасярэдзіне купал з жалезным пазалочаным крыжам, на гэтым крыжы чатыры меншыя пазалочаныя крыжы. Усе гэтыя крыжы з бляшанымі puklami[55]. Могілкі агароджаны плотам з старой парушанай званіцай на слупах, саломай крытая, з трыма званамі і сыгнатуркай у купале царкоўным. Уваход у царкву праз падвойныя філёнчатыя дзверы на патройных жалезных завесах, з унутраным замкам. Трэція вялікія філёнчатыя дзверы на патройных жалезных завесах з жалезнымі antabami[56] і засаўкай. Дзверы на хоры падвойныя, на жалезных завесах з унутраным замкам, на уваходзе на хары так сама дзверы на падвойных завесах з зашчапкамі і прабоямі. Да вежачак дзверы на жалезных завесах з зашчапкамі і прабоямі. Хоры упрыгожаны балясамі і гзымсамі. Столь з дошак, падлога з цэглы. Лаўкі з абодвух бакоў сталярнай работы, з правага боку закрыстыя, дзверы на жалезных завесах з унутраным замком. Два вялікія акны з белага шкла, апраўленага ў дрэва. Mensa[57] з шуфлядамі, дзе знаходзяцца царкоўныя рэчы. Амбон пафарбаваны, сніцарскай работы, пры амбоне, перад вялікім алтаром, пафарбаваныя балясіны,

**А. 15 адв.**

стрыжнямі жалезнымі падпёртыя, з дзверцамі на падвойных жалезных завесах, з пакрывалам гарусавым чырвоным, пры каторых спавядальня сталярнай работы.

З левага боку ложа з вялікімі падвойнымі шклянымі дзвярыма, на завесах жалезных патройных з замком французскім, у ёй лаўка ... сталярнай работы, адно акно вялікае белага шкла, на могілкі вядуць падвойныя філёнчатыя дзверы на завесах жалезных з трымя жалезнымі засаўкамі, у царкве вокнаў вялікіх - 17, малое круглае - 1. Царква мае восем калон і мае па чатыры жалезныя шворні.

**Вялікі алтар** сталярскай і сніцарскай работы, пафарбаваны ў чорны колер, з абразом Найсв. Панны, Міласэрнасцю Слыннай, на абразе срэбныя шаты з каронамі, карон срэбных пазалочаных - дзве, з чэшскімі каралямі, таблічак срэбных - дванаццаць, з іх 5 таблічак, якія важаць 4,5 лота і перададзеныя, каб зрабіць Pixis[58], заслонак kitaycanych[59] ... пара 1, кукарда з бісеру, на другім узроўні абраз Св. Казіміра, рознымі асобамі (прозвішчы якіх выразаны) упрыгожаны, вызалачаны.

Mensa мураваная, на якой цыборыюм[60] пафарбаваны, часткова пазалочаны, ... дзе asservatur[61] Sanctifsimum[62] у срэбнай пушцы[63] знутры і звонку пазалочанай, з верхам і крыжыкам. Tuwalen[64] - дзве, абрус, antymis[65] яснавялебнага Валадкевіча, Мітрапаліта, пакрывала гарусавае. Krucyfix[66] з корпусам драўляны, падсвечнікаў алтаровых з волава - дзве пары, spizowych[67] настольных - адна пара. Падушка пад mszal[68] улачковая, antepedium[69] сніцарскай і сталярнай работы, пафарбаваны. Градусаў[70] - два, сталярнай работы, ёсць засаўка з абразом Апекі Найсв. Панны.

Над цыборыюмам распяцце сніцарскай работы, пафарбаванае ... у футляры за шклом.

[54] НГАБ. Ф. 136. Воп. 1. Спр. 41244. С. 15-18адв.

[55] Падстаўка-ножка

[56] Металічная ручка, якая выкарыстоўваецца таксама ў якасці дзвярнога звону.

[57] Прастол.

[58] Даразахавальніца для хворых.

[59] Тонкая шаўковая альбо баваўняная тканіна.

[60] Даразахавальніца.

[61] Захоўваецца, бароніцца.

[62] Еўхарыстыя.

[63] Даразахавальніца.

[64] Ручнікоў.

[65] Antimins, Антымінс (грэч. замест і лат. Mensa - прастол). Ва ўсходнім абрадзе плат з ушытай у яго часціцай мошчаў якога-небудзь святога і надпісам біскупа. Неабходная прыналежнасць для здзяйснення поўнай Літургіі. Асвячаецца па адмысловым чыне толькі епіскапам. Чатырохвугольны, з ільняной або шаўковай матэрыі плат, на якім паказваецца палажэнне Хрыста ў магілу; па кутах змяшчаецца выява чатырох евангелістаў, а на верхнім баку ўшываюцца часціцы мошчаў.

[66] Укрыжаванне (cruci fixus - lat.).

[67] Бронзавых.

[68] Падушка пад служэбнік.

[69] Франтальная, аздобленыя заслона Прастола.

[70] Прыступак.

**Алтар другі**, бакавы сніцарскай і сталярнай работы, пафарбаваны, часткова пазалочаны. На першым узроўні - статуя Пана Езуса, укрыжаванага з цярновым вянком. На другім узроўні - абраз Найсв. Панны Міласэрнай, рознымі асобамі (прозвішчы якіх выразаны) упрыгожаны. Mensa мураваная з шуфлядай са шклом, на ёй статуя Успення Найсв. Панны ў блакітнай атласнай сукенцы, падушачак - дзве, адна белая, другая блакітная, атласная. З атласнымі фіранкамі колеру ..., за срэбнай засаўкай у кола, заслонак блакітных новых - 2. У Пана Езуса - krucyfix драўляны з корпусам, тувален - 2. Абрус-пакрывала гаруснае, гранатовае, падушка пад мшал улачковая, падсвечнікаў вялікіх алтаровых - пара 1.

**Алтар трэці** бакавы, па левым баку, сніцарскай і сталярнай работы, пафарбаваны, з абразом на першым узроўні

**А. 16.**

Св. Дысмаса, у другім узроўні Св. Марыі Магдалены. Увесь алтар рознымі асобамі (прозвішчы якіх выразаны) упрыгожаны. Mensa мураваная, на якой krucyfix драўляны з корпусам, падсвечнікаў драўляных - адна пара, тувален - 2. Абрус, antepedium драўляны, пафарбаваны і градусы.

**У капліцы** па тым жа баку; алтар фарбаваны, сталярнай работы з абразам Перамянення Панскага, праца непрафесійнага мастака, часова ў сакрыстыю перанесены, на яго месцы пастаўлены абраз Св. Тэклі. Mensa драўляная з пафарбаваным antepedium, тувальня - 1, падушка старая, драўляных падсвечнікаў пара адна, у капліцы па правым баку ёсць алтар сталярнай работы з абразом Святых апосталаў Пятра і Паўла, mensa сталярнай работы без усякага начыння.

**Алтарык працэсіяльны** сталярнай работы з абразом Найсв. Панны Марыі Чанстахоўскай і Міласэрнай, на ім таблічак срэбных - дзве. Засаўка атласная чырвоная, кукарда з бісеру добрая, караляў добрых шнуркаў - 2. Збоку ютранькі. Кітайчына папяровая, antepedium атласны, стары, белы.

**Odpusty** нададзены ад сталіцы апостальскай на першую нядзелю месяца. 1-шы - у траўні і чэрвені, з поўным адпустам ад віны і кары, і штомесячна, у нядзелю, сем гадоў ... 2-гі - на Перамяненне Панскае, адпуст поўны і ў Дзень Апекі Маці Божай, гэтыя ўсе на вечныя часы нададзеныя.

**Алтар вялікі,** прысвечаны за душы памерлых, з адпустам поўным выратавання душ з чысцілішча тым, хто мае пакуту і слухае, гэта на вечныя часы. Адпусты ў 1781 г. на Унебаўзяцце Найсв. Панны Марыі, праведзеныя коштам былога параха ... .

**Iprzety, срэбны посуд, наяўнасць і іх вагі**. Monstracya[71] срэбная пазалочаная ў розныя кветкі, з адным непазалочаным абразом, з кветкамі дзвюмя, і праменямі пазалочанымі, і мельхіседэкам, і крыжыкам, келіх вялікі і патына, знутры пазалочаныя. Келіх меншы з патынай, знутры пазалочаныя і пушка пазалочаная, чорная. Крыжык срэбны з пяццю большымі каменчыкамі і чатырма меншымі. Крыжык другі, срэбны, з каменчыкамі на стужцы чырвонай. Ёсць крыжык срэбны з корпусам на цыборыюме. Кадзіла срэбнае з чатырма ланцугамі і дзвюмя лодкамі, лыжачка срэбная - адна.

**Вагі.** Шата з дзвюмя каронамі ў вялікім алтары важыць 26 грывень. Крыжык срэбны пазалочаны з корпусам важыць 1 лот і $^{1}/_{2}$. Ёсць дзве кароны вагой 1 грыўня і 2 лоты. Таблічка - 1, вагой 1 грыўня 4 лоты. Келіх з патынай - 2 грыўні. Другі з патынай і лыжачка - 15 лотаў. Келіх трэці з патынай - 1 грыўня і 2 лоты. Пушка з верхам -

**А. 16 адв.**

грывень 1 і лотаў 14. Monstracya - грывень 5 і лотаў 4. Кадзіла - грывень 2 і лотаў 8, карон - 2, на абразе Працэсіяльным, лотаў 7 і $^{1}/_{2}$. Падсвечнікі алтарныя з волава - пар 2, фунтаў 27. Падсвечнікі вялікія стаячыя - фунтаў 2 і $^{1}/_{2}$. ... ампулак з волава - пара, лотаў 13, келіх з волава з патынай - фунт 1. Званкоў алтарных - 6 фунтаў і $^{1}/_{2}$ лота. Званок алтарны з надпісам - адзін фунт, званок пры сакрыстыі - 1 фунт. Сігнатурка ў купале важыць палову каменя. Звон вялікі важыць 6 камянёў. Звон сярэдні - 4 камяні. Малы звон - 2 камяні. Звон пры капліцы важыць 1 камень і $^{1}/_{2}$. Балдахін, у кветкі вышыты, з блакітнай кітайкі з галуном бантаеравым. Тры харугвы гарусавыя, 4-я новая з абразамі. Крыж працэсіяльны з корпусам, драўляны. Бурса для хворых атласная шэрага колеру. Медніца з волава, палову фунта важыць, лодка да кадзіла медная - чвэрць фунта. Кубак бляшаны для вады, antymis адзін - яснавялебнага Валадкевіча, мітрапаліта, другі - мітрапаліта Кішкі. Portatel[72] лацінскі, шчыпцы, лыжачак прафіравых - тры.

**Apparaty.** З тканіны моцнай, у кветкі, з галуном срэбным cum omnibus requisitis[73]. Другі аксамітны, вішнёвы, з каўняром lamowyn[74]. Трэці белы, работы старашвейкі, з каўняром суконным і аборамі з золата … сіні requisitis. Чацвёрты gredilurowy[75], блакітны, у квадраты, з галуном срэбным. Пяты, жалобны, gredylurowy, з каўняром белым з кітайчыны cum omnibus requisitis. Apparat лацінскі, gredilurowy, у паскі, з каўняром блакітным, з галуном срэбным cum omnibus requisitis. Далматык з тканіны - адна пара неўжываных, альба[76] швабская з карункамі, новая, шырокая, кітайка

[71] Дараносіца. Спецыяльны посуд для Святых Дароў, якую выкарыстоўваюць для перанясення запасных Святых Дароў, каб здзейсніць Сакрамант сабаравання цяжкахворым.

[72] У традыцыях Заходняй царквы - невялікі ахвярнік з абразом, выкарыстоўваецца падчас працэсій.

[73] Адпавядае ўсім патрабаванням

[74] Тканіна з тонкага залатога альбо срэбнага дроту на шаўковай аснове.

[75] Выраблена з "gredyturu", цяжкага французскага шоўку.

[76] Доўгая сподняя літургічная вопратка з тканіны белага колеру.

кармазінавая[77], падшытая, другая швабская, з карункамі, вузкая. Грэцкіх - дзве, старых. Ёсць альба грэцкая, новая, з карункамі, вузкая, humeralow[78] швабскіх - 4, грэцкі - адзін, паскаў - 4, korporalow[79] баціставых - 4, швабскіх - 6. Piryfikarerzow розных - 30. Комж і капланскіх грэцкіх - 2, комж ... - 2.

**Кнігі.** Мшал інфоліо віленскага друку, Евангелле рукапіснае, актаіх стары, Евангелле польскае з навукамі, трэбнік супральскі, мшал лацінскі ў футляры, метрыкі хростаў, шлюбаў і пахаванняў ці рэгістр парафіі разам з табелем люднасці.

Капліца пры плябані старая, гонтай крытая, з малым купалам і крыжам жалезным. Уваход у яе праз бабінец, падвойныя дзверы на завесах жалезных з зашчапкамі, прабоямі і замком унутраным, ...

**А. 17.**

дзверы на завесах жалезных, вокнаў - 2 сталярнай работы, хор з балясамі, алтар сталярнай работы з абразом за шклом Найсв. Панны Марыі Чанстахоўскай, прастол на якім цыборыюм пафарбаваны, падушка пад мшал, krucyfix, падсвечнікаў - пара, драўляных, antepeduim драўляны з прыступкай. Ёсць прастол для апранання капланаў, алтарны званочак - адзін.

Плябань знаходзіцца за стаю ад царквы, шнуроў[80] 30 ці 23. Хата белая, у яе дзверы на жалезных завесах, з унутраным замком. Печ кафляная салатнага колеру з комінам, як шафа. Вокнаў - 3, чыстага шкла, хата знутры атынкаваная глінай. Падлога і столь з дошак, столь пафарбавана, сталярнай работы. Да каморы дзверы на жалезных завесах з унутраным замком, акно - адно, дзверы на падворак на жалезных завесах з зашчапкай, у каморы дзверы на бегунках. З каморы дзверы ў сені так сама на бегунках з зашчапкамі. Праз сені пякарня, дзверы на жалезных завесах. Усе жылыя пабудовы старыя, крытыя саломай, да рэпарацыі нягодныя. Два свіраны. Адзін стары ... дранкаю крыты з двума ганкамі і двума дзвярыма з дошак на жалезных завесах з клямкамі і прабоямі. У адным з іх - 3 засекі, ад папярэдняга параха застаўся. Другі новы, саломай крыты, тым жа парахам пабудаваны, засекаў - 4. Ёсць памост з дошак і столь, дзверы на жалезных завесах з зашчапкай і прабоямі. Гумно драўлянае, страха саломай крытая, на трох сохах з прамымі варотамі, з замком навесным ... . Адрына драўляная, саломай крытая, на двух сохах, вароты з дошак з зашчапкай і прабоямі. З другога

**А. 17 адв.**

боку адрына з хросту на дзвюх сохах, саломай крытая, з прамымі варотамі з жалезнай штабой і замком. Перад будынкам бровар, крыты дранкай, і з старой лазенкай, крытай саломай, пры бровары студня. З аднаго боку дзядзінца пякаранька з сенцамі, добрая, крытая саломай, хлеў драўляны на дзвюх сохах з варотамі, саломай крыты, перасыпаны. З другога боку дзядзінца адрына на дзвюх сохах з варотамі, вазоўня з варотамі на дзвюх сохах ..., стайні дзве з варотамі, жалезнымі цвікамі збітыя і штабкамі, і з зашчапкамі. Пры канцы малы хлеў. Усе пабудовы пад адной страхой саломай крытыя, перасыпаныя. Брама за варотамі, з абодвух бакоў агароджана ляскамі ў слупах.

**Падданыя.** Ян Драчыла, жанаты, мае 75 гадоў.

**Табель люднасці разам з рэестрам парафіі Дзікушскай абодвух палоў, якія здольныя і не здольныя да споведзі**

| | Хаты | Мужчын | | Жанчыны | | Колькасць | Колькасць |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | здольны | не здольны | здольны | не здольны | люднасці | дымоў |
| Вёска Заброеўцы | 23 | 51 | 22 | 49 | 21 | | |
| Вёска Агароднікі | 18 | 35 | 15 | 33 | 13 | | |
| Вёска Бурцічы з Казінцамі | 16 | 39 | 17 | 32 | 18 | | |
| Вёска Раманаўцы | 8 | 21 | 9 | 24 | 11 | | |
| Вёска Навасады | 10 | 20 | 15 | 22 | 13 | | |
| Вёска Баяры | 12 | 24 | 19 | 26 | 12 | | |
| Вёска Макары | 5 | 13 | 14 | 8 | 5 | | |
| Вёска Ходараўцы | 11 | 23 | 11 | 26 | 10 | | |
| Вёска Казляны | 3 | 7 | 3 | 5 | 4 | | |
| Разам | 106 | 226 | 125 | 219 | 107 | 677 | 106 |

[77] Цёмна-чырвонага колеру.

[78] У традыцыі Заходняй царквы белая ільняная доўгая тканіна, падчас з капюшонам, якая апраналася пад стыхар і прыкрывала шыю і плечы святара.

[79] Абрусы на прастоле сімвалізуюць вопратку Хрыста. Верхні абрус у форме белай хусткі мае грэцкую назву "ілітон" (у традыцыях Заходняй царквы korporal) і сімвалізуе тканіну, якой была абвіта галава Хрыста ў момант, калі яго клалі ў труну.

[80] У ВКЛ міля (7798 м) складалася з 300-315 шнуроў.

Сын Якуб мае 33 гады, жанаты. Адам - 22 гады, жанаты, Міхал - 21 год. ... Валоў - 3, кароў - 2, бычок - 1, авечак - 3, свіней - 2. Хата пабудавана скарбам, з каморай, сенямі, драўляным гумном на два бакі, старая, хлеў з хросту. Зямлі тры паўвалокі ў дзве змены, адна судзебная, завецца Верціняшкі, сенажаць на 5 вазоў, другая змена ляжыць каля луга, трэцяя прыдадзеная. У забудаванні пасля пажару дапамагаў вялебны святар-парах.

2-гі Антон Буча, жанаты, мае 38 гадоў. Яго браты Казімір - 34 гады, Міхал - 25 гадоў, сыны Рыгор - 10 гадоў, Якуб - 9 гадоў. Коней - 2, валоў - 3, кароў - 2, авечак - 5, свіней - 2. Хата з каморай і старымі сенямі з хросту, саломай крытая. Гумно добрае на дзвюх сохах, саломай крытае. Хлеў з хросту. Стаенка драўляная, крытая саломай. Зямлі тры паўвалокі ў дзве змены, адна сядзібная, другая засяваецца, трэцяя прыдадзеная, сенажаці на 5 вазоў ва ўрочышчы Верціняшкі.

3-ці ў вёсцы Макары Мацей Грысевіч, мае 34 гады, жанаты. Тры дачкі: Агата, Кацярына, Ева. Брату Казіміру - 26 гадоў. Адзін конь, валоў - 2, кароў - 3, свіней - 2, авечак - 7. Хата з сенямі, крытая саломай. Свіран малы, драўляны. Гумно з хросту на дзвюх сохах, старое. Хлявоў - 2, часткова з хросту, часткова з дрэва. Студня. Зямлі - чвэрць у тры змены, адна сядзібная, другая Мілаўшчына, трэцяя Капека. Ад зямлі плябані прыдадзеная чвэрць ва ўрочышчы Капека.

4-ты Вінцэнт Суркей - 44 гады, жанаты. Сын Андрэй мае 16 гадоў. Дачка Разалія. Брату - 33 гады, жанаты, служкам у плябані. Конь - 1, валоў - 3, кароў - 2, авечак - 5, свіня - 1. Хата з каморай, крытая саломай. Свіран новы, малы. Гумно з хросту. Хлявоў - 2. Адрына з хросту, крытая саломай. Зямлі - адна чвэрць у тры змены. Другі надзел прыдадзены ў тым самым урочышчы, дзе маецца сенажаць на 6 вазоў, яшчэ ў Купніках - 9 вазоў.

**А. 18.**

5-ты Самуэль Драчыла, жанаты, 34 гады. Трымае хату пасля дзядзькі Паўла. Выгадаваны ў плябані, бо сын памёрлага ... Марціна, які меў сваю маёмасць. Конь - 1, валоў - 2, кароў - 2 і падцёлка. Маёмасць Самуэля Драчылы ... авечак - 9, свіней - 5. Хата з сенямі ... добрая, саломай крытая. Гумно з хросту, старое. Хлеў - 1. Зямлі - чвэрць, у дзве змены. Другая частка прыдадзеная ў тым самым урочышчы, дзе Мацею Грысевічу сенажаць ... .

Самуэль Драчыла мае дваіх дзяцей, Паўлу - 14 гадоў, Мікалаю - 13 гадоў. ...

6-ты. Ян Грыц - 78 гадоў. Яго сын Ясюк мае 33 гады, жанаты, другі Янак - 24 гады. Унук Макуш - 8 гадоў, унучка Разалія. Конь - 1, валоў - 3, кароў - 3, авечак - 10. Хата з сенямі і каморай, добрая, саломай крытая. Гумно з хросту на дзвюх сохах. Хлявы - 2, адзін драўляны новы, другі з хросту. Свіран драўляны, саломай крыты. Зямлі - чвэрць, у тры змены, другая частка прыдадзеная з сенажаццю ў тым самым урочышчы, як першая сенажаць у Грудках на 6 вазоў, у Купніках на дзесяць вазоў.

7-мы Янук Буча, які памёр. Яго сыны Андрэй - 31 год, Ігнат - 28 гадоў і Ян - 24 гады. Конь - 1, валоў - 2, кароў - 2, авечак - 5, свіней - 3, гусей - 22, раней за даўгі даўнейшым парахам да плябані забраныя, потым па дамове часткова аддадзены. Хата з каморай і сенямі, старая. Гумно на дзвюх сохах драўлянае. Хлеў з хросту, стары. Зямлі паўвалокі ў тры змены, адна змена сядзібная, другая - ва ўрочышчы Міляшэўшчына, трэцяя - ва ўрочышчы Капеках. Сенажаць адна - у Гайках на 6 вазоў, другая - у Капеках на 10 вазоў.

Павіннасці падданых. Мужчына 3 дні з вупражжу, а жанчына 2 дні адбываюць паншчыну, гэта ўзімку. Улетку, жанчыны ад пачатку жніва аж да поўнай уборкі з поля - 4 дні.

Зямля, якая да плябані належыць, у добрай пацэсіі. Зараз валок дзевяць, моргаў 8, шнуроў 2, precikow[81] 256 і $^1/_2$. Гэта ёсць грунт вымераны, і межы абазначаныя васпанам Вінцэнтам Янчэўскім, каморнікам Старадубскім ў 1784 г. 20 ліпеня, як указвае пасведчанне і карта гэтых зямель, зробленая тым жа каморнікам. Пасведчанне і карта ёсць у дакументах плябані ... . Рознымі часамі, рознымі пацэсарамі і рознымі дварамі забраная зямля з сенажаццю, якая раней была плябані, 1 валока і 8 моргаў, precikow 9, як сведчыць карта.

**Дакументы.** Фундушы царкоўныя не знойдзены, пасведчанні, некаторыя візіты ў архіве мітрапаліта знаходзяцца. Дакумент рускі, стары, скапіяваны, як высветлілася, належыць царкве Мажэйкаўскай і павінен быць ёй вернуты, наданне ад 1732 г.

**А. 18 адв.**

вялебнага святара Яна Скарымскага. Генеральная візіта вялебнага святара Бялькевіча сурагатара гарадзенскага ад 1754 г. Наданне вялебнага святара Басталоўскага ў 1767 г. Візіта вялебнага святара Бялькевіча ў 1763 г. Наданне вялебнаму святару Антонію Свідэрскаму ў 1772 г. ад вялебнага святара Тупальскага пра адабранне зямлі і сенажаці ў вёсцы Макары яснавяльможным панам Янам Хадкевічам, старастам Жмудскім у 1779 г. Пасведчанне аб пушцы, двух келіхах з патынай, з якога срэбра зроблены, ад 28 студзеня 1781 г. Ёсць квіткі вялебнага святара Пятровіча ў 1772 г. Візіта генеральная вялебнага святара Марцінеўскага ў 1784. Карта з пасведчаннем аб землях васпана Вінцэнта Янчэўскага, каморніка Старадубскага ад 20 ліпеня 1784 г.

У гэтай царкве парахам ёсць вялебны святар Гамаліцкі, пісар апостальскі, скончыў Віленскі алюмінат. Высвечаны ў Варшаве праз прэзенту яснавяльможнага пана Александра Сапегі, канцлера ВКЛ 19 сакавіка 1783 г. на плябань Дзярэчынскую. Як сведчыць аўтэнтычная прэзента ад яснавялебнага Ясона Смагаржэўскага, мітрапаліта цэлай Русі, ... дакумент аб інсталяцыі ад 1784 г. 27 ліпеня p.d.k. ...

Паколькі царква ў добрым стане, а званіца зруйнавана, неабходна парупіцца аб пабудаванні новай пры

[81] Мера даўжыні, каля 446,65 мм.

дапамозе ... яснавяльможных паноў калятараў ці пабожных парафіян.

Так сама калі Pixis ці начынне для wiatyk[82] для хворых не знойдзецца, тады стараннем мясцовых уладаў ці праз дарэнне кагосьці, ці нават з ахвяраванага срэбра, з дазволу яснавяльможных паноў калятараў, атрымаць гэтую прыладу.

**Аб Дзікушскай царкве**[83]

*Атрымана 9 чэрвеня 1825 г.*

Указ Яго Імператарскай вялікасці ..., з Берасцейскай Кансісторыі вялебнаму святару Яну Канеўскаму, берасцейскаму каноніку, дэкану лідскаму па справе рапарта вялебнага святара Баброўскага, берасцейскага кафедральнага каноніка ад 19 траўня гэтага года, які паведамляў пра: 1-е, Дзікушская царква з-за сваёй старасці пагражае разваліцца, а таму можа было б лепей яе апячатаць. 2-е, у 1776 г. ад ад гэтай царквы валока зямлі адышла да фальварка Лябёдка, а ў 1778 г. сенажаць пад вёскай Макары на 15 вазоў забрана калятарам, папярэдні парах Антон Свідэрскі гэтую справу падаваў у Лідскі гродскі суд.

Вырашылі: 1-е, звярнуцца да яснавяльможнага пана калятара ці да ўладальніка маёнтка, на зямлі якога знаходзіцца царква, каб замест старой ... пачаў мураваць у Дзікушках новую царкву. Пра адказ калятара паведаміць неадкладна Кансісторыі. 2-е, патлумачыць чаму па вышэй апісаных зямельных справах да гэтага часу няма выраку, ці ёсць дакументы на забраныя пашу і сенажаць, якія маглі б дапамагчы вырашыць справу?

Дадзена ў Жыровіцах, 5 чэрвеня 1825 г.

/Подпіс/

**Пра Мітрапаліта Іосіфа Сямашку**[84]

*(З ліста, пісанага неўзабаве пасля яго смерці)*

Толькі ў цяперашнім годзе з'явіліся "Запіскі Іосіфа, мітрапаліта літоўскага", выдадзеныя па запавяданні аўтара Акадэміяй навук у 3-х вялікіх тамах і надрукаваныя яшчэ ў канцы мінулага года. Мы не паспелі яшчэ даць справаздачы аб гэтым капітальным выданні, з якога так шмат цікавых ... вынятак зроблена рознымі газетамі. Пакуль будзе гатова наша справаздача, даём месца лісту, у якім маецца цікавыя біяграфічныя звесткі аб памёршым ... архіпастыры, якіх няма ў самой яго аўтабіяграфіі. Пісьмо напісана б. протаіерэем Ліпавецкага павета Кіеўскай губерні, Аляксандрам Мацкевічам, у падпарадкаванні якога знаходзіўся прыход Паўлаўка, радзіма Сямашкі, праз 7 месяцаў пасля смерці гэтага апошняга, - напісана ў адказ на запыт кіеўскага кафедральнага протаіерэя Н.Г. Лебядзінцава, які, рэдагуючы яшчэ ў той час кіеўскія Епархіяльныя Ведамасці, хацеў сабраць па свежай памяці, ацалелыя на радзіме спачыўшага іерарха пісьмовыя і вусныя звесткі пра яго і яго сям'ю; яно засталося ненадрукаванае і зараз перададзена нам. Апускаем пачатак і канец ліста, што выкладаюць нагоду і вынік пошукаў, і прыводзім істотную і самую вялікую яго частку. Сабраныя а. Мацкевічам звесткі выкладзены ў парадку звернутых да яго пытанняў, а таму яго паведамленне не мае звязнага выкладання і аздаблення.

Дзед мітрапаліта Іосіфа, падчас быўшай ў тутэйшым краі уніі паступіў уніяцкім святаром у сяло Паўлаўка, праваслаўным не быў. Як распавядае жыхар гэтай вёскі селянін Аляксей Сідарук, які мае 72 гады і памятае яго, ён павінен быў пакінуць свой прыход з-за таго, што не хацеў прыняць праваслаўя, і на яго месца тады быў прызначаны праваслаўны святар Міхаіл Чарпінскі. Было гэта падчас далучэння паўднёва-заходняга краю да Расеі, а разам ... да праваслаўя ўніяцкага насельніцтва. Па даведцы ў кліравых ведамасцях прыходу Паўлаўка за 1834 год значыцца: *"Святар Міхаіл Андрэеў Чарпінскі пасвечаны ў святары прывялебным архіепіскапам Віктарам у 1795 годзе, сакавіка 6; ад роду яму 31 год"*. Наколькі мне вядома па расказах майго бацькі, святарам, якія засталіся тады ў уніі, пасля ліквідацыяй іх парафій ад казны было прызначана на ўтрыманне па 100 руб. асіг. у год. Меркаваць можна, што і дзед Сямашкі карыстаўся тым жа ўтрыманнем. Па расказах таго ж старога селяніна, Цімафей Сямашка ў гэты час па ранейшаму жыў у сваім доме ў в. Паўлаўка, але для здзяйснення набажэнства ездзіў у мястэчка Ілінцы, дзе была ўніяцкая капліца, пабудаваная ў выглядзе звычайнага дома; насупраць цяперашняй станавой кватэры, на тым месцы, дзе зараз хата замежніка Уха. Пры ім жылі і ўнук яго Іосіф, пасля мітрапаліт, і бацька апошняга, які тады яшчэ не быў святаром: але ўнук не ішоў па прыкладу свайго дзеда і бацькі і разам з маці сваёю хадзіў да набажэнства ў праваслаўную царкву сяла Паўлаўка, былую ўніяцкую, у якой служыў згаданы вышэй праваслаўны святар Міхаіл Чарпінскі.

У № 15 Іркуцкіх Епархіяльных Ведамасцяў за 1868 г. у нататцы пра мітр. Іосіфа між іншым, сказана, што ён на восьмым годзе ад нараджэння разам з братамі Янам і Мікалаем, быў аддадзены для хатняга навучання нейкаму Бучкоўскаму. Хто гэты Бучкоўскі? У метрычнай кнізе царквы вёскі Паўлаўка значыцца, што з 1803 года Трафім Бучкоўскі быў дзячком гэтай царквы; а, вядома, што як у той час, так і ў пазнейшыя гады дзячкі насіўшыя ганаровую назву "бакаляраў", былі адмысловымі педагогамі і навучалі не толькі сялянскіх, але і святарскіх дзяцей. Выходзіць, што першапачатковае навучанне мітрапаліт Іосіф атрымаў ў праваслаўнага дзяка і, зразумела, гэта акалічнасць мела вельмі важны на яго ўплыў, стрымліваючы дзеянне няправаслаўнага элементу яго сям'і. Як вучань праваслаўнага дзяка, разам з ім ён хадзіў у праваслаўную царкву, спяваў і чытаў на клірасе, асабліва чытаў: "Дабраслаўлю Госпада". Вянком тагачаснага вучэння, марай бацькоў навучэнца-дзіцяці было менавіта ўмен-

[82] Так называецца еўхарыстыя, якаючы даецца чалавеку які памірае.

[83] Архіў Лідскага дабрачыння. Ф. 1., Воп. 1., Спр. 6.

[84] Киевская старина. Киев, 1884. Т. VIII. С. 332-340.

не гучна і працяжна прачытаць гэты псалом, падчас раздачы антыдора. Асабліва займала гэта дзяцей. Бывала, пагоніць будучы мітрапаліт ў полі валоў, каля яго збярэцца гурма такіх жа сялянскіх падлеткаў і просяць яго прачытаць: “Дабраслаўлю Госпада”, як у царкве ён чытаў, "галосна, з працягам, з роздыхам", а ўзамен гэтага ён прасіў іх спяваць песні і навучыць яго якой-небудзь новай, невядомай. Песні, вядома, былі ўкраінскія, і будучы свяціцель горача іх любіў. Гадоў за сем перад гэтым (1869 г.) памёр у Паўлаўцы нехта Базько (Васіль) Цінскі, які да самай смерці быў царкоўным вартаўнікам - і ў часы уніі, і потым - у праваслаўі. Царкоўны вартаўнік служыў звычайна святару замест фурмана ў паездках больш далёкіх, і Базько вазіў "Іосіпка-паніча" - пасля мітрапаліта, у "школы" - перш у Няміраў, а потым у Вільню. Па захаўшыхся ў яго добрай памяці расказах, паніч нічога так не любіў, як спыняцца ў дарозе на начлег у полі, пад адкрытым небам. Любуючыся прыгажосцю летніх начэй, ён доўга не стульваў вачэй, спяваў украінскія песні, пераважна "чумацкія", просячы Базька, каб і ён падпяваў яму, і за гэта даваў яму ў дарозе асаблівую порцыю гарэлкі. Найбольш любімай яго песняй была: "Ой, маці, маці, та не гай мене; у далёкую дарогу выражай мене". Між-волі пры гэтых словах нам уяўляецца той далёкі жыццёвы шлях, якім пасля прайшоў ... іерарх царквы. Будучы ў сане архірэйскім, прывялебны Іосіф адносіўся да "Базька", як да свайго прыяцеля, калі той прыязджаў да яго ў Вільню, і ветліва яго частаваў і адарваў. Акрамя "Базька", ужо нябожчыка, у Паўлаўцы застаецца ў жывых аднадворац Ян Душынскі, быўшы па найму на службе ў бацькі мітр. Іосіфа: здаралася і яму вазіць "паніча" ў школу ў Няміраў, і яго апавяданні супадаюць з апавяданнямі "Базька". Такім чынам душа ... іерарха выхоўвалася на гуках роднай песні і думы. [...]

З якога часу дзед мітр. Сямашкі служыў святаром у в. Паўлаўка, пра гэта ў пісьмовых дадзеных не знайшлося. Шукаць яго паслужны спіс ў ілінецкага ксяндза я не знайшоў магчымым, ведаючы яго кірунак, а ўніяцкія справы Ліпавецкага духоўнага праўлення, дзе ён мог знаходзіцца, у саракавых гадах запатрабавалі ў Кіеўскую кансісторыю. Але помнікам, які паказвае час свяшчэнства ў Паўлаўцы Цімафея Сямашкі, служыць надпіс па паціры, які ён ахвяраваў у тутэйшую царкву. Надпіс гэты, я бачыў, быў выпадкова адкрыты цяперашнім святаром а. Парфірам Маўчанаўскім, калі ён развінціў пацір для чысткі, і заключаецца ў наступных знаках: “1768. T.S.P.P.”. Разгадка не цяжкая: лічбы паказваюць год, а пачатковыя літары хаваюць пад сабою наступныя словы: Thimotheusz Siemaszko, Paroch Pawlowski. Па словах старога Сідарука і іншых, келіх гэты зроблены Цімафеем Сямашкам на трэцім годзе яго свяшчэнства з срэбра, якое ён выратаваў падчас Каліеўшчыны[85] ад гайдамакаў, і зроблены, як ахвяра ў падзяку Богу за захаванне жыцця і маёмасці. Такім чынам пачатак свяшчэнства Цімафея Сямашкі ў сяле Паўлаўка прыблізна можна адносіць да 1765 года. Той жа стары памятае час смерці Цімафея Сямашкі (яму самому было тады 10 гадоў) і як яго хавалі ў сяле Паўлаўка, каля царквы, на месцы, дзе пасля быў пабудаваны прыдзел.

Бацька мітрапаліта Іосіфа быў жанаты з дачкой уніяцкага святара Серацінскага; сын яго Іосіф нарадзіўся ў той час, калі бацька яшчэ не быў святаром. У метрычнай кнізе прыходу Паўлаўка, год 1808, месяц кастрычнік, запісаны артыкул аб нараджэнні і хрышчэнні сына той іх вёскі сціхарнага дзяка Паўла Бараноўскага, а ў ёй значыцца, што хросным пры хрышчэнні быў *"тамтэйшы уныятин Іосіф Сомашко"*; святаром ён тут не названы, значыць, і не быў такім у той час. Пражываючы пры бацьку, бацька ... іерарха наогул займаўся гаспадаркай, а пераважна пакупкай і продажам валоў і свінога сала, і "чумакаваў" - ездзіў у Крым па соль; застаючыся дома, выконваў усе палявыя работы; уласнымі рукамі касіў, араў і раліў, толькі не жаў; разам з ім працавалі і ягоныя сыны, у тым ліку і будучы мітрапаліт. Калі сяляне казалі бацьку: навошта ён на такіх цяжкіх работах ўжывае "панычаў", ён адказваў: няхай перш навучацца працаваць, а "панаваць" будуць пасля. Аднаму з сваіх сыноў, менавіта Іосіфу, бацька пераважна перад іншымі, даручаў пасвіць валоў і ахоўваць іх у начны час, і вось у гэтай працы, у начной варце ўдзельнічаў з ім і стары Сідарук, апавяданнямі якога мы карыстаемся, і атрымліваў ад яго па кавалку сала за добрую песню, або калі вартаваў за яго валоў, калі Іосіф хацеў заснуць. Старому гэтаму я паказваў партрэт мітрапаліта Іосіфа, які быў у красавіцкай кніжцы "Странніка" за 1869 год, і ён пазнаў яго, знайшоўшы ў ім рысы, знаёмыя яму з дзяцінства.

У 1813 годзе Іосіф Сямашка (бацька) пасвечаны быў уніяцкім біскупам у сан святара ў м. Ілінцы, але служыў ён не ва ўніяцкай Ілінецкай царкве, якая мела асабістага святара, а ў тамтэйшым касцёле. Там, кажуць, ўладкаваныя былі два бакавыя алтары для ўніяцкіх святароў, і на адным з іх у імя Свяціцеля Мікалая святарыў Сямашка, а на іншым таксама ўніяцкі святар Духоўскі. У некралогу мітр. Іосіфа, змешчаным у "Іркут. Еп. Ведамасцях", архімандрыт Мадэст кажа нават, быццам у першым з гэтых прыбудоў Сямашкам (бацькам) уладкаваны іканастас. Нам здаецца і тое, і другое няслушным: у каталіцкіх касцёлах заўсёды ёсць бакавыя алтары, а ўніяцкія святары таксама служылі ў касцёлах, як ксяндзы ў цэрквах уніяцкіх, пабудова ж іканастаса ў касцёле не магчыма ўжо таму, што гэтага не дапусціў бы ксёндз і парафіяне. Струхлелыя абразы, пісаныя на палатне, у тым ліку абраз Свяціцеля Мікалая і іншых патронаў роду Сямашак, ёсць і цяпер у званіцы, пры царкве в. Паўлаўка, і па расказах, яны належалі ўніяцкай святару Іосіфу Сямашку; але ці былі яны калі-небудзь у Ілінецкім касцёле, таго ніхто не ведае; дакладней яны складалі звычайнае ўпрыгожванне ў доме тагачаснага святара, хоць бы і ўніяцкага. Раней за тое было ў звычаі ў праваслаўных і ўніятаў рукапакладацца "на вакансы", у надзеі адыскання прыходу; вельмі можа быць, што і бацька Сямашкі па-

[85] Каліеўшчына - паўстанне ўкраінскіх казакоў і сялянства ў 1768 - 1769 гг.

свечаны з такім-жа разлікам, але ўніяцкі прыход знайсці тады было ўжо цяжка і, за адсутнасцю яго, ён служыў у касцёле. Прымаючы да сябе ўніяцкіх святароў, польскія ксяндзы разлічвалі, вядома, скарыстацца рэшткамі гінуўшай уніі; але ... хутка сталі зганяць зноў іх са сваіх касцёлаў - выгнаны быў пры гэтым і Сямашка з Ілінецкага касцёла. Тады, падарыўшы пабудаваны ім паблізу касцёла дом сыну свайму Мікалаю, які быў у Ілінцах вольнапрактыкуючым лекарам, ён купіў для сябе іншы vis-avis, і тут з кухні, якая складала памяшканне асобнае ад дома, зладзіў малельню; менавіта тут і былі абразы, пра якія мы перад гэтым згадвалі. У гэтай бажніцы ў студзені 1840 года старыя Сямашкі ўчынілі па ўніяцкім абрадзе шлюб іх дачкі Алены, любай сястры праваслаўнага ўжо тады правялебнага Іосіфа. Жаніхом быў Віктар Гамаліцкі, цяперашні віленскі кафедральны протаіерэй, а шлюб здзейснены ўніяцкім святаром Фёдарам Кудрыцкім, які пражываў у той час у прадмесці горада Ліпаўцы Гайсіпе, і знарок для гэтага сюды выкліканым. Пры здзяйсненні гэтага шлюбу, тыя, хто браў шлюб, як перадаюць відавочцы, па ўніяцкім звычаі стаялі па каленях.

Прыняўшы праваслаўе, правялебны Іосіф ў канцы трыццатых і ў пачатку саракавых гадоў, не раз пісаў свайму бацьку ў Ілінцы, пераконваў і з сыноўняй пакорай упрошваў рушыць услед па яго прыкладу, некаторыя з гэтых лістоў даводзілася і мне чытаць; пісаныя яны былі заўсёды па-руску, адваротны ж бок ліста заўсёды пакідаўся чыстым. Па заканчэнні ліста была прыпіска да брата Мікалая (лекара) і яго жонкі на польскай мове, якая пачыналася словамі: "Panstwu Mikolaiostwu ...". Пры адным з лістоў дасланая была для бацькі багатая раса і падраснік; але ніякія переканнанні паважнага ... сына не дзейнічалі на старых бацькоў. Нарэшце восенню 1846 года правялебны Іосіф прыбыў асабіста ў Ілінцы да сваіх бацькоў, маючы адрошчаныя на галаве валасы і бараду, але і гэта не паўплывала на бацьку адносна перамены веры, ён толькі сказаў, што яму лянота галіць бараду, але валасы стрыг і не пакідаў апранаць свой "габіт" цалкам цураючыся рызы і падрызніка. У час знаходжання архіепіскапа Іосіфа ў бацькоў яго прасілі наведаць праваслаўныя цэрквы ў Ілінцах і Паўлаўцы, але ён ад гэтага адмовіўся, пазбягаючы архірэйскіх сустрэч, і сказаў, што прыехаў сакрэтна. Потым, у наступным годзе, бацька і маці правялебнага Іосіфа з'ехалі да яго ў Вільню, прадаўшы свой дом, які перайшоў у валоданне памешчыка гр. Плятара і заняты потым пад станавую кватэру, пры чым малельня атрымала ранейшае сваё прызначэнне і стала зноў кухняй. Дом гэты пасля падораны Плятэрам замежніку Уху і ў цяперашні час цалкам перабудаваны.

А архімандрыт Мадэст ў згаданым некралозе мітрапаліта Іосіфа кажа між іншым, быццам бацька яго цалкам спачуваў думкам яго пра ўз'яднанне ўніятаў, і калі выйшаў акт ўз'яднання, ахвотна прыняў праваслаўе. Ведаючы яго асабіста, і прытым блізка, магу сцвярджаць толькі адваротнае; толькі пераехаўшы ў Літву, дзе дадзена было яму святарскае месца ў сяле Дзікушкі, ён стаў праваслаўным, але і тое больш па імені. Фанатызм і нянавісць да праваслаўя асабліва моцна выказаліся ў сыне яго, святары Яне Сямашку, які і памёр па-за межамі праваслаўнай веры. Аб сваім родным браце мітрапаліце Іосіфе заўсёды адгукаўся так: "Пракляты! І сам сябе ўтапіў, і народ загубіў". У бытнасць яго ў мяне ў Лапаўцы, я паказаў яму партрэт яго знакамітага брата; ён з шаленствам кінуў партрэт па падлогу і пры гуках разбітага шкла ў той момант уцёк. Паміраючы, ён запавядаў пахаваць яго каля Ілінецкага касцёла, і ксяндзы ўжо прыняліся было за выкананне яго волі; але праваслаўныя святары адабралі яго ў ксяндзоў і пахавалі пры праваслаўнай ілінецкай Васкрасенскай царкве, чым застаўся задаволены брат памерлага, мітрапаліт Іосіф. Святарам, якія яго хавалі, даслаў грашовую ўзнагароду. Жонка Яна Сямашкі, дачка ўніяцкага святара Грачыны, зусім перайшла ў лацінства, пра што вялася бясплодная перапіска ў Ліпавецкім духоўным праўленні. Пасля смерці, ксёндз пахаваў яе на рымска-каталіцкіх могілках. На Евангеллі, дасланым мітрапалітам Іосіфам ў царкву сяла Паўлаўка, наступны надпіс: *"А сціплы Іосіф, мітрапаліт літоўскі і віленскі, гэтую кнігу святога евангелля паклаў назаўжды ў царкву парафіяльную ў сяле Паўлаўка, Кіеўскай губерні, Ліпавецкага павета, дзе дзед мой - Цімафей Сямашка добра пастырстваваў, дзе ля самага дзядзінца спачывае прах маёй бабы Марыі, а таксама трох братоў і сястры, памерлых у маленстве, дзе і я маліўся з дзяцінства да юнацкага ўзросту. Прынашэнне гэтае ў студзені месяцы 1853 года, на пяцьдзесят пятым годзе майго жыцця. Спамяні Госпадзе мяне недастойнага і ўсіх прысных маіх"*. Дзіўна, што мітрапаліт Іосіф у прыведзеным надпісе, кажучы аб пахаваных пры царкве сяла Паўлаўка бліжэйшых яго родных: бабе, братах і сястры, не згадаў пра свайго дзеда, які па сведчанні відавочцы, пахаваны пры гэтай жа царкве, ды і ндзе ў іншым месцы і не мог быць пахаваны, бо знаходзіўся да самай сваёй смерці ў тым сяле.

*Протаіерэй Аляксандр Мацкевіч.*

# Да гісторыі Курасёўшчыны

***Шаноўны рэдактар часопіса "Лідскі Летапісец"***

*Я вельмі ўдзячны, Вам, а таксама краязнаўчаму музею Ёдкаўскай школы за тое, што дзякуючы ўсім вам, я змог знайсці на мапе месца радаводу маіх продкаў. Уводзячы назву* ***Kurosiowszczyzna*** *і* ***Куросевщина****, я не змог знайсці адпаведнага адказу: дзе гэтая мясцовасць, ці існуе ў рэчаіснасці? І толькі, калі я ўпісаў на беларускай мове* ***Курасёўшчына****, адразу высвецілася адпаведная тэма і ваш артыкул. Усё гэта натхніла мяне напісаць Вам на беларускай мове (не судзіце строга). Я дасылаю вам фрагмент свайго радаводу, з якога вынікае, што мой далёкі продак Самуэль Радзівіловіч (Samuel Radziwillowicz) маёр (major) войск ВКЛ меў у спадчыне (dziedziczyl) маёнтак Курасёўшчына (Kurasiowszczyzna) ў павеце Лідскім. Ужо пазней яго сыны: Ежы - скарбнік віцебскі (Jerzy Skarbnik Witebski), Францішак (Franciszek) і Міхал - ротмістр ашмянскі (Michal Rotmistrz Oszmianski) прадалі Курасёўшчыну Юзафу Тукалу (Jozef Tukallo) ў 1710 годзе 9 красавіка за 8500 злотых, а 12 красавіка 1710 года была прызнана (купля -продаж) у Лідскім земстве.*

*З наяўных дакументаў не вядома, з якога часу валодалі Курасёўшчынай Радзівіловічы і іх продкі.*

*З павагай,*

***Раман Бараноўскі****, Вільня.*

Па просьбе рэдакцыі дасланы аркуш расчытаў і адаптаваў да сучаснай беларускай мовы, на колькі гэта дазволіла якасць, **Леанід Лаўрэш.** Расчытка пацвярджае прыведзеныя ў лісце Рамана Бараноўскага звесткі.

***Вывад - радаслоўная шляхецкай фаміліі Радзівілавічаў герба Любіч***

*Года тысяча восемсот трыццаць пятага,*
*лістапада, другога дня.*

*Перад намі, Янам Марцінкевічам Жабам, маршалкам Віленскай губерні, стацкім дарадцам і старшынствуючым кавалерам, а таксама дэпутатамі ад паветаў Віленскай губерні, а менавіта: Ковенскага - Бернардам Кудароўскім, дарадцам ... і Упіцкага - Феліксам Ялавецкім, чыноўнікам 8-га класа і кавалерам, былі выслуханы і разгледжаны довады шляхецкага паходжання. Імі (*Радзівілавічамі - *Л.Л.) быў складзены вывад шляхецкай радаслоўнай фаміліі ўроджаных Радзівілавічаў герба Любіч. Пры просьбе ЯМ шляхціца Юзафа сына Яна Радзівілавіча, у якой ідзе размова пра яго фамілію, ёсць дададзены дакумент ад 7 верасня 1799 г., у якім прызнаецца шляхецкая годнасць і з гэтым дакументам просьба незаконнароджанага (?) Баніфацыя, а таксама стрыечных Фелікса і Базыля Юзафавічаў ... быў далучаны дакумент ад 15 снежня 1820 г. ... у гэтым дэкрэце ... прывілей продка Самуэля Радзівілавіча, іншыя дакументы па дэкрэту ...., апрача таго, даверанасць з рэвалюцыяй 1820 г. знікла, трэба паўторна разгледзець справу, але гэтай фаміліі не ўсе асобы, а таксама прадстаўленыя ў Геральдыю доказы праходзяць працэдуру. Сабраўшы аб сваёй галіне шляхецкія дакументы і склалі ў гэтую Дэпутацыю для сфармавання папраўчага дэкрэту і прадстаўлення цэлай справы ... для выраку Геральдыі з наступным тэкстам: "Самуэль (?) Радзівілавіч быў маёрам войск Вялікага Княства Літоўскага, а праз грамадзянскія заслугі атрымаў давер караля польскага Уладзіслава IV, праз гэтага манарха абраны камісарам для вызначэння маставой аплаты на рацэ Нёмане, праз які ішла дарога з Варшавы да Гародні і Вільні, доказам гэтага ёсць прыкладзены прывілей вышэйназванага караля 1699 чэрвеня 12 дня. Той самы маёр Радзівілавіч ў Лідскім павеце дзедзіч маёнтка з падданымі Курасёўшчына, які яго сыны Ежы - скарбнік віцебскі, Францішак і Міхал - ротмістр ашмянскі, за 8 500 зл. назаўсёды Юзафу Тукалу прадалі, як гэта даводзіць дакумент аб вячыстым праве продажу памянёнымі сынамі Самуэля Радзівілавіча ад дня 9 красавіка 1710 г., а 12 таго ж месяца і года Лідскім земскім судом (*дамова - *Л.Л.) прызнана. З іх Міхал Радзівілавіч меў ... праз набыццё маёнтак Шчэпанавічы ў Ашмянскім павеце, які пасля яго смерці дастаўся тром яго сынам Антонію, Яну і Уладзіславу, а гэты апошні, трэцюю частку памянёнага маёнтка свайму сыну Ежы (*Юрыю - *Л.Л.) падараваў, пра што ўсім сведчыць дакумент на права дарэння ад Уладзіслава Міхайлавіча Радзівілавіча сыну Ежы ў 1768 г." ...*

Такім чынам, дзякуючы Раману Бараноўскаму, на гістарычным ланшафце Лідчыны з'яўляецца шляхочы род Радзівілавічаў або Радзівіловічаў, якія займалі значныя пасады ў Вялікім Княстве Літоўскім (каралеўскі камісар, скарбнік віцебскі, ротмістр ашмянскі). У гісторыі Курасёўшчыны з'яўляецца 1710 год.

Далейшыя пошукі па роду Радзівіловічаў могуць даць і больш раннія даты. Дзесьці, напэўна, ёсць дакументы, якія сведчаць і пра тое, як Курасёўшчына трапіла да Радзівіловічаў, бо паводле правілаў утварэння беларускіх тапонімаў: Курасёўшчына - спадчына пасля Курася (Кураша, Каруся), а гэта значыць, што або быў нейкі Курась Радзівіловіч, або Радзівіловічы неяк гэтую Курасёўшчыну ад некага набылі.

***Падрыхтаваў Станіслаў Суднік.***

***Сяргей Дычок***

# ВАШКЕВІЧЫ

## Спроба гістарычнай рэканструкцыі

Сёння паселішча з такою назваю ў межах Лідскага раёна не існуе. Нават не ўсе жыхары суседняй вёскі Агароднікі, што каля Нёмана на трасе Р11 з Ліды ў Навагрвдак, чулі такую назву. Ад зніклых Вашкевічаў (Васькавічаў у іншым, спрошчаным гутарковым вымаўленні) на сёньня засталіся толькі цвінтар пры рэстаўраваным напрыканцы мінулага тысячагоддзя філіяльным касцёле св. Яўхіма ды Ганны, а таксама легенды пра апошняга ўладальніка маёнтка графа Ледухоўскага, пра нібыта спалены ім (ці пры ім?) старадаўні палац, пра скарбы і падземныя хады…

Не маючы доступу да першакрыніц (прынамсі, такога доступу, які дазволіў бы раскрыць усе таямніцы і адказаць на ўсе пытанні) і прафесійнага досведу гісторыка, я мушу карыстацца напрацоўкамі іншых, больш дасведчаных і абазнаных папярэднікаў. Найперш маю на ўвазе інтэрнэт-артыкул навуковага супрацоўніка Лідскага музея В.В. Сліўкіна (www.lida.info/imeniya-lidskogo-uezda-imenie-vashkevichi-vaskevichi/, а таксама артыкул "Філіяльны касцёл святых Яўхіма і Ганны ў Вашкевічах" Конрада Пызеля (Konrad Pyzel. Kosciol filialny p.w. SS. Joachima i Anny w Waszkiewiczach // Koscioly i klasztory rzymskokatolickie dawnego wojewodztwa wilenskiego. T.2. S. 192-195.)/

Але адразу пазначу, што пры ўсёй павазе да іх прафесіяналізму і працы пакідаю за сабою права сумнявацца і нават абвяргаць нейкія высновы.

Першае ўпамінанне Вашкевічаў абодва аўтары адносяць да 1560 года. Князь Андрэй Вішнявецкі купляе землі ў белагрудскага клана Завішаў (Кезгайлаў-Завішаў, па Пызелю, які лічыць, што праз дваццаць гадоў Вішнявецкі прадае маёнтак нейкаму Ярашу Ваўчку). В.В. Сліўкін тут значна больш падрабязны: *“Спадчыннікі суддзі земскага драгічынскага Юрыя Янавіча Завішы (каля 1480 - да 1528) прадалі Вашкевічы князю Андрэю Іванавічу Вішнявецкаму. Чатыры сыны Юрыя Завішы: Мікалай, Ян, Альбрэхт і Крыштаф памерлі да гэтага часу, не пакінуўшы прамых нашчадкаў”.*

А.І. Вішнявецкі (каля 1528-1584), князь з 1555 г., меў вялікія зямельныя ўладанні на Валыні. Выстаўляў у 1567 г. са сваіх маёнткаў 71 вершніка. У 1568 г. прызначаны луцкім кашталянам. Удзельнічаў у падпісанні Люблінскай уніі (1569). Ваявода брацлаўскі (1571-76), валынскі з 1576 г., староста лоеўскі, луцкі і любецкі з 1580 г. Быў жанаты з Яўфіміяй дачкой Юрыя Вяржбіцкага (1539-1589), мелі чатырох дачок.

Зазірнуўшы ў Вікіпедыю, можна многа знайсці пра знакаміты род князёў Вішнявецкіх (Карыбут-Вішнявецкіх). Легендарны родапачынальнік - Карыбут, сын Вялікага князя Альгерда, але не ўсе гісторыкі з гэтым згодныя, і больш упэўнена можна казаць пра Міхала Васільевіча, першага князя Вішнявецкага (1474?-1517?), ваяводу брацлаўскага (1507г.), які даводзіцца дзедам "нашаму" Вішнявецкаму.



***Герб Вішнявецкіх "Карыбут"***

Род знакаміты і ўплывовы, прадстаўнікі займалі значныя пасады ў ВКЛ, пералік усіх - непасільная задача. Адзначу толькі, што бацька Андрэя Іванавіча Вішнявецкага, дзяржаўца Эйшышак, Прапойска, Чаркаска (памёр каля 1542 г.), быў жанаты двойчы і меў не меней шасці дзяцей, сярод якіх дочкі Кацярына - жонка вялікага гетмана літоўскага Рыгора Хадкевіча, і Аляксандра - жонка Івана Шымковіча. Але найбольш адзначыўся ў гісторыі сын Дзмітры, гетман запарожскіх казакаў, што пад імем Байды, наводзячы жах на крымчакоў і турак, увайшоў у эпас Украіны. Яркае жыццё Дзмітра абарвалася пасля яго абрання гаспадаром Валахіі, палону і страты ў Канстанцінопалі ў 1563-м. Бяздзетны, ён пакінуў тытул і землі брату Андрэю.

Аднак і наш Андрэй Іванавіч пакінуў значны след на старонках летапісаў. Люблінская унія, удзел у дэлегацыі, якая запрашала на трон Генрыха Валуа, паход на Пскоў пад сцягам караля Стэфана Баторыя, судовыя зямельныя спрэчкі з Андрэем Курбскім, абарона паўднёвых межаў Рэчы Паспалітай ад татарвы (не заўсёды пераможная - у 1577-м тыя захапілі і спалілі радавое гняздо, Вішнявец). З усяго гэтага я раблю адну выснову - Андрэю Іванавічу Вішнявецкаму было зусім не да Вашкевічаў над Нёманам. І таму зусім не дзіва, што Вашкевічы сталі пасагам адной з чатырох дачок Андрэя Вішнявецкага і Яўфіміі з Вяржбіцкіх (1539-1589), а менавіта Ганны (1569-1595).

Старэйшая дачка Віснявецкіх Ганна (каля 1560-1595) у 1581 г. выйшла замуж за менскага ваяводу Мікалая Паўлавіча Сапегу (1529-1599). Жаніх быў аднаго ўзросту з бацькам маладой, але меў выдатную адукацыю: вучыўся у Ляйпцыгскім і Крулявецкім універсітэтах. Удзельнік Лівонскай вайны. Ды і пасады меў значныя: маршалак гаспадарскі (1566-76), ваявода менскі (1576-88), берасцейскі (1588), віцебскі ( 1588),

стараста рэчыцкі (1570-73) і аршанскі(1588), дзяржаўца суражскі і веліжскі. Ганна Вішнявецкая была ў яго другой жонкаю, пражылі яны разам 14 гадоў. Двор Вашкевічы быў пасагам Ганны Вішнявецкай, таму пасля яе смерці адышоў мужу і заставаўся маёмасцю Сапегаў на працягу ўсяго сямнаццатага стагоддзя.

Што праўда, Вікіпедыя называе мужам Ганны Мікалая Сапегу (1545-1599), ваяводу віцебскага. Зняць сумненні маглі б толькі аўтэнтычныя дакументы тых часоў…

Цэлае стагоддзе знаходжання Вашкевічаў у руках клану Сапегаў - суцэльная невядомасць і чакае свайго даследчыка. Напрыканцы веку клан Сапегаў абняў многія вышэйшыя пасады ў ВКЛ, злоўжываў службовым становішчам, з-за чаго супраць іх узнялася ліцвінская шляхта. Сапегі былі разбітыя ў бітве пад Алькенікамі (1700). Да таго ж падчас Паўночнай вайны Сапегі былі на баку шведаў і караля Станіслава Ляшчынскага, таму з перамогаю Аўгуста Моцнага страцілі пасады і маёнткі, многія ўцяклі за мяжу. Вашкевічы адыйшлі Пацеям.



*Герб "Вага"*

В.В. Сліўкін, спасылаючыся на Конрада Пызеля, а той - на *Polski Slownik Biograficzny* (т. 40. с. 309-314), называе гаспадаром Вашкевічаў Антонія Пацея герба Вага (каля1690 - 1749).

Антоні - сын віцебскага ваяводы Казіміра-Аляксандра Пацея, абозны вялікі (з 1715), стражнік ВКЛ (1729-48), стараста ваўкавыскі, суражскі, радамышскі і жыжмарскі. На элекцыйным сойме 1733 г. галасаваў за Станіслава Ляшчынскага, ваяваў супраць рускіх у 1734-ым. З 1735-га за мяжой, праз год вярнуўся, прызнаў каралём сына Аўгуста Моцнага - Аўгуста Прыгожага з саксонскай дынастыі. Але пакуль Пацей вымушана быў за мяжою, маёнтак Вашкевічы 26 студзеня 1736 года ўзяў у заклад, а 22 кастрычніка 1745 года выкупіў падскарбі літоўскі Ян Міхал Салагуб герба "Праўдзіц" сын Іераніма Салагуба, чашніка ковенскага і Кацярыны Гротус. Чашнік жмудскі (1713 г.), падкаморы гастынскі (1722 г.), лоўчы ВКЛ (1724-1731), падскарбі ВКЛ (1731-1746), ваявода берасцейскі (1746-1748), маршалак Трыбуналу (1730 і 1747), брыгадзір войска літоўскага. Кавалер ордэна Белага Арла (1732 г.). Уладальнік Чарэі, Турава, Івянца, Горак.



*Герб "Праўдзіц"*

Ізноў-такі, заглянем у інтэрнэт. Ян Міхал Салагуб - асоба каларытная, вельмі характэрная для таго часу, вартая асобнага авантурна-прыгодніцкага рамана пяра Дзюма, Вальтара Скота ці Уладзіміра Караткевіча. Зрэшты, як выяўляецца, ён і ўвайшоў ужо ў сучасную беларускую мастацкую літаратуру ў рамане Людмілы Рублеўскай "Авантуры Пранціша Вырвіча, шкаляра і шпега." Што праўда, толькі эпізодам і безназоўна, аднак гэтую гісторыю Л. Рублеўская ў іншай публікацыі раскрыла больш поўна.

Шляхціц Марцін Матушэвіч у модным па тым часе жанры мемуару запісаў, як яго прыяцель Ян Салагуб ажаніўся з Шамоўскай. Падчас гасцявання ў Шамоўскіх - па ўсіх традыцыях таго "сармацкага часу" - пачостка была "з прымусам", ганьба гаспадару, калі госць паедзе цвярозы, а на стале застанецца недапітае. Цэлая традыцыя развітальных чарак: "аглаблёвая", "страмянная", "на ход каню", ды і ці мала яшчэ на што - на гэта досціпу хапала…

Ян Салагуб, ужо седзячы ў сядле, паставіў умову - вып'е "страмянную", калі якая з дачок гаспадара "прап'е чарку", то бок прыгубіць на знак павагі і сімпатыі. Пагадзілася дачка гаспадара Алена.

Існаваў і другі шляхецкі звычай - разбіць посуд, з якога выпіў асабліва паважаны госць альбо чароўная паненка. Відаць, каб ніхто болей не дакрануўся вуснамі да адметнай чары. Вось і Салагуб разбіў чару, прычым адмыслова, з сармацкім барочным зухвальствам - паставіў на галаву свайго каня і выстраліў з пісталета. Конь меў добрыя нервы, а Ян Міхал пасля стрэлу адразу спешыўся, упаў на калені перад чароў-



*Граф Ян Міхал Салагуб*



*Графіня Алена Салагуб з Шамоўскіх*



*Граф Юзаф Антоні Салагуб*

най паненкаю і ейнымі бацькам і папрасіў яе рукі. Магчыма, гаспадар таксама не вельмі цвёрда трымаўся на нагах, магчыма, Алёне спадабаўся ўчынак Салагуба… Сведка Матушэвіч пісаў, што Шамоўскі даў згоду жартам, думаючы, што і госць, прачнуўшыся наступнага дня, не ўспомніць пра сваю прапанову.

Але ў Яна Салагуба выявіўся зусім не п'яны розум і цвярозы разлік. Алена Шамоўская яму падабалася, яе пасаг - таксама, і ён не адступіўся. Шамоўскі, клянучы свой язык і зяця, мусіў стрымаць слова - шляхецкі гонар…

Пражылі разам Ян Міхал і Алена каля 20 гадоў, яна памерла ў 1727, мелі чатырох дзяцей, пра кожнага можна асобны аповед весці. Але нас цікавіць старэйшы сын, Юзаф Антоні (26.07.1709- 04.05.1781), да якога перайшоў двор Вашкевічы пасля смерці бацькі.

Юзаф Антоні ў 1750-ым прыкупіў суседні двор Мінойты.

Пра новага гаспадара Вашкевіч вядома наступнае - вучыўся за мяжой, абіраўся паслом Сойму ад Жамойціі ў 1736, 1738, 1740 гадах, у 1737-ым - дэпутат Трыбуналу ВКЛ. У 1742-ім стаў жмудскім кашталянам, потым (1748-1751) - кашталянам віцебскім. Кавалер ордэна Белага Арла (1750), маршалак Трыбуналу ВКЛ. Ад кастрычніка 1751-га да 1781-га - ваявода віцебскі. У 1764-ым падтрымаў Станіслава Панятоўскага на элекцыі, канфедэрат радамскі з 1767 г., дарадца Пастаяннай Рады з 1776 г. Жыццё Ю.А. Салагуба было бурным, бясконцыя шляхецкія соймы і соймікі, канфедэрацыі і закалоты, то саюзы палітычныя, то свада з Радзівіламі, Чартарыйскімі, Браніцкімі. Па маладосці ў 1734 г. разам з Ляшчынскім адбіваўся ад рускіх у Гданьску. У 1758-ым насуперак Чартарыйскім галасаваў за абранне Карла Саксонца, сына Аўгуста Прыгожага герцагам Курляндскім. Адмовіўся прысягнуць Кацярыне Другой са сваіх віцебскіх уладанняў пасля першага падзелу Рэчы Паспалітай. Але напрыканцы жыцця стаміўся, адыйшоў ад палітыкі. Жонка - Антаніна Тарэса з Агінскіх (1714-1773), дачка Караля Агінскага (1690-1716) і Элеаноры Войны. Дзяцей не мелі, пахаваныя ў Варшаве, у родавай усыпальніцы ў касцёле Св. Крыжа. Свае радавыя землі ў Польшчы (Апораўскі ключ) Юзаф Антоні граф Салагуб пакінуў у спадчыну пляменніку Яну Міхалу Салагубу.

Буйны магнат, які праводзіў жыццё ў сталіцах, Юзаф Антоні Салагуб спрычыніўся аднак і да жыцця маленькіх Вашкевічаў. Менавіта на яго просьбу біскуп віленскі Зянкевіч зацвердзіў 23.10.1755 г. фундацыю дваровай драўлянай капліцы пры будаваным палацы. Будоўля, як лічыцца, адбылася ў прамежку 1763- 1769 гадоў. Уніяцкая царква 1774-га года ў недалёкіх Ганчарах - таксама фундацыя Салагуба, існуе і дзейнічае па сёння (як праваслаўная).

У 1783-м маёнтак перайшоў ва ўладанне старасты дзевянішскага князя Пузыні герба Брама. Якім шляхам - пакуль невядома, ёсць згадка, што адзін з Салагубаў, войскі ўпіцкі, быў жанаты з Пузыняй.

У 1784 г. Пузыням належаць: у парафіі Беліцкай двор Вашкевічы з філіяльным драўляным кас-

цёлам і карчмою, вёска Ганчары з карчмою і драўлянаю ўніяцкаю царквою, фальварак і вёска Ганцавічы, вёскі Дроздава, Масявічы, Агароднікі (1) і вёска Мінойты ў парафіі Лідскай (2) Дарэчы, гэта абвяргае версію К. Пызеля, што Ленскі купіў Вашкевічы ў 1777 годзе.



*Герб "Брама", якім карысталіся Пузыні*

У 1789 г. (па версіі В.В. Сліўкіна) двор Вашкевічы купляе стараста любоніцкі Павел Ленскі, кавалер ордэна Белага Арла, ордэна Святога Станіслава. Рэвізію 1795-га года падпісаў ён (3), а ў дакументах 1811 года "по смерти его" (4) маёмасць засталася ўдаве, другой (?) жонцы Петранэлі, дачцэ Франца Бучынскага.



*Герб Ленскіх "Астоя"*

У 1804 (па іншых звестках - у 1807) замест драўлянай капліцы Салагубаў фундацыяй Петранэлі Ленскай будуюць мураваны філіяльны касцёл ад прыходскага касцёла дамініканаў у Ельні. Прыёр ельнінскі Ян Стырпейка высвяціў касцёл у гонар Святой Ганны. Праект касцёла прыпісваюць камусьці з вучняў віленскага архітэктара В. Гуцэвіча. Рызыкну выказаць версію, што пабудова мураванага касцёла магла стаць помнікам ад Петранэлі Ленскай памерламу мужу.

У 1819-ым годзе на Петранэлю Ленскую накладвалася нейкае спагнанне расейскімі ўладамі, а ў 1825-ым яна прайграла трохгадовую судовую цяжбу з селянінам Янам Дычкам, які паскардзіўся гарадзенскаму губернатару (спачатку Андрайковічу, потым Бабяцінскаму), а потым віленскаму генерал-губернатару Назімаву на неправавыя дзеянні Ленскай і яе эканома Навіцкага (5). Лідскі павятовы суд падтрымаў Ленскую, але ўмяшанне Вільні прывяло да рашэння 2-га Дэпартамента Гарадзенскага суда ад 20 чэрвеня 1825-га года на карысць Яна Дычкі, прызнанага вольным. Загадкаю застаецца тое, што ў рэвізскіх дакументах 1834-га года (віленскі гістарычны архіў, фонд 515, вопіс 15, вёска Супраўшчына маёнтка Вашкевічы) рашэннем таго ж суда за гэтаю датаю выпісаны ў вольныя селянін Іван Цімафееў Падроба з вёскі Супраўшчына, 1782-га года нараджэння з жонкаю Ганнаю і дочкамі Антанінаю ды Кацярынаю, хаця ў ранейшых рэвізіях ён запісаны як Іван Матэвушаў (1816 г.). Іван, брат Матэвуша, сын Сямёна, (1811 г.). Ясь, сын Сямёна (1795 г.). А ўсе Дычкі ў Супраўшчыне (тры гаспадаркі) засталіся па-ранейшаму прыгоннымі.

У 1830-ым Ленская прадае Мінойты, здаецца, Буткевічам.

У 1840-ым Вашкевічы наведаў мастак Вікенці Дмахоўскі (1807-1862), удзельнік паўстання 1830-1831 года, які вярнуўся на Радзіму пасля 7-гадовай эміграцыі. Яму прыпісваюць аўтарства карціны з выявай вашкевіцкага сядзібнага дома (палаца Салагубаў). Копія захоўвалася ў сям'і А.С. Лысёнка. Палац у паўтара паверхі з двухпавярховым высунутым наперад цэнтральным памяшканнем, ламанаю лініяй страхі мансарды, высокімі вокнамі і пяццю дымавымі комінамі печаў. Усходняя - правая - прыбудова большая і высунута наперад, што надае асіметрычнасць. Дрэвы падрэзаныя на ўзор французскага парку. На пярэднім плане садоўнік з двума сабакамі, пасярэдзіне ў групе вылучаецца мажная жанчына, магчыма, гэта гаспадыня, Петранэля Ленская, у



*Палац Ленскіх у Вашкевічах. Мастак Э. Дмахоўскі (?).*

дзвярах палаца яшчэ некалькі постацяў (сям'я ?). На цэнтральным будынку ўверсе, вельмі падобна, шчыт з гербам.

Згодна інвентара 1848-га года (6) Петранэлі Ленскай належала сялянскіх "душ" 524 мужчыны і 516 жанчын, што складалі 148 цяглых і 2 агародніцкія гаспадаркі ў васьмі вёсках: Агароднікі (56 мужчын,70 жанчын), Ганцавічы (64/50), Супраўшчына (38/47), Навасады (25/28), Масявічы (69/71), Дроздава (86/72), Ганчары (84/74), Беня-вічы (78/76) і трох засценках - Старамлыніца (2/3), Буячкі (19/23), Астроўна (3/5). Напісанне назваў паселішчаў у інвентары не супадае з сучасным - там яно гучыць *"Ганцевиче, Супровщизна, Мосевиче, Старомлынище, Мосиовшичизна"*, асобныя паселішчы сёння адсутнічаюць і з цяжкасцю лакалізуюцца. Напрыклад засценак *Старамлынішча*, што разам з Ганчарамі і Дроздавам складаў фальварак *"Заіончице"*, знаходзіўся прыблізна на тэрыторыі сёняшніх дач "Дзітва" на аднайменнай рэчцы. Засценкі *Астроўна*, *Буячкі* былі на левым беразе Нёмана. Фальварак *Масёўшчына* - дзесьці між вёсак *Супраўшчына* і *Жучкі*.



Dom w maj. Waszkiewiczach nad Niemnem własność rodziny Lęskich zbudowany w XVIII wieku i spalony w końcu XIX

Waszkiewicze przeszły do rodziny Lęskich w dziedzictwie od rodziny hrabiów Sołłohubów, którzy wznieśli kościół odrestaurowany i odbudowany przez Lęskich w XVIII wieku po pożarze.

Od roku 1932 roku folwark Wasz-kiewicze gdzie był pałac należy do p. Adolfa Czyleko, który nabył od rodziny Lęskich i hrabiów Ledóchowskich

***Надпіс на адвароце копіі карціны, зроблены пасля 1932-га года.***

Агульная плошча маёнтка складала каля сямі з паловаю тысяч дзесяцін зямлі, у тым ліку каля 3100 - ворнай зямлі, каля 850 - сенакосу і каля 3000 - лесу. За выключэннем рэк і азёраў (Нёман, Дзітва, Ізва, Лідзейка, Рымніцкае, Крамяны, Ксяндзовае, Густое, Лычова), што займалі разам 168, 38 дзесяцін маёнтка, і лясоў, якія належалі толькі Ленскай, землі маёнтка размяркоўваліся наступным чынам. Сяляне мелі: зямлі прысядзібнай - 100,04 дзесяціны, ворнай - 2191,20 дзесяціны, сенакосу - 515,42 дзесяціны, пашы - 200 дзесяцін, коней - 94, валоў - 306, кароў - 376, козаў, авечак - 776, і 106 калодаў пчол. Сярэдні сялянскі надзел складаў каля 19 дзесяцін зямлі. Пяць фальваркаў эканоміі мелі зямлі прысядзібнай 13,28 дзесяціны, ворнай - 836,12 дзесяціны, сенакосу -291,15 дзесяціны, пашы - 63,23 дзесяціны. Паколькі адведзенай пашы відавочна не хапала, дазвалялася пасвіць жывёлу на траціне палёў, што ляжалі пералогам кожны год, і па сенакосах пасля касьбы. Каля 190 дзесяцін ворнай зямлі па стану на 1848 г. былі "пустошчызнай" (трэба разумець, сялянскія сем'і, якія іх абраблялі раней, вымерлі) і здаваліся ў арэнду староннім (вольным?) асобам за чынш.




***Паромная пераправа цераз Нёман. На беразе - высокія дрэвы пры палацы ў Вашкевічах***

У маёнтку былі вадзяны млын, 2 бровары, што выраблялі да 3000 вёдзер "віна", якое рэалізоўвалася ў тым ліку і праз" 8 карчомак і дамоў піцейных" (па Ленскай, усе сядзельцы ў корчмах - хрысціяне, у што цяжка верыцца…). Корчмы належалі маёнтку і знаходзіліся пры дарогах: паштовай з Ліды на Навагрудак і "камерцыйнай" з Ліды да мястэчка Беліца, а таксама пры прасёлках. Гэта прыносіла да 1000 рублёў даходу Ленскай. Для параўнання: гадавы даход ад млына складаў 200 рублёў, чынш з сялян і вольных 366 рублёў, даход ад продажу зерня, бульбы і г.д. - 1540 рублёў. Дзень вольнай працы ў маёнтку прыносіў селяніну 7,5 капейкі срэбрам аднаму, з упражкаю валоў - 15 капеек, чвэрць бульбы каштавала 50 кап., аўсу - 1 рубель, ячменю - 2 рублі, жыта - 2 рублі, 25 капеек.

Петранэля Ленская памерла ў 1857 годзе, мяркуецца, да 1864-га года маёнтак перайшоў яе дачцэ Вераніцы Аборскай. Заўважу аднак, што ў архіўных матэрыялах Вільні (7) давялося сустрэць запіс аб тым, што рэвізскую сказку 1850-га года за сваю састарэлую маці па яе даверанасці падаваў Аляксандр Паўлавіч Ленскі, "Виленский уездный предводитель дворянства".

У 1860-ым у Вашкевічы пераведзена паштовая станцыя з Лупеніц.

Пасля смерці Веранікі Аборскай з Ленскіх у гісторыі Вашкевіч цмяны правал. Як лічыць В.В. Слівукін, маёнтак перайшоў сыну Паўла Ленскага ад першага шлюбу, Антону Ленскаму (1797- 1873), а потым частка - яго сыну Зянону (1864-1927), якога ён лічыць заснавальнікам першага ў Лідскім павеце шклянога завода. Працытую частку артыкула:

*"Зенон Антонович Ленский (1864 -1927) - легендарный для Лидского уезда помещик. По его инициативе и на его средства был построен первый в Лидском уезде стекольный завод, ставший со временем крупнейшим в Виленской губернии.*

*Закончил Виленскую гимназию и Горный институт в Санкт-Петербурге. Будучи еще студентом, 19 сентября 1883 г. Зенон Ленский обратился в Лидское уездное полицейское управление с письмом: "Проситель желает устроить в лесной даче имения моего Заенчицы стеклянный завод или "Гуту" для выделки стекла и стеклянных посуд, для чего желаю получить разрешение надлежащей власти. А потому имея в виду, что законных препятствий к устройству того стеклянного завода или фабрики встретится не может, осмеливаюсь покорно просить Лидское уездное полицейское управление разрешить мне устройство и открытие стеклянной фабрики или "Гуту" в лесной даче имения моего Заенчицы, в чем и выдать мне надлежащее удостоверение".*

*9 октября 1883 года пристав первого стана Лидского уезда после обследования предполагаемого места строительства стеклозавода отписал, "что к открытию в означенном лесном урочище стекляного завода ... никаких препятствий не имеется". Виленское губернское правление разрешило постройку "стеклянного завода". В 1885 г. на заводе Зенона Антоновича Ленского работали 28 человек: 16 мужчин, 6 женщин и 6 подростков. Было произведено 200 ящиков оконного стекла и 50000 пивных бутылок на сумму в 2000 руб.*

*В 1891 г. З.А. Ленский сдал стеклозавод в аренду инженеру Дядьковского стеклозавода Вильгельму Краевскому и руководителю художественной мастерской завода Юлиусу Августиновичу Столле, восемь лет спустя продал завод арендаторам. Он определился, что для него важнее, стекольное производство или живопись. Стекольный завод мешал заниматься живописью, поэтому так легко он от него избавился. Некоторое время учился в Академии Художеств, закончил Петербургскую школу Юзефа Брандта и художественную школу в Мюнхене. В начале XX века выставлял свои живописные работы в Петербурге, Кракове, Варшаве, Минске. Усадебный дом родителей в Суле украсил фресками. В Национальном художественном музее Беларуси хранится одна его работа - портрет младшей сестры Эльжбеты ( Василевской, 1903 г.) "*

Аднак пагадзіцца з версіяй паважанага Валерыя Васільевіча катэгарычна не магу. З дапамогаю Інтэрнэту, які ўсё ведае, даволі лёгка пераканацца, што Зянон Ленскі - мастак ніякага дачынення не меў да Вашкевічаў, Заёнчыцаў, Устроні і будучага шклозавода "Нёман". Нарадзіўся ён у вялікай сям'і (шэсць сыноў і дачка Эльжбета) Аляксандра і Сабіны Ленскіх у маёнтку Сула Менскай губерні, і Антону Паўлавічу Ленскаму даводзіўся ўнукам. Сапраўды вучыўся ў Віленскай гімназіі і Горным інстытуце С. Пецярбурга. Але не давучыўся, перайшоў у Акадэмію мастацтваў *(Асабістая справа Зянона Аляксандравіча Ленскага, за 1885 год, № 92 у вопісе 11, фонд 789, Расійскі дзяржаўны гістарычны архіў у Санкт-Пецярбургу).* Сапраўды, выбітны мастак-партрэтыст, шмат вучыўся і працаваў за мяжою, прысылаў дадому, у Сулу мастацкія каштоўнасці, уласнаручныя партрэты. Распісваў будынкі ў Суле фрэскамі. Выдатны аповед пра мастака Зянона Ленскага, жыццё і творчасць надрукаваны ў часопісе "Наша вера" № 3 за 1999 год аўтарства Надзеі Усавай з Нацыянальнага Мастацкага музея ў Менску. Нямала на гэтую тэму пісала і карэспандэнт "СБ" Людміла Сяліцкая ў 2003-2013 гг. У "павуціне" Сеціва ёсць таксама караценькая звестка, што на выставе мясцовай старасветчыны, арганізаванай Іванам Луцкевічам з дапамогаю нямецкіх гісторыкаў у Менску ў 1918-ым годзе, сярод пяці літых слуцкіх паясоў быў адзін, прысланы з Варшавы мастаком Зянонам Аляксандравічам Ленскім. Памёр З.А. Ленскі ў 1927 г. у Варшаве, але пахаваны быў, верагодна, усё ж у радавой усыпальні Ленскіх у Суле. На жаль, пахавальны храм-ратонда разрабаваны сучаснымі вандаламі, параскіданыя парэшткі гаспадароў маёнтка мясцовыя жыхары перазахавалі пазней на мясцовых могілках.

Ну а што ж Зянон Антонавіч Ленскі? Ёсць упамінанне Зянона і Канстанціна Ленскіх на сайце rosgenea.ru - *"дворянин Минского уезда Минской губернии, участник польского восстания 1863 г., в 1864-ом как политический преступник по суду лишён прав состояния, имущество конфисковано, на посе-*

ление в менее отдалённые места Сибири"), аднолькавыя запісы пра абодвух. Заўважым, што сваіх сыноў, народжаных у 60-ых гадах 19-га стагоддзя, Аляксандр Антонавіч Ленскі (1836 г. нар.), адзін з буйнейшых землеўладальнікаў Менскай губерні, назваў таксама Зянонам і Канстанцінам. Вядомы партрэт Канстанціна Ленскага(1841 г. нар), дзядзькі мастака, работы Людаміра Яноўскага (1888 г., Менскі Нацыянальны мастацкі музей). Магчыма таксама, што на адным з партрэтаў работы самога З.А. Ленскага 1897 г. выяўлены другі яго родны дзядзька-паўстанец, З.А. Ленскі. Пакуль не падцверджана дакументальна, але больш чым верагодна, што Зянон Антонавіч Ленскі, гаспадар фальварка Заёнчыцы, які падае прашэнне 19-га верасня 1883-га года пра заснаванне гуты, і ёсць паўстанец 1863 г. Зянон Ленскі, малодшы брат Аляксандра, амніставаны ў 70-ыя гады. У такім разе ў 1899 г., калі ён прадае гуту Краеўскаму і Столе, яму каля 60 гадоў - сілы пасля ссылкі (а магчыма, і раненняў?) ужо не тыя. Канешне, у гэтай версіі застаюцца многія пытанні. Напрыклад, чаму амніставаны паўстанец вярнуўся не на Меншчыну, дзе яго бацьку Антону Ленскаму належалі вялікія зямельныя ўладанні і дзе жыве вялікая (і багатая) радня. Якім чынам яму мог перайсці кавалак маёнтка Вашкевічы - адзін з пяці фальваркаў, калі ён толькі ўнук Паўла Ленскага, але не Петранэлі Ленскай? Дарэчы, у прашэнні 1883-га года на заснаванне гуты пазначана, што маёнтак Вашкевічы належыць Ледухоўскаму. Калі, якім чынам, пры якіх абставінах перайшоў - пакуль невядома…




***Фрагмент нямецкай карты часоў Першай сусветнай вайны***

У 1904 годзе ў маёнтку Вашкевічы пражывала 36 жыхароў (16 мужчын, 20 жанчын), маёнтку належала 800 дзесяцін, тут жа быў фальварак Вашкевічы - 10 жыхароў, (6/4), 347 дзесяцін і вартоўня Вашкевічы. Усё гэта належыць графу Ігнацыю, сыну Іосіфа, Ледухоўскаму.



***Герб Ледухоўскіх "Шалава"***

Яму ж належала Альхоўка, 14 жыхароў (6/8), 90 дзесяцін. 13.10.1907 г. "Виленские губернские ведомости", № 81- *Ігнацы Ледухоўскі выстаўляе маёнтак Вашкевічы, 995 дзесяцін, на продаж, цалкам ці па частках.* Але поруч з Вашкевічамі ў той жа час выстаўляецца на продаж маёнтак Масявічы - Буячкі Лідскага павета памерам 957 дзесяцін, уладальнік - Анж'ян Якаў Андрэевіч. (Таксама ў спісе - княгіня Трубяцкая, маёнтак Беліца, 10500 дзесяцін; Шукевіч Ганна, маёнтак Нача, 407 дзесяцін і яшчэ з дзесятак землеўладальнікаў Лідскага павета, але гэта тэма асобнага даследвання, значна шырэйшага за гісторыю маёнтка Вашкевічы.) Хто такі Якаў Анж'ян, як да яго трапіў фальварак Масявічы, які відавочна з'яўляецца часткаю былых Вашкевічаў часоў Ленскіх і Салагубаў?

1 снежня 1931 г. спадчыннікі графа Ледухоўскага прадалі маёнтак на аўкцыёне праз Віленскі банк па частках. Каля 100 га выкупіў Адольф Чылек.



***Капліца Св. Яўхіма і Ганны. Здымак 1939 г.***

Касцёл пры сядзібе ў Вашкевічах доўгі час быў філіяй дамініканскага касцёла ў Ельні, пасля 1924 г. стаў бярозаўскай капліцаю. Пры касцёле паступова сфармаваліся могілкі. Па логіцы, першым тут павінен быў легчы Павел Ленскі, але яго магіла невядомая. Затое магіла Петранэлі Ленскай і яе дачкі Веранікі Аборскай, якія памерлі паўстагоддзем пазней, апісаныя ў літаратуры. Потым да іх далучаліся мясцовыя жыхары каталіцкага веравызнання з бліжэйшых вёсак (Буякі, Германовічы, Забелы, Чылекі, Міцюкевічы). Вылучаецца на могілках чорнага мармуру помнік на агульнай магіле Краеўскіх: у 1905 г. патануў у Нёмане Вільгельм Краеўскі (09.04.1860), суўладальнік шклозавода "Нёман", за ім адышла яго жонка Казіміра з




***Магіла Краеўскіх***





***Руіны касцёла ў 90-ыя гады 20 ст.***

Дамакоўскіх (03.1864-1.11.1921), потым - іх сын Уладзімір (18.11.1888 - 24.10.1931).

Палац Салагубаў сёння не існуе, знішчаны пажарам. Калі і пры якіх абставінах - дакладна невядома. Асноўная версія - ад выпадковай цыгарэты аднаго з Ледухоўскіх, які вызначаўся разгульным норавам: карты, даўгі, папойкі… Другая версія - падпал мясцовымі жыхарамі ў верасні 1939 г.

Капліца ў пасляваенны савецкі час былаператворана ў магазін і нешта каля 1974-га ці 1975 года моцна пацярпела ад пажару. Рэшткі будынка паступова прыходзілі ў заняпад, і сталі аб'ектам цікаўнасці мясцовых вісусаў піянерскага ўзросту, якія натхнёна капаліся на тэрыторыі, шукаючы скарбы.

Конрад Пызель піша, што касцёл быў рэстаўраваны намаганнямі бярозаўскага ксендза Андрэя Стапыры.

Але, не адмаўляючы чынны ўдзел кс. А. Стапыры, трэба сказаць пра Андрэя Сямёнавіча Лысёнка, які выконваючы запавет сваёй маці, у дзявоцтве - Чылек, фінансава падтрымаў праект рэстаўрацыі.

Касцёл сёння дзейнічае як філіял бярозаўскага. Прыкасцельныя могілкі выцягнуліся на поўнач, у бок былога палаца, ад якога засталіся асобныя валуны ды яшчэ легенды пра падземныя хады, схаваныя скарбы, дзівацтвы і непахвальнае жыццё апошняга яго гаспадара графа Ледухоўскага.



***Касцёл у Вашкевічах. Сучасны выгляд***

**Спіс выкарыстаных крыніц:**

1. "Лідскі летапісец", № 2 (58), 2012 г, стар. 26.
2. "Лідскі летапісец", № 1(61), 2013 г, стар.30.
3. Літоўскі Дзяржаўны гістарычны архіў у Вільні (ЛДГА), ф. 515, воп.15, спр.155.
4. ЛДГА, ф. 515, воп. 15, спр. 239, стар. 306.
5. Нацыянальны гістарычны архіў Беларусі, Гародня, ф. 1, воп. 2, спр. 473.
6. ЛДГА, ф. 394, воп. 4, спр. 319.
7. ЛДГА, ф, 515, воп. 15, спр. 960.

***Станіслаў Суднік***

# Адміністрацыйная прыналежнасць тэрыторый на мяжы Лідскага, Наваградскага і Слонімскага паветаў (Лідскага, Наваградскага і Дзятлаўскага раёнаў) або *Чаму Бярозаўка адносіцца да Лідскага раёна?*

На этапах станаўлення краёў, тэрыторый, краін, дзяржаў і г.д. межы паміж імі праходзілі па натуральных прыродных рубяжах, якімі бывалі моры, горы, рэкі, балоты, лясы. Такая вялікая рака як Нёман не магла не стаць такім рубяжом. Мы памятаем пра пераход Напалеона цераз Нёман, г.зн. цераз дзяржаўную мяжу паміж Прусіяй і Расейскай Імперыяй.

У пачатку Вялікага Княства Літоўскага Нёман стаў мяжой паміж новаўтвораным ВКЛ і Дайнавой (яцвяжскімі землямі). Дайнава ўвайшла ў ВКЛ пры Трайдзені. Нёман стаў унутранай ракой ВКЛ, але застаўся мяжой паміж раннімі землямі ВКЛ і крыху больш позьнімі, а пры ўзнікненні такіх адміністрацыйных адзінак як паветы стаў мяжой паміж левабярэжнымі паветамі: Наваградскім і Слонімскім ды правабярэжным Лідскім (мяжа паміж Наваградскім і Слонімскім паветамі ў значнай частцы праходзіла па Моўчадзі). Мяжа па Нёмане была грунтоўнай і доўгі час непарушнай. Парушылася яна, калі Радзівілы атрымалі Беліцу, і калі быў утвораны Беліцкі павет, які ляжаў па абодва бакі Нёмана. Але існаваў ён не доўга, і пасля яго ліквідацыі статус-кво Нёмана як памежнай ракі быў вернуты. На картах ВКЛ мяжа па Нёмане існуе да самага 3-га падзелу Рэчы Паспалітай.




***Мяжа паміж Лідскім і Наваградскім паветамі ў канцы 16-га стагоддзя праходзіць строга па Нёману***

На карце Расійскай Імперыі адміністрацыйныя межы паміж Наваградскім і Лідскім паветамі або ўездамі выглядаюць ужо цалкам інакш. Тры лідскія воласці Дакудаўская, Ганчарская і Беліцкая далёка перайшлі за Нёман, і па іх межах утварылася не толькі новая мяжа паміж уездамі, але і паміж губернямі. Нёман стаў унутранай ракой Лідскага ўезда.

Паспрабуем разабрацца, чаму гэта адбылося.

Агулам гэта гучыць, як большая цывілізаванасць правага берага. Хай гэта нікога не крыўдзіць. Але склалася так, што шляхта з правага берага пачала набываць землі за Нёманам, на левым беразе, ствараючы ўнікальную лідскую з'яву - устроні. "Устронь" - слова польскае і абазначае "куток, закутак, зацішнае месца". Польскасць слова ўскосна сведчыць пра тое, што з'ява гэтая ўзнікла ў часы позняй 1-й Рэчы Паспалітай, калі ўжо моцнай была паланізацыя, або ў пачатку панавання Расейскай імперыі, калі пратэстная паланізацыя шляхты была яшчэ мацнейшая. Цяпер бы гэтыя закуткі назвалі хутарамі, але на той момант слова "хутар" яшчэ ў нас не ўжывалася. Слова "хутар" нямецкае, ад слова *Gut*, якое цалкам адпавядае старабеларускаму слову *"добры"* ў значэнні *ўладанні*. Пакуль хутар да нас не дабраўся, з'явіліся ўстроні. Слова "ўстронь" у нас выступае і простым назоўнікам і ўласным, пішацца, дзе з малой, дзе з вялікай літары.

У пачатку 20-га стагоддзя ў Ганчарскай воласці было вядома 20 устроняў: 2 фальваркі Ленскага і 18 засценкаў - Куцкеля, Беняша, Кушняка, Мурына, Дзевятовіча, Дудзіча (2), Канановіча, Рымкевіча, Даха-

вецкага, Шута, Урбановіча (3), Буяка (2), Уласава, Піятроўскага. У засценках жыло ад 4 да 18 чалавек і абдымалі яны ад 3 да 20 дзесяцін. У фальварках Ленскага жыло 44 чалавекі на 503 дзесяцінах. Ва ўсіх гэтых выпадках слова *"ўстронь"* пісалі з вялікай літары: *"Устронь"*. Некаторыя з Устроняў мелі другія назвы: Лапа, Паскі, Боркі, Чорны Лес. Як бачым, усе ўстроні мелі статус фальварка або засценка. Гэта не былі сялянскія вёскі, гэта былі большыя ці меншыя ўладанні шляхты. І нават у Расейскай Імперыі ўся гэтая шляхта была каталіцкая.

Адсюль мы пераходзім да другога фактару большай цывілізаванасці правага берага. Увесь правы бераг уздоўж Нёмана застаўлены касцёламі і цэрквамі, чаго нельга было сказаць пра левы. Таму насельніцтва левага берага адносілася да правабярэжных парафій.




***Мяжа паміж Лідскім і Навагradскім паветамі ў сярэдзіне 19-га стагоддзя зайшла далёка за Нёман***

Вось як выглядала Беліцкая каталіцкая парафія ў 1784 годзе яшчэ ў часы Рэчы Паспалітай:

Парафіяльны касцёл знаходзіцца ў мястэчку Беліца, у Лідскім павеце і дэканаце. Вёскі і мястэчкі, прыналежныя да парафіі, выкладзены ніжэй па алфавіту.

**Абрамаўшчына** (Abramowszczyna), фальварак яснавяльможнага пана Тамашэўскага, у кірунку на летні ўсход, палова малой мілі.

**Агароднікі** (Ogrodniki), вёска васпана Пузыны, у кірунку на летні ўсход, паўтары мерныя мілі.

**Альшэўцы** (Olszewcy), вёска, карчма і млын ксяндзоў дамініканаў, у кірунку на летні ўсход, палова малой мілі.

**Астравухі** (Ojhowy), шляхецкая ваколіца, у кірунку на поўнач адна мерная міля.

**Баравічы** (Barwicze), вёска Найяснейшага князя ваяводы Віленскага ў дзяржанні Найяснейшай княжны экс-падкаморавай, у кірунку паміж поўначчу і летнім усходам, адна мерная міля.

**Беліца** (Bielica), двор тых жа, над ракой Нёманам, у кірунку на поўдзень, 600 альбо больш крокаў ад касцёла парафіяльнага.

**Бандары** (Bondnarze), вёска за Нёманам, таго ж князя, у дзяржанні ў васпана Статкевіча, генерал - маёра войск ВКЛ, у кірунку паміж летнім і зімовым усходам, палова вялікай мілі.

**Вашкевічы** (Waszkiewicze), двор, касцёл філіяльны і карчма над Нёманам васпана Пузыны, у кірунку на летні ўсход паўтары мерныя мілі.

**Ганцавічы** (Hancewicze), фальварак і вёска над Нёманам васпана Пузыны, у кірунку на летні ўсход, адна вялікая міля.

**Ганчары** (Hanczary), вёска і карчма васпана Пузыны, у кірунку на летні ўсход,

паўтары вялікія мілі.

**Гезгалы** (Giezgaly), вёска за Нёманам, таго ж князя, у дзяржанні ў васпана Мараўскага, у кірунку паміж зімовым усходам і поўднем, адна мерная міля.

**Дзітрыкі** (Dzitryki), вёска Найяснейшага князя ваяводы Віленскага, у дзяржанні ў васпана Статкевіча, у кірунку паміж поўначчу і летнім усходам, адна мерная міля.

**Дзякавічы** (Dziakowicze), засценак Найяснейшага князя ваяводы Віленскага, у дзяржанні ў васпана Статкевіча, у кірунку на поўнач, паўтары малыя мілі.

**Дроздава** (Drozdowo), вёска васпана Пузыны, старасты Дзевянішскага, у кірунку на поўнач, адна вялікая міля.

**Ельня** (Jelna), кляштар, касцёл і фальварак ксяндзоў дамініканаў, у кірунку на летні ўсход, чвэрць вялікай мілі.

**Ельня** (Jelna), двор васпана Бароўскага, у кірунку на летні ўсход, палова малой мілі.

**Жомайдзі** (Zomojdz), вёска Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні васпана Статкевіча, у кірунку на летні ўсход, адна вялікая міля.

**Жучкі** (Zuczki), засценак Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні Найяснейшай княжны экспадкаморавай, у кірунку на поўнач адна малая міля.

**Зарачаны** (Zarzeczany), вёска васпана Статкевіча, васпана Бароўскага і васпана Тамашэўскага, там жа, недалёка дзве карчмы, у кірунку на летні ўсход палова мернай мілі.

**Зачэпічы** (Zaczepicze), за Нёманам, вёска і карчма Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні васпана Мараўскага, у кірунку паміж зімовымі поўднем і захадам, адна вялікая міля.

**Збляны** (Zblany), двор Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні Найяснейшага князя Радзівіла, палкоўніка, у кірунку на зімовы захад, адна вялікая міля.

**Збляны** (Zblany), вёска і царква Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні васпана Мараўскага, у кірунку паміж зімовым поўднем і захадам, адна мерная міля.

**Істакі** (Istoki), двор васпана Статкевіча, у кірунку на летні ўсход, палова вялікай мілі.

**Канюшаны Малыя** (Koniuszany Maly), фальварак і вёска Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні васпана Мараўскага, у кірунку паміж летнім захадам і поўначчу, паўтары мерныя мілі.

**Канюшаны Вялікія** (Koniuszany Wielkie), вёска васпана Статкевіча, у кірунку паміж поўначчу і летнім усходам, паўтары малыя мілі.

**Каршакі** (Korszaki), засценак за Нёманам Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні васпана Мараўскага, у кірунку паміж поўднем і зімовым захадам, палова вялікай мілі.

**Крывічы** (Krzywicze), двор, царква і вёска, за некалькі крокаў ад двара васпана Будкевіча, у кірунку паміж зімовым і летнім захадам, чвэрць мернай мілі.

**Красная** (Krasna), вёска Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні васпана Мараўскага, у кірунку на зімовы захад, палова малой мілі.

**Лазяны** (Loziany), фальварак і вёска за некалькі крокаў ад двара таго ж Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні васпана Мараўскага, частка вёскі Лазяны належыць да беліцкіх кальвіністаў, у кірунку на зімовы захад, адна малая міля.

**Лайкоўшчына** (Lojkowszczyna), засценак Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні васпана Мараўскага, у кірунку на зімовы захад, адна вялікая міля.

**Масявічы** (Mosiewicze), вёска васпана Пузыны, у кірунку паміж поўначчу і летнім усходам, палова мернай мілі.

**Нясілаўцы** (Niesilowce), вёска за Нёманам, вёска, карчма і млын таго ж маёнтка Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні васпана Мараўскага, у кірунку паміж зімовым усходам і поўднем, чвэрць мернай мілі.

**Парэчча** (Porzecze), вёска Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні Найяснейшага князя Радзівіла, палкоўніка, у кірунку на зімовы захад, адна мерная міля.

**Руда** (Ruda), вёска, карчма і млын за Нёманам Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні васпана Статкевіча, у кірунку паміж летнім і зімовым усходам, адна вялікая міля.

**Саламянка** (Slominka), карчма і засценак васпана Статкевіча, у кірунку на поўнач, адна мерная міля.

**Сіманы** (Szymany), вёска, частка - ксяндзоў дамініканаў, частка - васпана Статкевіча і васпана Бароўскага, у кірунку на летні ўсход, палова малой мілі.

**Стокі** (Stoki), двор, каля яго карчма Найяснейшага князя ваяводы, у дзяржанні Найяснейшай княжны экс-падкаморавай, у кірунку на поўнач, чвэрць малой мілі.

**Сялец** (Sielec), фальварак на Нёмане Найяснейшага князя ваяводы ў дзяржанні васпана Статкевіча, у кірунку паміж летнім і зімовым усходам, адна малая міля.

**Сялец** (Sielec), вёска і карчма каля фальварка, таго ж ягамосці, там жа.

**Чаплеўшчына** (Czaplowszczyzna), фальварак васпана Соўкі, ротмістра Лідскага і вёска таго ж ягамосці, у кірунку паміж летнім захадам і поўначчу, палова мернай мілі.

З Лідскай парафіі нас цікавіць у асноўным **Дакудава**, дзе быў філіяльны касцёл і ўніяцкая царква.

З занёманскімі землямі Беліцкай і Ганчарскай валасцей як бы ясна. Яны адносіліся да Беліцкай каталіцкай парафіі. Але нідзе ніякіх Устроняў мы не ўбачылі. Чаму? Магчыма пакупка гэтых зямель ішла ўжо пасля 1784 года, або адносілі іх яшчэ некуды. Святло пралье вывучэнне метрычных кніг перш за ўсё Дакудаўскай і Ганчарскай цэркваў. Вось адзін з кірункаў краязнаўчай дзейнасці бярозаўскіх краязнаўцаў, ну і канешне бліжніх касцёлаў. Нажаль не ўсё проста з тымі кнігамі.

надрукавала аб'яву: *"11 студзеня 1969 г. раптоўна памёр наш самы любы бацька, брат, цесць, дзед і прадзед, Святой Памяці Міхал Шымялевіч. Нарадзіўся 18.X.1879 г. у горадзе Ліда, былы міравы суддзя[85]. Пахаванне адбудзецца 14.01 у 15-00 на камунальных могілках у Сопаце. Св. імша будзе адпраўлена 16.01 у 8-30 у касцёле Зорка Мора ў Сопаце. Смуткуем, дочкі і сям'я"* [86].

Улетку 2014 г. мой сябар Дзмітры Гамбург з сям'ёй адпачываў у Сопаце. Інтэлігентны, неабыякавы да гісторыі і культуры чалавек патраціў свой вольны час, каб знайсці магілу Міхала Шымяле-

Dnia 11 stycznia 1969 r. zmarł nagle nasz najukochańszy ojciec, brat, teść, dziadek i pradziadek
ś. † p.
**MICHAŁ SZYMIELEWICZ**
ur. 18. X. 1879 r. w mieście Lidzie
były sędzia pokoju
Pogrzeb odbędzie się dnia 14. I. br. o godz. 15.00 na cmentarzu Komunalnym w Sopocie.
Msza św. zostanie odprawiona 16. I. br. o godz. 8.30 w kościele „Gwiazda Morza" w Sopocie.
Pogrążone w smutku
15475-G córki z rodziną

***Аб'ява аб смерці ў газеце Dziennik Baltycki № 11 (7621) - 1969***

Sopot, dnia 9 stycznia roku 1969

| Nr aktu | ZMARŁEGO: Imię i nazwisko | Dzień, miesiąc i rok urodzenia albo wiek, zawód | Miejsce zamieszkania | Wyznanie | Dzień, miesiąc, rok i godzina zgonu | Miejsce zgonu |
|---|---|---|---|---|---|---|
| 7 | Michał Szymielewicz | 18.X.1879 rencista wdowiec | Sopot, ul. Chopina 5 m 1 | rzym. kat. | 11.01.1969 godz. 10.30 | Sopot ul. Chopina 5 m 1 |

Sopot, dnia 13 stycznia roku 1969

Proboszcz: X.G. Brzozowski

| Imiona i nazwiska, zawód rodziców zmarłego | Imię i nazwisko pozostałego współmałżonka | Kto i jakich udzielił Sakramentów przed zgonem | Przyczyna śmierci | Dzień, miesiąc i rok pogrzebu | Miejsce pogrzebu grobu | Uwagi |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Jan Anna | | Nie zaopatrzony. Ostatnia spow. i Kom. św. Grudzień 1968 | [illegible] | 14.01.1969 godz. 15.00 | Sopot | Karta zgonu [illegible] Sopot Nr 11/69 |

Proboszcz: X.G. Brzozowski

***Запіс у касцёле аб адпяванні Міхала Шымялевіча***

[85] Міравы суддзя - у Другой Рэчы Паспалітай суддзя самага нізкага ўзроўню. Пасада ўведзена ў 1920-я гг. Спачатку ў разборы спраў акрамя міравога суддзі ўдзельнічалі два прысяжныя. З 1927 г. суддзя разбіраў справы аднаасобна. Суддзю выбіралі жыхары судовай акругі на пяцігадовы тэрмін. Кандыдат павінен мець узрост не меней за 30 гадоў, мець хоць бы сярэднюю адукацыю, карыстацца ўсімі грамадзянскімі правамі і мець добрую рэпутацыю.

[86] Dziennik Baltycki. 1969. № 11 (7621).



***Дом, у якім у Сопаце жыў гісторык (здымак Д. Гамбурга)***

віча. Як высветлілася, акрамя камунальных могілак, гісторык мог быць пахаваны на каталіцкіх могілках касцёла Зорка Мора, бо пры канцы 1960-х гг. гэтыя каталіцкія могілкі таксама выконвалі ролю камунальных. Аднак на абодвух могілках пахавання гісторыка няма. Як патлумачыла адміністрацыя, гэта азначае толькі адно - магіла Шымялевіча ўтылізаваная, бо ніхто не ўносіў грошы за яе існаванне. Дзмітры сфатаграфаваў запіс у касцёле пра адпяванне лідзяніна. З запісу бачна, што ён жыў у доме № 5 па вуліцы Шапэна. Мой сябар таксама сфатаграфаваў дом, дзе Шымялевіч жыў апошнія дзесяцігоддзі свайго жыцця. Дарэчы, выветлілася, што жыў ён у Сопаце ў камунальнай кватэры.



***Унук Міхала Шымялевіча, Земавіт Багаткоўскі***

Два пакаленні сям'і Багаткоўскіх пахаваны ва Уроцлаве. Унук гісторыка Земавіт Багаткоўскі быў вядомым у Польшчы радыёаматарам-кароткахвалевіком, аўтарам кніг па радыёсправе.

Трэба яшчэ дадаць, што ў 1992 г. Шымялевіч быў рэабілітаваны, вось тэкст кароткай даведкі пра яго рэабілітацыю:

*"Шымялевіч Міхаіл Іванавіч. Нарадзіўся ў 1879 г., Польшча, Наваградскае ваяводства, Ліда, паляк, адукацыя сярэдняя;*

*Пражываў: Паўночна-Казахстанская вобл., Бішкульскі р-н, в. Фурманаўка;*

*Арыштаваны 20 сакавіка 1943 г. Палудзінскім РА НКУС.*

*Асуджаны: СК аблсуда 15 чэрвеня 1943 г., абвінавачванне: 58-2 УК РСФСР.*

*Прысуд: 10 гадоў ППЛ.*

*Рэабілітаваны 23 чэрвеня 1992 г. Генпракуратурай РК. Указ Прэзідэнта СССР ад 13.08.1990.*

*Крыніца: Звесткі ДКНБ РК па Паўночна-Казахстанскай вобл"* [87].

Звестку пра сярэднюю адукацыю гісторык мог

[87] http://lists.memo.ru/d37/f41.htm.

падаць пра сябе адмыслова - вышэйшая адукацыя змяншала шанец на выжыванне.

**Міхал Шымялевіч - сапраўдны культурны герой Лідчыны. Ягоным імем трэба было б назваць адну з вуліц нашага горада, а магчыма, і адну з устаноў культуры і асветы, напрыклад музей ці гарадскую бібліятэку, гімназію ці ліцэй.**

## ДАДАТКІ ДА БІЯГРАФІІ МІХАЛА ШЫМЯЛЕВІЧА

### Успаміны Яна Сегеня пра блізкага сябра свайго бацькі Міхала Шымялевіча[88]

Памятаю, як у кнізе майго роду, якую захоўваў мой с. п. бацька (гэтая кніга згарэла разам з нашым домам, а дакладней, разам з усім раёнам горада падчас пажару ў часе ваенных дзеянняў у 1941 г.), на першай старонцы быў намаляваны герб "Сыракомля" [89] - на гербавай тарчы "дзве перавернутыя кроквы" і "зламаная страла", а над тарчай - шлем з "трыма страўсавымі пёрамі". Над гербам быў надпіс "Герб сям'і Сэгэнь".

У кнізе змяшчаліся генеалагічныя табліцы, а таксама копіі і арыгіналы[90] метрык хростаў, шлюбаў і смерцяў і іншыя сямейныя дакументы. Дакументы былі вельмі старыя, арыгіналы былі ўсе паклееныя. Некаторыя, нечытэльныя, мелі каля арыгінала старанна запісаныя копіі і каментары. Кніга была зробленая сябрам бацькі - Міхалам Шымялевічам, натарыюсам. Па адукацыі і зацікаўленасці гісторыка Лідскай зямлі. У маладосці ён з запалам збіраў розныя гістарычныя дакументы, пісаў і друкаваў у рэгіянальных выданнях артыкулы, звязаныя з гісторыяй Лідскай зямлі, перапісваўся з гістарычнымі таварыствамі, словам, атрымаў вядомасць як аўтарытэтны даследчык-аматар. У выніку ён быў адпраўлены за кошт нейкага гістарычнага таварыства вучыцца ў Кракаў і атрымаў гістарычную адукацыю ў Ягелонскім універсітэце да Першай сусветнай вайны. Пасля вяртання ён працягнуў сваю працу ўжо як спецыяліст з адпаведнай падрыхтоўкай. Тым не менш ён працаваў прысяжным паверaным (здаў нейкія дзяржаўныя экзамены ў Расійскай імперыі), вёў справы большасці маёнткаў вакол Ліды і меў вялікія магчымасці вывучаць дакументы продкаў шматлікіх сем'яў.

Сабраў бясцэнныя зборы дакументаў вялікай гістарычнай вартасці і вялікую бібліятэку старадрукаў і рукапісаў-мемуараў. Усе яго зборы пасля арышту і вывазу разам з сям'ёй у Казахстан у 1940 г. былі апячатаныя і потым каталагізаваныя выкладчыкамі ўніверсітэта ў Менску. Аднак не былі вывезеныя з горада (работы з імі працягваліся) і згарэлі разам з цэнтрам горада ў часе ваенных дзеянняў перад уступленнем гітлераўскіх войскаў у Ліду.

Упарадкаванне сямейных дакументаў майго бацькі і апраўленне іх у "Кнігу Роду" была яго працай, каб зрабіць падарунак у знак дружбы.

Былі гэта, відочна, сардэчныя сябры. Жылі па суседстве, бачылі адзін аднаго амаль кожны дзень, вялі доўгія размовы і традыцыйна разыгрывалі партыю "66", якая часам цягнулася да позняй ночы. Гэта было свайго кшталту наркаманія. Але ва ўсякім выпадку гульня не замінала іх бясконцым размовам, для якіх яны ніколі не адчувалі недахоп тэмаў.

Гэта ён [Шымялевіч] уласнаручна намаляваў наш герб на нейкай адмысловай паперы і ўставіў у тую кнігу.

Ён таксама ўсталяваў канчаткова дакладнасць арфаграфічнага напісання прозвішча: Sehen (Сэгэнь).

### Ліст Міхала Шымялевіча Драмовічу, дасланы ў рэдакцыю "Лідскай зямлі" Вітольдам Драмовічам[91]

3.01.1959 г.

Паважаны і дарагі пане.

Атрымаў ліст ад пані Кацярыны Кліжашэўскай, і я вельмі-вельмі абрадаваўся, што ўратаваў сваё жыццё яшчэ адзін мой добры знаёмы пан Арэхва. Яшчэ віншую пана з Новым Годам і жадаю пану здароўя, доўгіх гадоў жыцця, шчасця, усемагчымай удачы і спаўнення ўсякіх і ўсіх пажаданняў.

Я 13 красавіка 1940 года быў вывезены разам з сваёй жонкай і малодшай дачкой, жонкай польскага афіцэра на ўсход.

Разам з намі было вывезена з Ліды і павета некалькі тысяч душ. Вывезеных раскідалі па некалькіх раёнах Паўночнага Казахстана. Каля тысячы нашых людзей яны пасялілі ў Палудзінскім раёне Паўночна-Казахстанскай вобласці, за 40 кіламетраў ад Петрапаўлаўска. Тут нешчасныя людзі рассяліліся па вёсках у жабрацкіх хатках, збудаваных з вялікіх неабпаленых цаглін з гліны, гною і саломы. Тыя бедныя хаткі мелі дахі з плеценых лазовых матаў, змазаных глінай. У хатках крайняя беднасць, і мы, колькі там жылі, жылі толькі з таго, што прадавалі сваю вопратку за бульбу, малако і вельмі рэдка за нейкі кілаграм мукі. Нашы людзі, а гэта былі практычна ўсе жанчыны з дзецьмі, жонкі паліцыянтаў, афіцэраў, сяржантаў, урадоўцаў, якія на вайне з Гітлерам былі забітыя, забраныя да няволі нямецкай або забраныя Саветамі, сядзелі ў вязніцах ці лагерах у Катыні, Казельску, Старабельску і іншых месцах. Мужчын было вельмі мала і то адны дзяды. Хто мог, пайшоў на працу. Хто рабіў у гразі і вадзе цэглу, хто запісаўся ў калгасы або саўгасы. Я атрымаў працу пры інжынерах, якія шукалі нафту ў стэпах Казахстана. Хадзіў з усёй партыяй па стэпах, начаваў у палатках. Што чалавек зарабляў, тое з'ядаў і не наядаўся. Лета было гарачае. 40 гр. цяпла.

[88] З асабістага архіва сябра аўтара артыкула Януша Сегеня з Варшавы.
[89] Так званая 14-я разнавіднасць. Абданк з крыжападобнай стралой.
[90] Часцей копіі, арыгіналы - гэта выпіскі з метрыкальнай парафіяльнай кнігі.
[91] Ліст надрукаваны ў газеце "Ziemia Lidzka". 1999. № 2 (37), пераклад Станіслава Судніка.

Прыйшла зіма, снежная, марозная і доўгая. Мароз трымаўся 30-40 гр. Нашы людзі вымушаны былі разам з усімі ісці на цяжкія работы - ачышчэнне снегу з чыгуначнай каляі, на будоўлі нафтавых вышак, і ўсё гэта ў холадзе, у голадзе і практычна задарма. Прыйшла вясна 1941 г., толькі распачаліся летнія работы, як выбухнула вайна Сталіна з Гітлерам. Рускіх людзей пабралі ў войска, а нас, не пытаючыся, ці хочам, ці жадаем, запакавалі на цягнікі і вывезлі за паўтары тысячы кіламетраў у Кустанайскую вобласць і пасялілі ў палатках над рэчкай Таболам ды пагналі на работы - капаць і ўкладваць баласт на будоўлі новай чыгункі. Там зноў у гразі, у голадзе, у вошах правялі некалькі месяцаў.

Напалі на нас розныя азіяцкія хваробы, язвы, сверб і ліха ведае што. Ледзь восенню вырваліся з таго пекла і па вялікіх муках жменька нас вярнулася ў Паўночны Казахстан. Там мы пагінулі б, бо за першы год толькі з нашай групы палякаў памерла 50 чалавек, пераважна з голаду. Але Пан Бог усё-ткі выказаў сваю міласэрнасць. Генерал Сікорскі дамовіўся са Сталіным, выпусцілі польскіх вязняў, генерал Андэрс пачаў фармаваць там польскую армію, а нас, палякаў, Амерыка і Англія ўзялі пад сваю апеку. Далі нам сякуютакую дапамогу, і мы пачалі аджываць. Але калі наша польскае войска аказалася выпраўленым у Іран за Каспійскае мора, то Саветы ўсіх тых, хто не пайшоў у войска (жанчын, дзяцей, старых) затрымалі ў сябе ў якасці закладнікаў. Абвясцілі сваімі падданымі і загадалі выдаць нам савецкія пашпарты, як іх падданым. Плач, енк, што ўжо ніколі не вернемся да сваёй Айчыны. Сам я проста не хацеў гэтага прымаць і падгаворваў іншых, каб супраціўляліся і не бралі. Цвердзіў усім, што над намі апякуецца Англія і Амерыка і наш урад у Лондане. І нам не дадуць згінуць у Саветах. Суцяшаў, што ўсе вернемся ў Польшчу. За гэта мяне пасадзілі ў вязніцу на дзесяць гадоў. Цягалі мяне па вязніцах і следствах практычна ўвесь 1943 год і ў канцы вывезлі ў лагер на поўдзень ад Караганды. Зімой, пры 30 гр. марозу, вязлі нас пяць сутак у вагонах для жывёлы на кавалку сухога хлеба і вядры халоднай вады з лёдам. У тым падарожжы адмарозіў сабе ногі. Потым сядзеў пару месяцаў на раздзельным пункце ў Карабасе, адкуль мяне з чорнымі гнілымі пальцамі на нагах перавезлі ў шпіталь у Далінцы. Там мне ампутавалі вялікія пальцы на нагах, а астатнія палячылі, але і цяпер заўсёды мне баляць ногі, асабліва на халоднае надвор'е. Пяць гадоў ганялі мяне там з лагера ў лагер, жыў тыя пяць гадоў без кашулі, у падранай, смярдзючай ватоўцы і ў такіх жа портках. У канцы 20 сакавіка 1948 г., роўна праз пяць гадоў вывезлі мяне разам з іншымі, не здольнымі да працы (па амністыі), у Польшчу.

Мая жонка была прывезеная ў Польшчу разам з іншымі палякамі яшчэ ў 1946 г. Тут знайшла старэйшую дачку настаўніцу Марыю Вось і пры ёй асела ў Сопаце. Я знайшоў адрас жонкі і дачкі і прыехаў да іх 20 траўня 1948 г. Жонка мая, будучы ў Казахстане на цяжкай працы, надарвалася, атрымала грыжу і хварэла, аж пакуль не памерла ў 1955 г., маючы 75 гадоў, і была пахавана ў Сопаце.

Дачка мая, жонка афіцэра, жыла ў Казахстане з намі, а калі фармавалася там польская армія, быў выпушчаны з увязнення на Беламорканале яе муж Адам Махніц, знайшоў нас у Казахстане, прыехаў да нас, трохі адпачыў і паехаў у польскую армію, куды забраў потым і сваю жонку, нашую дачку. Ён, як афіцэр, а яна, як сястра міласэрнасці, прайшлі Іран, Сірыю, Палестыну, дзе спаткаліся з нашымі лідскімі габрэйчыкамі, потым прайшлі праз Італію і былі ў тым страшным баі пад Монтэ-Касіна. Там зяць быў паранены. Цяпер яны жывуць у Англіі, абое працуюць, і ім там някепска жывецца, а мне дапамагаюць

Я атрымаў працу вахцёра пры музычнай школе, пільную парадак паміж вучнямі і атрымоўваю штомесяц 350 зл. і маю пенсію па старасці 548 злотых штомесяц. Жыву пры дачцэ-настаўніцы і неяк трымаюся. Маю ўжо 80 гадоў, галава і вусы белыя, як снег, але яшчэ хаджу дзёрзка і не горблюся. Ні на адну чынавенскую працу не пайшоў, бо пры сённяшніх парадках чалавек раз на возе і раз пад возам. А вахцёру ні пра што галава не баліць, глядзі, каб падлога была чыстая, каб вучні не сваволілі, каб хто чаго не ўкраў або не сапсаваў.

Суцяшаў сваіх людзей у Казахстане. А цяпер і тут суцяшаю. Прыйдзе час - і ўсе і мы, хто дачакае, вернемся да сваёй любімай старонкі, хто да Ліды, хто да Качанова[92]. Будзь пан пэўны, што яшчэ прыляціш пяхотай з Ліды да сваёй зямлі, да свайго доміка і да свайго млына, абдымеш яго за вугал і будзеш плакаць слязамі з радасці, што па тых гадах і муках дабіўся, аднак, да свае мілай уласнасці.

Але толькі трымайся і не падай духам. Так будзе, як пішу. Пішы мне. Цікава, што стала з Бараноўскімі і Янам Шаптуноўскім.

Сардэчна абдымаю пана.

Міхал Шымялевіч.

**Ліст напісаны ў 1963 г. Міхалам Шымялевічам сябру Яну Сегеню ў Варшаву**

Цэлы месяц жнівень правёў ва Уроцлаве, у дачкі і зяця Багаткоўскіх (Bogatkowskich). Мая дачка Марыя Вось (Maria Wosiowa) таксама была ва Уроцлаве разам з намі два тыдні. У тым годзе, у палове ліпеня, прыязджалі да нас у Сопат з Лондана Махніцы - мая дачка Ніна з мужам. Бавілі ў нас у Сопаце 10 дзён, а потым паехалі ва Уроцлаў, былі там да паловы жніўня, прычым зяць ездзіў да сваіх крэўных, а дочкі ездзілі да сваіх крэўных па матцы. Калі былі ва Уроцлаве, справілі вяселле. Мой унук Земавіт Багаткоўскі (33 гады) ажаніўся з ладнай паннай Марыяй Туровіч, якая паходзіць з Львова, а працуе ва Уроцлаве на агранаміі. Яна аднагодка з мужам, толькі выглядае на 20 гадоў. Пасагу не было. Нават, як казалі цёткі маладога (размаўляючы паміж сабой), маладая брала шлюб у пазычаным строі крэмавага колеру і нават пазычыла пекныя пантофлі. Але затое вяселле было ладным. Шлюб адбываўся ў

[92] Вёска пад Лідай, дзе Драмовіч мёў млын.

касцёле Св. Эльжбеты па вуліцы Грабішынскай. Касцёл гэты ўцалеў ад вайны, надта ладная старажытная готыка, з ладнымі вітражамі ў вокнах, ладная, у каляровую кафлю падлога, пекныя алтары. Падчас шлюбу, які працягваўся не так хутка, як раней у нашай каханай Лідзе, дзе бывала і па некалькі пар адразу і для ўсіх святой памяці арганіст пан Пухальскі іграў толькі адзін марш - тут цырыманіяльная служба працягвалася палову гадзіны. Перад гэтым шлюбам такі самюткі доўга і ладна падчас службы іграў арганіст з хорам, а фатограф, калега маладога, зрабіў дванаццаць фатаграфічных здымкаў з розных пунктаў і ў розных хвілях цырымоніі.

Потым было вяселле. Два сталы з моцнымі і слабейшымі напоямі, досыць усякіх далікатэсаў. Чатыры цёткі маладой, з іх адна прафесар музыкі, ігрaла на фартэпіяна і рабіла застолле прыемным, другая, эстрадная і оперная спявачка, добра спявала. Пасля стала распачаліся танцы пад радыёлу. Я з маці маладога, наша Золя і Маня ад'ехалі дадому, на іншы канец горада за 10 км, бо Золя спяшалася на працу на наступны дзень, а моладзь танчыла новыя танцы да світанку.

**Міхал Шымялевіч пра сваю ся'ю**[93]

Міхал Шымялевіч, сын Яна, 1879 г., уласнік малой нерухомасці ў г. Лідзе, вул. Гражыны, 17, юрыстнатарыюс.

Жонка Гелена з Таўгіноў, 1880 г.

Дачка Анна Махніц, 1912 г.

Усе разам вывезены з Ліды 13 красавіка 1940 г. Прыбылі на станцыю Такушы 20 красавіка і першапачаткова былі адвезены ў Такушанцкі саўгас на ферму № 1, потым на ферму № 2 у Самрыне, адкуль пераведзены ў вёску Мікалайчыкі, а ў канцы - у восень 1940 г. - у вёску Фурманаўку.

Міхал Шымялевіч і Анна Махніц у 1940 г. працавалі ў экспедыцыі, якая шукала нафту, а пры канцы года, у лістападзе і снежні на ... у Самрыне - на падрыхтоўцы вугля для каксавання. У вясну 1941 г. зноў з дачкой пачаў працаваць у экспедыцыі, якая шукала нафту - сейсмічная нафтаразведка. Толькі 24 чэрвеня разам з іншымі сем'ямі наша сям'я была вывезена на будоўлю коксахіміі ў Акмолінск... над р. Табол, каля вёскі Аксуф'я за 156 км ад Кашараў. Працавалі тут на падрыхтоўцы баласту да вагонаў, капанні равоў. Пасля амністыі 1941 г. - 24 верасня быў вызвалены ад працы і, вытрымаўшы цяжкую дарогу, увечар 19 кастрычніка даехаў да ст. Такушоў, а на наступны дзень да Фурманаўкі.

Міхал Шымялевіч 16 сакавіка 1942 г. атрымаў ад дэлегата Польскай амбасады ў Петрапаўлаўску Вітольда Плоцкага намінацыю на пасаду прадстаўніка на Палудзенскі раён (?). Гэта намінацыя пацверджана Польскай амбасадай у г. Куйбышаве і прызнана Савецкім Міністэрствам замежных спраў - намеснікам Вышынскага. На гэтай пасадзе працаваў да свайго арышту.

Міхал Шымялевіч быў арыштаваны 20 сакавіка 1943 г. у Такушах за адмову прыняць дакумент з савецкім грамадзянствам і за агітацыю - намаўленне іншых перасяленцаў не прымаць гэтыя дакументы. 15 чэрвеня 1943 г. абласным судом у Петрапаўлаўску, грунтуючыся на артыкулах 192 а і 5810 К.К. прыгавораны да 10 гадоў пазбаўлення волі, 5 гадоў пазбаўлення грамадзянскіх правоў і канфіскацыю маёмасці. Адбываў тэрмін у КазЛагу Карагандзінскай вобласці на пунктах: Карабас, Далінка, Джастас, Каруспай, СПО, зноў Каруспай, зноў СПО, потым Каруспай, МПУ- Плаціна, "Новая Стройка", Кокс, зноў "Новая Стройка" і зноў Плаціна. Заўсёды прызнаваўся інвалідам 4 катэгорыі. 20 сакавіка 1948 г. быў адасланы на СПО, потым на Карабас, потым у Берасце - заўжды пад аховай. 20 траўня 1948 г. прыбыў у Сопат да дачкі Марыі Вось і жонкі Гелены.

Пасля арышту мужа, яго жонка Гелена Шымялевіч у галечы і голадзе, хворая дачакалася выезду ў Польшчу. 15 траўня 1946 г. прыбыла да дачкі Марыі Вось у Сопат.

Зяць Адам Махніц, сын Францішка (г. Копчыцы), кадравы паручнік 77 п.п. у Лідзе. Пасля катастрофы 1939 г., у кастрычніку, вярнуўся да жонкі ў Ліду і быў арыштаваны 14 снежня 1939 г., асуджаны на 10 гадоў у красавіку 1940 г., праз Менск, Віцебск і Пецярбург засланы на Беламорканал, па адрасе: "Карело-Финская ССР. Станция Май-Губа, Кировской жел. дор. Почтовый ящик 251/7. Лагерный пункт № 9. Унижма. Квартал 29". Пасля амністыі 1941 г., 24 верасня прыбыў ў вёску Фурманаўку і 10 студзеня 1942 г. выехаў у Польскую армію па адрасе (месца фармавання дывізіі - *Л.Л.*): "5 дывізія, 17 полк стральцоў. Узбекская ССР. Бухарская вобласць, горад Шахрысябзь, пашт. скр. 210 Д" (каля горада Кітаб, на Афганскай мяжы). 16 сакавіка 1942 г. да яго прыехала жонка Анна Махніц. Ваяваў у Сірыі, Палестыне, Егіпце, Італіі дзе быў паранены, застаўся з жонкай у Англіі.

Сярэдняя дачка Зоф'я з мужам Генрыкам Багатකоўскім і сынам Землавітам у 1939 г. жылі ў Варшаве, а з 1941 г. - у Ловічы.

Старэйшая дачка Марыя Вось у першых днях лютага 1940 г. перайшла праз дэмаркацыйную лінію цераз Буг у Варшаву.

Брат Павел Шымялевіч, капітан на пенсіі Польскага войска, 10 лютага 1940 г. з жонкай Наталляй і цешчай Марыяй Коржыч быў вывезены з сваёй вайсковай хаты Стралеч у Берасцейскім павеце у сібірскую тайгу: "Горад Тайшэт Іркуцкай вобласці, пасёлак Удачны", потым - у пасёлак Тапор’е. Павел Шымялевіч з жонкай Наталляй засталіся ў Англіі (служыў у арміі Андэрса).

Брат Ян Шымялевіч загінуў пад акупацыяй на Крэсах Усходніх. Яго жонка Зоф'я Шымялевіч з Макарэвічаў і сын Аляксандр Шымялевіч, студэнт Санітарнай школы падхарунжых загінулі ў паўстанні 1944 г. у Варшаве.

[93] Michal Szymielewicz. Wysiedlenie do Kazachstanu w r. 1940 znacznej czesci mieszkancow powiatu lidzkiego // Fundacja-Zaklad narodowy im. Ossolinskich. Katalog Rekopisow akcesyjnych Akc. 26/56. S. 87-89.

# Успаміны Міколы Лазоўскага

***(20.02.1926 - 2009)***

Нарадзіўся ў в. Лазяны Беліцкай гміны, недалёка ад берага Нёмана.

*Я хлапец з маленькай вёскі,*
*Што над Нёманам стаіць,*
*Дзе саломенные стрэхі,*
*А ў хаце печ дыміць.*
*Дзе ў каморы бацька жорны круціць,*
*Муку меле на бліны,*
*Дзе зусім яшчэ недаўна:*
*- Chodz` tu chamie zbyntowany, -*
*Мяне клікалі паны.*

Бацька Фёдар Фёдаравіч меў каля 9 га зямлі, трохі лесу, трохі балота, на краі вёскі. Асада. Лазяны ў 1927 г. згарэлі, вырашылі разнесці па хутарах. Бацька скончыў 2 класы царскай школы, умеў чытаць. Адразу ўраджай на новых землях быў вельмі кепскі. Пачалі сеяць лубін, люцэрну, канюшына-лазоўка вырастала ў рост чалавека. Трымалі 3 кароў, каня, авечак. Лубін заворвалі, паднялі ўраджайнасць, па 40 коп жыта збіраць сталі. Сеялі галоўным чынам збожжавыя. Малако мы не здавалі - далёка было. Суседзі з іншых вёсак вазілі ў Беліцу на сепаратар. Маслёнку прывозілі назад. Бацька прадаваў збожжа, цэны тады дзяржаўныя былі ўсталяваны (*"гелда збожова"*). Дзякуючы збожжу можна было заплаціць падаткі. Мой брат вучыўся ў Бердаўскай земляробчай школе, скончыў яе. Бацька завёў кароў чырвонага колеру, давалі добра малако. У Беліцы была выстава, бацька павёў туды нашага бугая - атрымаў 20 злотых прэміі - гэта было 10 пудоў жыта, боты каштавалі 15, бутэлька гарэлкі - 2 злотыя, у прыпар улетку за дзень можна было зарабіць 5 злотых. Бык сваё адпрацоўваў, за асямяненне каровы плацілі 2 злотыя. У вёсцы як толькі пачаў хадзіць - пачынаў працаваць. Я да 15 гадоў пасвіў кароў. У нас былі ўрочышчы: Казечына, Цыган (балотца, цыган павесіўся), Гаі, Малосава, Кадаўбы, Лужкі - алешнік рос, быў Акоп, пры Напалеоне там частка стаяла, у межах Лазян за 1,5 км, ніхто там не жыве, зарасло.

Пясок -жаўтляк, кар'ер зрабілі. Наша балотца асушылі, торф бралі. Меліярацыю пры паляках зрабілі ўручную. Кожнаму з вёскі даручана было пракапаць участак. Дарога паміж Жалудкам і Беліцай была выкладзена каменем. Гаі - дарога на бярвенні (пад Беліцай). Дарогі - шарваркі - кожны адбываў- трэба было камяні вазіць. Кудла быў такі. Насіў камяні на дарогу ў дзярузе. Страшны, абарваны. Курная хата. Другая курная хата была ў Лазоўскага (Паўлінка). Дарогу Беліца - Жалудок пабудавалі за 2-3 гады. У вёсцы былі велізарныя валуны - засадзілі на гэты камень, не мог злезці. Пры Польшчы рвалі гэтыя камяні. Было некалькі велізарных валуноў. Крушні - па краях лесу, перад пасевам канюшыны зносілі камяні.

Вайна скончылася - можаце браць пазыкі. Мае бацькі былі ў бежанцах у Наварасійску. У нас арфа была, малатарня. Бацька ўзяў пазыку, купіў манеж і малатарню. На 40 гадоў расклалі. Падатак трэба было плаціць рэгулярна.

Скончыў 4 класы польскай школы. Вучылі рэлігію. Любілі сваю мову. Пры паляках ставілі "Паўлінку", "Саўка збунтаваны". Брат мой дапамагаў. Памятаю польскія выбары 1935 ці 1936 г., № 13 - бацька прывёз бюлетэні, нават бабаў прымусілі галасаваць. Газеты дарагія былі, бацька выпісаў "Рольнік", "Зялёны штандар"- апазіцыйная газета, некаторыя нумары прыходзілі з белымі палосамі. Да нас заходзілі суседзі - чыталі. Выпісвалі газеты па пошце, збіралі грошы. Прыходзілі да верасня 1939 г.

Лазяны - 90 двароў было. На адны танцы не ўлазілі, двое рабілі. "Кола моладзевае". Зараз вось быў на пахаваннях, няма мужчын - няма каму труну несці. Усё зарасло. Сусед у нас быў Антон Шацюк, ён пры цары скончыў беларускую школу. Калі прыйшлі палякі адмовіўся вучыць на польскай, стаў настаўнікам пасля вызвалення. Ён музыку складаў: "У перастрэлцы каля Вільні мы паноў прыціснулі..."

У 1944 г. патрапіў у войска - завезлі нас пад Маскву ў Альхавецкія лагеры. У лістападзе патрапіў на Віслінскі плацдарм (1-шы Украінскі фронт, 31 артылерыйская дывізія, 10 корпус прарыву РГК, 191 брыгада, 4 дывізіён, 5 батарэя, камандзір аддзялення радыё), вызвалаў Кракаў, Браслаў. Браслаў (Уроцлаў) акружылі ў лютым, а ўзялі толькі ў траўні. Днём рускія войскі дзейнічалі, а ўначы немцы выходзілі з хованак. У Браслаў на кожнай вуліцы брацкія магілы. На аднаго забітага немца - 15 нашых. Патапілі ворага ў нашай уласнай крыві. Восем дзён удзельнічаў штурме Берліна. Служыў у 10 корпусе артылерыстам. Перад штурмам Берліна атрымалі новыя гарматы. Скончыў вайну за 12 км ад Прагі. За фарсіраванне Одара атрымаў медаль "За адвагу". Усяго ў мяне 15 медалёў і ордэн Айчыннай вайны. Служыў яшчэ 6 гадоў - да снежня 1950 г. Служыў у Аўстрыі, Венгрыі, Чэхаславакіі, у Вене, Будапешце. Дэмабілізаваўся з Львоўскай вобласці.

Паступіў у Ліду на працу ў дыстанцыю шляху. У вячэрняй школе скончыў 7 клас. У 1959 г. жаніўся.

Першыя мае малюнкі былі на бандарных клёпках, на воску яшчэ. У Венгрыі афармляў з добрымі мастакамі. Паступіў у Маскоўскі народны ўніверсітэт. Скончыў на 4-5. Адначасова вучыўся ў вячэрняй СШ № 2 - у 10-11 класах. Потым працаваў на лакафарбавым заводзе. Удзельнічаў у выставах, у т.л. у абласных. Пару дзясяткаў маіх карцін за мяжой, ёсць замовы. У будынку прафілакторыя праводжу ўжо 4 -ю выставу, спачатку алоўкавыя малюнкі, затым акварэль і дзве апошнія - работы алеем. Гэтыя месцы вельмі прыгожыя: дуб - дзядуля, дуб - абаронца. Вакол Дзітва. У Чылеках з аднаго месца можна чатыры карціны адразу маляваць.

*Запісана ў снежні 1999 г.*

***Ежы Путрамант***

# ПАЎВЕКУ

## *Вайна**

*(Працяг. Пачатак у папярэдніх нумарах.)*

**Прушынскі**

Праз пару тыдняў пасля нашага прыезду Усіевіч паказала мне дэпешу. Крыкнула з радасцю: "Грэгары!". Першы з віленцаў, які знайшоўся. Быў у нейкім свінасаўгасе над Волгай. Усіевіч пыталася, ці прыдасца? Закрычаў, што як найхутчэй.

Прыехаў праз пару дзён. Прывітаў яго шчаслівы - асклепак далёкай Вільні, ужо далёкай маладосці. Грэгары адказваў на маю шматслоўнасць звыклай сваёй стрыманасцю. Пасяліўся са мной, у тым самым пакоі. Адразу ўзяўся за работу.

З яго аповесці выглядала, што ў Вільні ўсё адбывалася значна горай, чым у Львове. Немцы прыйшлі туды бадай што на другі дзень. Ён уцёк у першы дзень роварам. Шчасліва пазбягаў галоўных дарог, бо напэўна засеў бы. І так праз пару дзён быў на палову ў "катле".

Ён не ведаў, ці хто яшчэ выбраўся з Вільні. Пра маіх віленскіх знаёмых таксама ведаў не шмат. Генрык працаваў дырэктарам сярэдняй школы недзе на паўночным Палессі. Тэарэтычна мог адтуль выбрацца.

Прыехала ў Маскву Яніна Бранеўская. Выбух вайны застаў яе ў Менску. Апавядала пра жудасную бамбёжку горада адразу ў першы дзень. Ёй удалося эвакуявацца. Ведала толькі, што і Максім Танк выбраўся.

Ужо было пасля падпісання ўмовы Сікорскі - Сталін і пасля амністыі. Аднаго дня, бадай у той жа "Маскве" сустрэў... Бранеўскага. не гаварыў пра тое, што прайшоў. Толькі пасля пары кілішкаў дэкламаваў свой некалькістрофавы верш па-расейску, які пачынаўся так:

*Человек это звучит гордо,*
*так говаривал Максим...*

Далей рыфмавалася нешта кшталту *"материи - Берии"*.

Бранеўская сустракалася з ім часцей. Потым пачала фармавацца армія Андэрса, і ён выехаў.

У той жа "Маскве", у яе велізарнай рэстараннай зале мы сутыкнуліся са свежа прыбылым з Лондана аташэ па культуры амбасады Сікорскага. Быў гэта прыгожы, малады чалавек, трохі падобны да Станіслава Пентака. Гаварыў, што мы знаёмыя з Вільні, але я яго адтуль не памятаў. Называўся Ксаверы Прушынскі.

Мы вячэралі ўтраіх з Грэгарам. Гаварылі доўга і на агульныя тэмы, не вельмі "вывучыўшы тэрыторыю". Аж раптам Прушынскі:

- Мы тут сабе гады-гады, а я так гляджу на вас і думаю: сяджу вось за адным сталом з будучым прэзідэнтам і прэм'ерам камуністычнай Польшчы!

Зрабілася мне прыемна і дурнавата. Прыемна, што ён бачыць тую Чырвоную Польшчу, якой я хацеў. Дурнавата - што гэта камплімент...

Не знайшоўшы лепшай рэплікі, я сказаў:

- Калі вашае прароцтва збудзецца, можаце быць пэўныя, што мы ў сваю чаргу выканаем усе вашыя пажаданні.

- О, дзякуй! - адказаў досыць холадна Прушынскі. - Калі тое збудзецца, то я ўжо загадзя ведаю, пра што вас папрашу...

- А менавіта?

- Пра замежны пашпарт...

Святая наіўнасць! Так добра, што ў другі раз не хапіла мне слоў. Адказала за мяне гісторыя. Дастаткова было мне паўтарыць тую размову праз восем гадоў у Парыжы тагачаснаму паслу Народнай Польшчы ў Амстардаме Ксаверыю Прушынскаму. Тады ў сваю чаргу і ён не знайшоў, што сказаць...

Дадамо, што Прушынскі вельмі шукаў кантактаў з усёй нашай групай і тады, і асабліва ў Куйбышаве. Толькі што напэўна лепей распазнаў асяроддзе і галоўны націск скіраваў на жанчын - Бранеўскую і Усіевіч. Гэтай апошняй прысвяціў адно з чатырох эсэ, выдатна напісаны, хоць і не найтрапнейшых. Супрацьпаставіў у іх "адыходзячы" тып міжнароднага рэвалюцыянера, г.зн. уласна Усіевіч і ... Эрэнбурга - тыпам "надыходзячым", якія рэпрэзентавалі вялікарускі нацыяналізм, г. зн. графу Ігнаццеву і Аляксею Талстому.

І першая палова тэзы не трапная, бо такі Эрэнбург значыць сёння больш, чым калі-небудзь - і другая - тым больш. "Надыходзячыя" тыпы фармаваліся ў цалкам іншай плоскасці, на іншых супрацьпастаўленнях.

**Эпізоды з карыфеямі**

Эрэнбурга я якраз ведаў. Чытаў яго перад тым, хоць без захаплення. Гэта Юзік Маслінскі меў на стале

*Пераклад з польскай Станіслава Судніка паводле **Jerzy Putrament. "POL WIEKU. Wojna."** (Том 2 тэтралогіі), Czytelnik, Warszawa, 1962.

“Трынаццаць люлек”. Гэта ён разам са Шрэдарам яшчэ ў гімназіі, здаецца, праходзіў праз “Юлія Юраніта”. Першае мяне нудзіла, другое пададавалася наследваннем па Анатолю Франсу. І ўжо з агідай чытаў “Каханне Ёанны Нэй”.

Але пару месяцаў таму назад адзін з “тоўстых часопісаў”, г.зн. месячнікаў тыпу “Творчасці”, надрукаваў “Падзенне Парыжа”. Я быў захоплены. Падавалася мне, што гэта нечувана цікава і трапна. Як быццам бы бачыў Францыю. Праз сем гадоў ўбачыў яе натуральна. Мушу сцвердзіць, што не абвергла яна Эрэнбурга.

Быў напэўна жнівень, гарачы і пыльны. Весткі з фронту нядобрыя. У “Парку культуры і адпачынку” арганізавана аўтарская сустрэча. Запрасілі і нас. З савецкага боку былі аж два карыфеі. Выходзілі на сцэну такой “ракавіны”. На лаўках пару соцень слухачоў. Я крычаў ім па-польску свежа напісаны верш. у якім заклікаў Варшаву да паўстання. Адыграў ён дзіўную ролю праз тры гады. Слухачы пляскалі. З ветлівасці, гэта адчувалася. Зрэшты, што дзіўнага, мова...

Прадставілі мяне Эрэнбургу. Малы, нярвовы. нахмураны. Спрабаваў яго падкупіць нейкім камплімeнтам. Нешта няветліва буркнуў. Чытаю цяпер яго знакамітыя дзённікі. Столькі сэрца ўкладае ў пісанне пра сваіх памерлых знаёмых, што яму канешне не хапае ўжо звычайнай далікатнасці для жывых незнаёмых.

Другі карыфей - гэта быў Лявонаў. Ад паловы трыццатых гадоў падаваўся мне адным з узорных празаікаў. Захапляўся, напрыклад, яго “Дарогай на акеан”. Асаблівыя ўзрушэнні будзілі ўва мне досыць частыя ў яго постаці інтэлігентаў, і нават людзі з кепскім сацыяльным паходжаннем, якія шчыра пераходзяць на бок рэвалюцыі, не гледзячы на тое, што дагматыкі і сектанты, у дадатак, зрэшты, замаскаваныя шпіёны і дыверсанты намагаюцца іх знішчыць. Пэўна я пачуваўся трохі ў падобнай сітуацыі.

Лявонаў быў невысокі, моцны, дзіўна малады, з акруглым вясковым тварам. Абмяняліся некалькімі словамі, ветлівымі і нязначнымі.

Да Фадзеева хадзілі афіцыйна. І той быў незвычайна малады, як на класіка. Малады, высокі, прыстойны, з чыстымі вачыма і прывабнай усмешкай. Вырашаў нам адным тэлефонам розныя справы, якія вымагалі без яго цэлых тыдняў напружанай бегатні. Часам быў няўлоўны. Гаворачы пра гэта сакратаркі падміргвалі. Значыла гэта: п’е...

Для мяне гэта быў аўтар адной з найлепшых савецкіх аповесцяў “Разгрому”, якую я перакладаў з нежывым ужо Пяхам. Самае дзіўнае - гэта яго біяграфія. Такая знакамітая кніжка напісана ва ўзросце дваццаці з нечым гадоў. І потым прайшло дваццаць гадоў, і нічога закончанага...

Зрэшты, і пазней нічога лепшага не напісаў. На “Маладой гвардыі” ляжыць груз вымушанага манументалізму. А гэтага не зрушыць і геній.

Думаю, што з’ела яго арганізацыйная праца хутчэй, чым гарэлка, якая была больш вынікам, чым прычынай. Адразу групавая барацьба, потым значна цяжэйшая праца генеральнага сакратара Саюза савецкіх пісьменнікаў у 36-39 гадах.

Я гэтага тады не разумеў. Глядзеў на маладзенькага гіганта з захапленнем, над яго заганай уздыхаў. Канешне, крошкі крыўды ўжо не засталося ад той палавінчатай дэпешы. Сам Фадзееў, калі нас убачыў, таксама ўжо слоўкам не ўспомніў, што прыехалі без запрашэння...

Недзе ў пераходзе, у цёмным калідоры Саюза, прадставілі мяне высокаму, прыстойнаму мужчыну. Якраз голасна смяяўся. Бліскалі здаровыя, белыя зубы. Меў дзіўны твар, моцна загарэлы, нешта ў тым твары з выгляду негрыцянскага караля. Гэта быў той прыяцель Маякоўскага, пра якога гаварылі па кутках, што ёсць сёння найлепшым расейскім паэтам. Словам гэта быў Барыс Пастарнак.

Смяяўся, пацiснуў руку, знік. Гэта здаецца Усіевіч мяне яму прадставіла. Я зноў быў здзіўлены: яго натура так непадобная да вершаў, насычаных акампанементам паглыбленаму бачанню свету:

*я знаю, ты не з вясталак,*
*убегла з крэслам,*
*як з паліцы жыццё маё дастала*
*і пыл абтрэсла...*

І яшчэ адна сустрэча, ужо не з карыфеем. Усіевіч належала да рэдакцыйнай калегіі месячніка “Літаратурны крытык”. Гэтае выданне змясціла два апавяданні пісьменніка Андрэя Платонава, каб запратэставаць супраць крытыкі яго, якая праводзілася ў выданнях ужо вузка літаратурных.

Я прачытаў тыя апавяданні. Былі яны вельмі цікавыя, прадвяшчалі вялікі талент. Асабліва адно, пра дзяўчыну, якая чакала на прыезд каханага, выключна выдатнае.

Платонава секлі за не досыць высокую “аддана-насць”. Быў ужо цалкам раскручаны. Пазнаёміўся з ім у Усіевіч: малады яшчэ, але зацюканы чалавек, здаецца, сухотнік. Памёр праз пару гадоў.

**Маскоўскія ночы**

Лета станавілася што раз горшае. Дзень у дзень над горадам бясхмарнае неба. З раніцы кідаліся да штодзённікаў: зводка!

Былі вельмі нядобрыя. Хутка мы навучыліся іх расшыфроўваць. Адносна найлепшымі былі тыя найкарацейшыя: на працягу дня такога і такога нашы войскі вялі баі на ўсіх франтах. Горш было, калі пачыналі называць кірунак. Нейкі час трываў Пскоўскі кірунак. А потым выскачыў Порхаўскі. Кінуліся да атласаў. Порхаў - нейкая дзірка, далёка на ўсход ад Пскова.

Таксама прыметнікі былі важныя. “Вялі баі” - кепска. “Зацятыя баі” - горай. “Цяжкія” - яшчэ горай. Потым ужо было толькі “з пераважнымі сіламі непры-

яцеля" і - "пакінулі".

Дзень у рэдакцыі пачынаўся з вывучэння карт. З імі было не лёгка, на тым грунце вынікла цэлая гісторыя, запісаная мной сяк-так (апавяданне пад назвай "Атлас" з тома "13 з Вясёлка"). Чакалі з дня на дзень нейкага пералому. Бо нечаканасць ужо мусіла знікнуць. Але немцы перлі наперад. Часам прыязджалі з фронту людзі. Мы іх распытвалі. Але яны былі вельмі стрыманымі. Думалі: вайсковая таямніца. Сёння думаю, што па-простy не хацелі нас карміць усёй порцыяй тагачаснай, горкай праўды.

Паўтаралі найчасцей аптымістычныя дэталі. Напрыклад пра "кацюшы". Недзе на пачатку жніўня, здаецца, у камюніке з'явілася нарэшце нешта лепшае: разбіты некалькі нямецкіх дывізій пад Ельняй. Надзеі ажылі: што нарэшце нашы перойдуць у контрнаступленне. Але якраз пасля паўдня немцы прарваліся ў тылы войскаў, якія баранілі Кіеў. Разгаралася цяжкая бітва пад Прылукамі, у якой столькі палегла з камандуючым фронтам генералам Кірпаносам на чале. Ельня аказалася толькі эпізодам.

Работы ў рэдакцыі было не шмат. Ішлі ў Саюз пісьменнікаў на абед. Наступаў вечар, некаторыя станавіліся вельмі нярвовымі: надыходзіла пара налётаў.

Былі яны цяпер ноч у ноч. Фронт наблізіўся, ночы падаўжэлі. Вечарам, калі пазней, калі раней ажывалі рэпрадуктары ў цёмных вуліцах, урачысты, злёгку пануры голас гаварыў на ўсю Маскву: "Грамадзяне, паветраная трывога!"

Прачыналіся з Грэгарам, нацягвалі порткі, ішлі ўніз. Гатэль налічваў паверхаў з пятнаццаць, трэбала, каб была выключная няўдача, каб нешта дастала ўнізе. Але не бракавала нярвовых, якія чулі шум вентылятараў, і ў ім дашукваліся гуку нямецкіх самалётаў.

Бывала яшчэ дзіўней. Старая гаспадыня Усіевіч, напрыклад, чуючы жудасныя словы: "Грамадзяне, паветраная трывога!" - была перакананая, што Гітлер асабіста кідае гэтыя пагрозы жыхарам.

На даху "Масквы" стаялі зеніткі. Адразу пачыналі лупіць магутнымі ямбамі. Унізе гэта чулася як лёгкае пастукванне. Часам даходзіла пару мацнейшых гукаў, ад якіх усё дрыжала. Якой жа палёгкай была чарговая абвестка рэпрадуктараў: "Пагроза паветранага нападу мінула, адбой".

Пэўнага дня мы засядзеліся ў Усіевіч. Трывога! Сышлі на паверх ніжэй, г. зн. у сутарэнні. Ледзве селі ў куце, як нехта з'явіўся: трэба дабраахвотніка наверх, на дах.

Не разумна было не адазвацца. Пайшлі. З ліфта вылазім на бляшаны, лёгка пахілы дах. Што за цудоўная ноч!

Я ўжо пісаў пра яе. Не маю таго пад рукой, але можа гэта і лепей. Коратка паўтару тое, што перажыў у той момант.

Страх і захапленне, перамешаныя паміж сабой у пераменнай прапорцыі. На пачатку болей страху, пазней таксама пару хваль яго прыплыву.

Уся ноч абрамавана частаколам хісткіх, белых слупоў святла. Гэта толькі ўступ. Далёка на захадзе пачынаюць пырскаць чырвоныя зоркі, якія хутка гаснуць. Страх: яны абвяшчаюць набліжэнне гулкіх смерцяў.

Зорак более. Потым чэргі: чырвоныя, зялёныя. Так, як бы крэскі, выцягнутыя ў прамую лінію, якая выгінаецца, нарэшце тоне ў цёмнай сіняве ночы. Гэта трасуючыя чэргі кулямётаў. Уражвальнае ў іх адно: зближаюцца павольна, над табой мігаюць бліскавічна, як бы вырваліся з багністай, развесістай ночы - і ўжо зноў у ёй грузнуць, павольна, потым гаснуць.

Нарастае светлавая феерыя, перараджаецца ў жудасную какафонію. Усё вакол пачынае стукаць і грукаць: у справу пайшлі хуткастрэльныя, ямбічныя зяніткі з усіх суседніх дахаў.

У рэдкія секунды цішы зверху, ужо цяпер над табой, далятае агіднае, двухтанальнае паенкванне нямецкага бамбавоза. Зноўку страх.

Стаю каля коміна, на лёгка пахілым даху. Трымаюся за той комін, як бы гэта магло мне нечым дапамагчы. Па блясе барабаніць нешта лёгкае і густое, як бы свавольнікі кідаюць па ёй камянямі. Неяк не разумею, што гэта, мабыць, найгразнейшае, асколкі зенітных снарадаў, якія цяпер сыплюцца зверху без перапынку.

Шум і святло страцілі сувязь паміж сабою, стракатанне і ямбы - гэта адно, трасавальныя чэргі і чырвоныя зорачкі - нешта цалкам іншае. Усё разам нарастае. Дзіўна, што страх ужо не расце, як бы скурчыўся.

Наймацнейшы яго прыліў перажываў, калі над намі бліснуў раптам маленькі, белы месяц, не гасне, плыве павольна, аточаны воблачкамі выбухаў. Гэта "свечка", скінутая з парашутам. Яе трупнае святло агаляе суседнія дахі. Цяпер пачуваю сябе цалкам бездапаможным супраць чорнага неба. Затое ўсе кулямёты ўчапіліся ў той месяц. І раптам ён распалавіньваецца, падае, гасне.

Страх мае сваю пэўную крытычную тэмпературу, пасля якой пра яго забываешся. Я захоплены боем, упадаю ў эйфарыю.

На суседнім даху і на маім, але далей, сыпнула нешта радзейшае але цяжэйшае. Нейкія белыя бліскі. Крычаць мае таварышы, нябачныя ў цемнаце. Запальныя бомбы, перш чым паспелі выбухнуць, ляцяць на зямлю, на дзядзінец, дзе іх дабіваюць іншыя.

Потым агіднае выццё. Праз пару дамоў рудаваты сполах, гук, пятнаццаць паверхаў пада мной захісталіся, як бы сядзеў на вутлай бярозцы.

Гэта апагей. Цяпер усё адступае, ціхне выццё над галавой, гаснуць чэргі, моўкнуць ямбы. Бой перасоўваецца на ўсход. Там, на гарызонце, светлавыя феномены: рудыя праблiскі, адзін за другім, можа з тузін. Потым яшчэ святло. Потым становіцца крывавым. Начны гарызонт распухаў, як язва - пачаўся пажар.

Сяджу на даху. Рудое святло пажару паволі гасне. За ім выплывае зеленаватае святло дасвецця.

Чакаю яго і ўяўляюцца мне ўспаміны з “Вія” Гогаля, адной з найстрашнейшых аповесцяў дзяцінства. Хвіліна цішыні. І раптам з блізкага Крамля далятае меладычны звон курантаў. Як крык пеўня, які звястуе заранку, адступленне кашмараў.

**Фелікс Кон**

Немцы спецыяльна стараліся нанесці шкоду цэнтру. Не ўдалося ім гэта. Ані адзін з гістарычных помнікаў Масквы не пацярпеў. Але траплялі ў блізкіх суседзяў. На мосце каля “Дома ўраду” адным ранкам са здзіўленнем мы ўбачылі круглую дзірку. Здаецца, бомба прабіла яго і ўпала ў раку. Наступным ранкам на тым мосце была толькі пляма новага асфальту. Згарэў адзін дом недзе насупраць Ленінскай бібліятэкі. Сцены засталіся, вокны заклалі цэглаю. Было амаль не пазнаць. Аднойчы ідучы ў Саюз са здзіўленнем убачылі на зямлі два або тры чорныя, адпаліраваныя камені, бюст Ціміраззева, вывернуты выбухам. А наступным днём ён зноў стаяў сабе на цокалі, трохі падрапаны.

Але на фронце рабілася кепска. У горадзе ішла планавая эвакуацыя. У гэтых абставінах я сустрэўся з Феліксам Конам, апошнім з Вялікага Пралетарыяту і тройкі Беластоцкага ўраду.

Мы былі ў Усіевіч, калі ён неспадзявана ўвайшоў туды. Высокі, шчуплы, цалкам сівы, трохі а ля Прус, бо ў акулярах і з бародкай. Гаварыў выдатнай пальшчызнай, лепшай. чым дачка, якая не ўбераглася ад нейкіх “красовых” акцэнтаў. Быў вельмі вясёлы. гаваркі, расказваў анекдоты на тэму курэння тытуню.

Праз дзень ці два мы ехалі на рачны вакзал у Хімках. Эвакуявалі розных заслужаных ветэранаў. Фелікс Кон падаўся мне раптам пастарэлым на дзесяць гадоў. Усіевіч была вельмі неспакойная.

Аказалася. што на тым вакзале ён спаткаў чалавека, якога не бачыў звыш дваццаці двух гадоў. А пазнаёміліся яны пры драматычных акалічнасцях: абодва арганізоўвалі эвакуацыю Кіева перад Дзянікіным у 1919 годзе.

Гэтае спатканне размовы, успаміны плюс панурая рэчаіснасць узрушылі старога бальшавіка. Карабель вечарам рушыў. Не выплыў яшчэ з абшараў Вялікай Масквы, калі сардэчны прыступ паразіў Фелікса Кона.

Яго жонка выгрузіла цела на першай прыстані. Дастала грузавік, каб прывезці яго ў Маскву. Але быў налёт, наймацнейшы якраз на прадмесцях. Знялі цела, паклалі ў прыдарожны роў. Цэлую ноч ляжала каля яго, чакаючы канца налёту.

Праз пару дзён у Саюзе пісьменнікаў адбылася грамадзянская паніхіда (“цывільная жалобная імша”). Афіцыйна гаварылі пра заслугі нябліжчыка. А потым на трыбуну выскачыла Усіевіч, худая, сівая. Высокім голасам, амаль крыкам, кідала рваныя фразы пра тое, што цяпер толькі адно: біць немца.

Потым паехалі на могілкі. Першы раз бачыў цырымонію з крэматорыем. Белы аднапавярховы будынак, атачаны туямі. Труна на невялікім узвышэнні. Арган, як у ксцёле. Жалобная музыка. Потым абрываецца, заміж яе парывістая, здаецца амаль танцавальная мелодыя “Інтэрнацыяналу”.

Гэта добра, гэта пераход ад жалобы да барацьбы. Але адначасова нейкія дзіўныя механічныя гукі - цік, цік, цік... Гляджу, аж труна павольненька западае пад зямлю. Хвіля - і знікае, з двух бакоў выхіляюцца нейкія як бы дзверцы і засланяюць адтуліну.

Узрушаны, поўны неўсвядомленых да канца страхаў, вярнуўся ў горад. Не ўмею абходзіцца са смерцю. У той вобласці з касцёлам ніколі не зраўняцца.

**Тыя, хто сапраўды...**

Ішла восень. Весткі з фронту што раз горшыя. Пасля доўгіх баёў узяты Кіеў, ахоплены ад Гомеля і Краменчуга. Немцы прарваліся пад Ленінград. Вельмі кепска было ўсюды. Толькі на дарозе да Масквы немцы як бы тапталіся. Пэўна адчувалі яшчэ няўдачу пад Ельняй. А таксама галоўныя намаганні накіроўвалі ў той час на поўнач і асабліва на поўдзень. Таксама з налётамі ў верасні, напрыклад, зрабілася лягчэй.

У рэдакцыі мы мелі пару візітаў. Прыйшоў нейкі сівенькі таварыш у акулярах з маладой, чарнавалосай жонкай. Прозвішча яго мне нічога не гаварыла: нейкі Юльян Брун. Галан, які прыехаў “у міжчассі” з Уфы, пасяліўся таксама ў “Маскве” і, не вядома ўласна для чаго, круціўся пры “Новых гарызонтах”, аж за галаву схапіўся:

- Але, Брун, Брановіч. Яго кніжкі пра Жаромскага не чытаў?

Не чытаў. Даведаўся, што гэта адзін з найвыбітнейшых марксісцкіх публіцыстаў і літаратурных крытыкаў.

Быў вельмі мілы. Прыехаў эвакуацыйным цягніком савецкай амбасады, якая пакідала вішысцкую Францыю. Удалося яму патрапіць на той цягнік, іначай аказаўся б у канцэнтрацыйных лагерах у Алжыры, куды трапіла ў т.л. шмат дамброўшчыкаў. Распавядаў разам з жонкай пра Францыю. Ціснулі на іх: што з ёй сталася год назад? Моцна ў яе ўлюбёныя, гаварылі пра “drole de guerre”. Першы раз тады я пачуў тое слова. У суме перакрывалася гэта з “Падзеннем Парыжа”.

Выдалі першы, ваенны нумар, танчэйшы за папярэднія хіба на палову, але і так зроблены намі з найвялікшай цяжкасцю. Пэўна, гэта сталася прычынаю, што заглянула да нас яшчэ пару чалавек. Бо перш за ўсё наша жменька не вычэрпвала асяродка “чырвоных” палякаў у Маскве. Прывітаўся з намі адзін, даўжэй размаўляў з Усіевіч. Потым сказалі мне яго прозвішча: Лямпэ, Альфрэд. І яно мне нічога не гаварыла. З атэстацыі пані Гелены вынес толькі, што постаць выбітная.

Мы ведалі, што тут знаходзіцца яшчэ значная група палітычных дзеячаў, старых нелегалаў. Лямпэ прыехаў недзе з Паволжжа, прыцягнуты якраз імі. Толькі недзе праз год сутыкнуўся з ім на даўжэй.

А ў гатэлі спаткаў дзяўчыну, маладую, невысокую, кволую. Пару разоў елі разам. Мела імя Сабіна. Канешне, я ні пра што не пытаўся, але з паўсловаў даведаўся, што ляціць у Польшчу, што з парашутам.

У кастрычніку знікла. Не сустракаў яе больш, паняцця не маю, што з ёю сталася, не ведаю ні яе прозвішча, ані нават псеўданіма. Было гэта мімалётнае судакрананне з іншым светам, які быў вакол нас, дзейнічаў, змагаўся ўжо тады, калі мы яшчэ "гулялі ў літаратуру".

Іншыя змагаліся цалкам непасрэдна. У той час заскочыла ў Маскву наш намінальны шэф: Ванда. Была з Карнейчуком. Прыехалі на пару дзён, апавядалі кучу франтавых гісторый. На поўдні баі дайшлі да Харкава. Было вельмі кепска. Адступленне з Кіева было пеклам, паміж іншымі згінуў без следу Дзясняк. Вярнуўся потым праз пару месяцаў, барадаты, у цывільнай вопратцы. Наступнай вясной зноў палез у цэнтр агню, у памятным вясеннім наступленні на Харкаў, якое закончылася вялікім разгромам, і ўжо не вярнуўся.

Ванда з Карнейчуком таксама за малым не згінулі. На колькі добра памятаю, высадзіліся на "кукурузніку" на нейкім сваім тылавым аэрадроме. Аж тут да іх бягуць. Глядзяць - а гэта немцы. Лётчык даў газу, сарваўся ў паветра. Немцы палілі з усяго, з чаго можна, не патрапілі.

Не напужала гэта іх, былі ў нейкім прыўзнятым настроі. Ванда пастаянна напявала старую, казацкую песеньку, якой навучыў яе Шолахаў. Выдатна. Рэфрэн:

*Шкода толькі волюшку*
*на шырокім полюшку*
*сонейка на небе ды любові на зямлі.*

**На фронце што раз горай**

Восень. У "Дзяржлітвыдаце" ўсё што раз больш сурова. Ноччу дзяжурым. Аднаго дня прыходзіць мая чарга. Якраз налёт. Блукаю па пакоях, выглядваю ў акно. Пачуваюся не ў сваёй талерцы. Нечаспадзявана знайходжу выйсце: пачынаю складаць верш.

Выйшла толькі адна страфа:
*Масква і ноч.*
*Бліскі чырвоныя і белыя.*
*Міргае гарызонт*
*тысячамі слепячых павек.*
*Палюсы ўжо дрыжаць,*
*шыбы аб шпоны грымяць,*
*гром блізкага выбуху*
*і самотней пачуваецца чалавек.*

Тыповае апісальніцтва. Што ж рабіць? Не кожнаму давядзецца дасягнуць крэацыянізму. Затое досыць дакладна: якраз бамбілі нейкі квартал цэнтра...

Наплыў людзей з фронту, франтавыя настроі вельмі спецыфічныя. Велізарная рэстарацыйная зала ў "Маскве". Абслугоўванне яшчэ амаль нармальнае, яшчэ грае аркестр. Пры століках поўна вайскоўцаў. Паварочваюся. Дзіўны від. Трое п'яных цывільных цягнуць чацвёртага кампаньёна, налітага па корак. Гэта жанчына. Цягнуць яе за рукі і галаву, ногі валакуцца па зямлі. Так неяк атрымоўваецца, што сукенка яе задралася пад грудзі, ніжэй цалкам голая... Зала нічога, як бы таго не было. Нават кельнер не рэагуе.

У "Дзяржлітвыдаце" арганізавалі курсы "ўсявобучу", г.зн. вайсковага прыстасавання. Канешне, мы з Грэгарам запісаліся. Раз у тыдзень альбо і ў два адбываліся зборы. Была ўжо восень, калі мы пачалі выязджаць на стрэльбішча, недзе на поўнач ад Масквы. Усё было тое самае, трохкутнік памылак, разборка замка карабіна. Праходзіў гэта ў чацвёрты раз: гуфец, Жэшаў, Ружан.

Потым нават стралялі. Падмаскоўныя ваколіцы, густыя, але досыць маладыя лясы, шмат елак, ужо пажоўклыя прыгожыя бярозкі. Хвілямі мне здавалася, што гэта Банева. Нават грыбы: стараватыя бабкі, чырвоныя падасінавікі.

Начныя налёты сталі радзейшымі, у пачатку кастрычніка наогул перапыніліся. Мы не здавалі сабе справы, што гэта ў цэлым не абазначае паляпшэння на фронце, а проста адваротнае...

Аднойчы я ішоў да некага ў бок Арбату. Быў хмурны, ранні, кастрычніцкі вечар. Завулкі тут крутыя, поўна драўляных дамкоў за высокімі парканамі. У адным месцы камяніца вылезла на сярэдзіну завулка, трэба было яе абмінуць.

Адышоўся за некалькі паваротаў. Раптам з нізкіх хмар вырвалася выццё самалёта. Цёмны, злавесны сілуэт вынырнуў тут жа з-над дахаў, прамільгнуў над намі. Праз пару секунд грукат, аж забранчалі ўсе ваколічныя шыбы.

Вяртаюся. Няма дома-заваліdарогі. Заміж яго куча дымнай цэглы і людзі, якія ў ёй грэбаюцца.

Такія пракрадванні пад самую Маскву без выклікання трывогі - бо самалёты адзіночныя, сталі магчымымі, паколькі ад 2 кастрычніка немцы зноў перайшлі ў вялікае наступленне на Цэнтральным фронце, узламалі савецкую абарону і рушылі проста на Маскву. А гэта ўсё дзякуючы іхнім поспехам на поўдні, дзе яны ўжо раней выйшлі на магістраль Масква-Арол-Курск-Харкаў, і цяпер танкі Гудэрыяна павярнулі на поўнач, на паўночны ўсход, атакуючы Маскву з боку Тулы.

Афіцыйнае камюніке гаварыла пра тое завуалявана. Ва ўсякім разе падалі, што ўзяты Вязьма і Курск. Мы не здавалі сабе толькі справы, што пачалася вялікая аперацыя, мэтай якой непасрэдна была ўжо Масква.

Эвакуацыя, якая ішла ад ліпеня, была прыспешана. Саюз пісьменнікаў выслаў пару транспартаў у Казань. Нехта ад нас выехаў. Слабоднікі ўжо раней вярнуліся ў Уфу.

*(Працяг у наступным нумары.)*

